**аблаго́джваць** *незак., каго* аблаго́джваю, аблаго́джваеш, аблаго́джвае, аблаго́джваем, аблаго́джваеце, аблаго́джваюць; аблаго́джваў, аблаго́джвала, аблаго́джвалі; аблаго́джваючы

**аблаго́дзіць** *зак., каго* аблаго́джу, аблаго́дзіш, аблаго́дзіць, аблаго́дзім, аблаго́дзіце, аблаго́дзяць; аблаго́дзь, =це; аблаго́дзіў, аблаго́дзіла, аблаго́дзілі; аблаго́джаны; аблаго́дзіўшы

**абла́джвацца** *незак.* абла́джваюся, абла́джваешся, абла́джваецца, абла́джваемся, абла́джваецеся, абла́джваюцца; абла́джвайся, =цеся; абла́джваўся, абла́джвалася, абла́джваліся; абла́джваючыся

**абла́джваць** *незак., што* абла́джваю, абла́джваеш, абла́джвае, абла́джваем, абла́джваеце, абла́джваюць; абла́джвай, =це; абла́джваў, абла́джвала, абла́джвалі; абла́джваючы

**абла́дзіцца** *зак.* абла́джуся, абла́дзішся, абла́дзіцца, абла́дзімся, абла́дзіцеся, абла́дзяцца; абла́дзься, =цеся; абла́дзіўся, абла́дзілася, абла́дзіліся; абла́дзіўшыся

**абла́дзіць** *зак., што* абла́джу, абла́дзіш, абла́дзіць, абла́дзім, абла́дзіце, абла́дзяць; абла́дзь, =це; абла́дзіў, абла́дзіла, абла́дзілі; абла́джаны; абла́дзіўшы

**аблажы́цца** *зак.* аблажу́ся, абло́жышся, абло́жыцца, абло́жымся, абло́жыцеся, абло́жацца; аблажы́ся, =цеся; аблажы́ўся, аблажы́лася, аблажы́ліся; аблажы́ўшыся

**аблажы́ць** *зак., каго-што* аблажу́, абло́жыш, абло́жыць, абло́жым, абло́жыце, абло́жаць; аблажы́, =це; аблажы́ў, аблажы́ла, аблажы́лі; абло́жаны; аблажы́ўшы

**абла́зіць** *зак., што,* (*лазіць у многіх месцах*) абла́жу, абла́зіш, абла́зіць, абла́зім, абла́зіце, абла́зяць; абла́зь, =це; абла́зіў, абла́зіла, абла́зілі; абла́зіўшы

**абла́зіць** *незак.,* (*ліняць*) абла́зіць, абла́зяць; абла́зіў, абла́зіла, абла́зілі; абла́зячы

**аблакаці́цца** *зак.* аблакачу́ся, аблако́цішся, аблако́ціцца, аблако́цімся, аблако́ціцеся, аблако́цяцца; аблакаці́ся, =цеся; аблакаці́ўся, аблакаці́лася, аблакаці́ліся; аблакаці́ўшыся

**аблако́чвацца** *незак.* аблако́чваюся, аблако́чваешся, аблако́чваецца, аблако́чваемся, аблако́чваецеся, аблако́чваюцца; аблако́чвайся, =цеся; аблако́чваўся, аблако́чвалася, аблако́чваліся; аблако́чваючыся

**аблакці́равацца** *зак.* аблакці́руецца, аблакці́руюцца; аблакці́раваўся, аблакці́равалася, аблакці́раваліся

**аблакці́раваць** *зак., што* аблакці́рую, аблакці́руеш, аблакці́руе, аблакці́руем, аблакці́руеце, аблакці́руюць; аблакці́руй, =це; аблакці́раваў, аблакці́равала, аблакці́равалі; аблакці́раваны; аблакці́раваўшы

**аблама́ць** *зак., каго-што* абламлю́, абло́міш, абло́міць, абло́мім, абло́міце, абло́мяць; аблámí, =це; аблама́ў, аблама́ла, аблама́лі; аблама́ны *і* абло́маны; аблама́ўшы

**абла́паць** *зак., каго-што* абла́паю, абла́паеш, абла́пае, абла́паем, абла́паеце, абла́паюць; абла́пай, =це; абла́паў, абла́пала, абла́палі; абла́паны; абла́паўшы

**абла́піць** *зак., каго-што* абла́плю, абла́піш, абла́піць, абла́пім, абла́піце, абла́пяць; абла́п, =це; абла́піў, абла́піла, абла́пілі; абла́плены; абла́піўшы

**абла́пліваць** *незак., каго-што* абла́пліваю, абла́пліваеш, абла́плівае, абла́пліваем, абла́пліваеце, абла́пліваюць; абла́плівай, =це; абла́пліваў, абла́плівала, абла́плівалі; абла́пліваючы

**аблапо́шваць** *незак., каго-што* аблапо́шваю, аблапо́шваеш, аблапо́швае, аблапо́шваем, аблапо́шваеце, аблапо́шваюць; аблапо́швай, =це; аблапо́шваў, аблапо́швала, аблапо́швалі; аблапо́шваючы

**аблапо́шыць** *зак., каго-што* аблапо́шу, аблапо́шыш, аблапо́шыць, аблапо́шым, аблапо́шыце, аблапо́шаць; аблапо́ш, =це; аблапо́шыў, аблапо́шыла, аблапо́шылі; аблапо́шаны; аблапо́шыўшы

**абла́таць** *зак., каго-што* абла́таю, абла́таеш, абла́тае, абла́таем, абла́таеце, абла́таюць; абла́тай, =це; абла́таў, абла́тала, абла́талі; абла́таны; абла́таўшы

**аблаташы́ць** *зак., што* аблаташу́, аблато́шыш, аблато́шыць, аблато́шым, аблато́шыце, аблато́шаць; аблато́ш, =це; аблаташы́ў, аблаташы́ла, аблаташы́лі; аблато́шаны; аблаташы́ўшы

**аблато́шваць** *незак., што* аблато́шваю, аблато́шваеш, аблато́швае, аблато́шваем, аблато́шваеце, аблато́шваюць; аблато́швай, =це; аблато́шваў, аблато́швала, аблато́швалі; аблато́шваючы

**аблахма́цець** *зак.* аблахма́цею, аблахма́цееш, аблахма́цее, аблахма́цеем, аблахма́цееце, аблахма́цеюць; аблахма́цеў, аблахма́цела, аблахма́целі; аблахма́цеўшы

**аблахма́ціцца** *зак.* аблахма́чуся, аблахма́цішся, аблахма́ціцца, аблахма́цімся, аблахма́ціцеся, аблахма́цяцца; аблахма́ціўся, аблахма́цілася, аблахма́ціліся; аблахма́ціўшыся

**абла́шчваць** *незак., каго-што* абла́шчваю, абла́шчваеш, абла́шчвае, абла́шчваем, абла́шчваеце, абла́шчваюць; абла́шчваў, абла́шчвала, абла́шчвалі; абла́шчваючы

**абла́шчыць** *зак., каго-што* абла́шчу, абла́шчыш, абла́шчыць, абла́шчым, абла́шчыце, абла́шчаць; аблашч *і* абла́шчы, =це; абла́шчыў, абла́шчыла, абла́шчылі; абла́шчаны; абла́шчыўшы

**абла́яць** *зак., каго-што* абла́ю, абла́еш, абла́е, абла́ем, абла́еце, абла́юць; абла́яў, абла́яла, абла́ялі; абла́яны; абла́яўшы

**абле́гчы** *зак., што і без дап.* абля́гу, абля́жаш, абля́жа, абля́жам, абля́жаце, абля́гуць; абля́ж, =це; аблёг, аблягла́, аблягло́, аблягі́; аблёгшы

**абле́гчыся** *зак.* абля́жацца, абля́гуцца; аблёгся, аблягла́ся, аблягло́ся, аблягі́ся

**абледзяне́ць** *зак.* абледзяне́ю, абледзяне́еш, абледзяне́е, абледзяне́ем, абледзяне́еце, абледзяне́юць; абледзяне́ў, абледзяне́ла, абледзяне́лі; абледзяне́ўшы; абледзяне́ўшы

**абле́жвацца** *незак.* абле́жваецца, абле́жваюцца; абле́жваўся, абле́жвалася, абле́жваліся

**абле́жваць** *незак., што* абле́жваю, абле́жваеш, абле́жвае, абле́жваем, абле́жваеце, абле́жваюць; абле́жвай, =це; абле́жваў, абле́жвала, абле́жвалі; абле́жваючы

**абле́зці** *зак.* абле́зу, абле́зеш, абле́зе, абле́зем, абле́зеце, абле́зуць; абле́з, абле́зла, абле́злі; абле́зшы

**абленава́цца** *зак.* абляну́юся, абляну́ешся, абляну́ецца, абляну́емся, абляну́ецеся, абляну́юцца; абленава́ўся, абленава́лася, абленава́ліся; абленава́ўшыся

**абле́пліваць**цца *незак.* абле́пліваюся, абле́пліваешся, абле́пліваецца, абле́пліваемся, абле́пліваецеся, абле́пліваюцца; абле́плівайся, =цеся; абле́пліваўся, абле́плівалася, абле́пліваліся; абле́пліваючыся

**абле́пліваць** *незак., каго-што* абле́пліваю, абле́пліваеш, абле́плівае, абле́пліваем, абле́пліваеце, абле́пліваюць; абле́плівай, =це; абле́пліваў, абле́плівала, абле́плівалі; абле́пліваючы

**абле́таваць** *зак.* абле́туе, абле́туюць; абле́таваў, абле́тавала, абле́тавалі

**аблётацца** *зак.* аблётаецца, аблётаюцца; аблётаўся, аблёталася, аблёталіся

**аблётаць** *зак., што* аблётаю, аблётаеш, аблётае, аблётаем, аблётаеце, аблётаюць; аблётай, =це; аблётаў, аблётала, аблёталі; аблётаны; аблётаўшы

**аблётваць** *незак., што* аблётваю, аблётваеш, аблётвае, аблётваем, аблётваеце, аблётваюць; аблётвай, =це; аблётваў, аблётвала, аблётвалі; аблётваючы

**абліва́цца** *незак.* абліва́юся, абліва́ешся, абліва́ецца, абліва́емся, абліва́ецеся, абліва́юцца; абліва́йся, =цеся; абліва́ўся, абліва́лася, абліва́ліся; абліва́ючыся

**абліва́ць** *незак., каго-што* абліва́ю, абліва́еш, абліва́е, абліва́ем, абліва́еце, абліва́юць; абліва́й, =це; абліва́ў, абліва́ла, абліва́лі; абліва́ны; абліва́ючы

**абліза́цца** *зак.* абліжу́ся, аблі́жашся, аблі́жацца, аблі́жамся, аблі́жацеся, аблі́жуцца; абліжы́ся, =цеся; абліза́ўся, абліза́лася, абліза́ліся; абліза́ўшыся

**абліза́ць** *зак., каго-што* абліжу́, аблі́жаш, аблі́жа, аблі́жам, аблі́жаце, аблі́жуць; абліжы́, =це; абліза́ў, абліза́ла, абліза́лі; аблі́заны; абліза́ўшы

**аблі́звацца** *незак.* аблі́зваюся, аблі́зваешся, аблі́зваецца, аблі́зваемся, аблі́зваецеся, аблі́зваюцца; аблі́звайся, =цеся; аблі́зваўся, аблі́звалася, аблі́зваліся; аблі́зваючыся

**аблі́зваць** *незак., каго-што* аблі́зваю, аблі́зваеш, аблі́звае, аблі́зваем, аблі́зваеце, аблі́зваюць; аблі́звай, =це; аблі́зваў, аблі́звала, аблі́звалі; аблі́зваючы

**аблізну́цца** *зак.* аблізну́ся, аблізне́шся, аблізне́цца, аблізнёмся, аблізняце́ся, аблізну́цца; аблізні́ся, =цеся; аблізну́ўся, аблізну́лася, аблізну́ліся; аблізну́ўшыся

**аблізну́ць** *зак., каго-што* аблізну́, аблізне́ш, аблізне́, аблізнём, аблізняце́, аблізну́ць; аблізні́, =це; аблізну́ў, аблізну́ла, аблізну́лі; аблізну́ўшы

**абліпа́ць** *незак.* абліпа́е, абліпа́юць; абліпа́ў, абліпа́ла, абліпа́лі

**аблі́пнуць** *зак.* аблі́пне, аблі́пнуць; аблі́п, аблі́пла, аблі́плі

**аблі́сцець** *зак.* аблі́сцее, аблі́сцеюць; аблі́сцеў, аблі́сцела, аблі́сцелі

**абліцава́ць** *зак., што* абліцу́ю, абліцу́еш, абліцу́е, абліцу́ем, абліцу́еце, абліцу́юць; абліцу́й, =це; абліцава́ў, абліцава́ла, абліцава́лі; абліцава́ны *і* абліцо́ваны; абліцава́ўшы

**абліцо́ўвацца** *незак.* абліцо́ўваецца, абліцо́ўваюцца; абліцо́ўваўся, абліцо́ўвалася, абліцо́ўваліся

**абліцо́ўваць** *незак., што* абліцо́ўваю, абліцо́ўваеш, абліцо́ўвае, абліцо́ўваем, абліцо́ўваеце, абліцо́ўваюць; абліцо́ўвай, =це; абліцо́ўваў, абліцо́ўвала, абліцо́ўвалі; абліцо́ўваючы

**аблі́цца** *зак.* аблію́ся, абліе́шся, абліе́цца, абліёмся, абліяце́ся, аблію́цца; *і* абалью́ся, абалье́шся, абалье́цца, абальёмся, абальяце́ся, абалью́цца; аблі́ся, =цеся; аблі́ўся, абліла́ся, абліло́ся, аблілі́ся; аблі́ўшыся

**аблі́ць** *зак., каго-што* аблію́, абліе́ш, абліе́, абліём, абліяце́, аблію́ць; *і* абалью́, абалье́ш, абалье́, абальём, абальяце́, абалью́ць; аблі́, =це; аблі́ў, абліла́, абліло́, аблілі́; аблі́ты; аблі́ўшы

**аблі́чвацца** *незак.* аблі́чваюся, аблі́чваешся, аблі́чваецца, аблі́чваемся, аблі́чваецеся, аблі́чваюцца; аблі́чваўся, аблі́чвалася, аблі́чваліся; аблі́чваючыся

**аблі́чваць** *незак., каго-што* аблі́чваю, аблі́чваеш, аблі́чвае, аблі́чваем, аблі́чваеце, аблі́чваюць; аблі́чвай, =це; аблі́чваў, аблі́чвала, аблі́чвалі; аблі́чваючы

**абліčы́цца** *зак.* аблічу́ся, аблі́чышся, аблі́чыцца, аблі́чымся, аблі́чыцеся, аблі́чацца; аблічы́ся,

=цеся; аблічы́ўся, аблічы́лася, аблічы́ліся; аблічы́ўшыся

**аблічы́ць** *зак., каго-што* аблічу́, аблі́чыш, аблі́чыць, аблі́чым, аблі́чыце, аблі́чаць; аблічы́, =це; аблічы́ў, аблічы́ла, аблічы́лі; аблі́чаны; аблічы́ўшы

**абло́жваць** *незак., каго-што* абло́жваю, абло́жваеш, абло́жвае, абло́жваем, абло́жваеце, абло́жваюць; абло́жвай, =це; абло́жваў, абло́жвала, абло́жвалі; абло́жваючы

**абло́мвацца** *незак.* абло́мваюся, абло́мваешся, абло́мваецца, абло́мваемся, абло́мваецеся, абло́мваюцца; абло́мваўся, абло́мвалася, абло́мваліся; абло́мваючыся

**абло́мваць** *незак., каго-што* абло́мваю, абло́мваеш, абло́мвае, абло́мваем, абло́мваеце, абло́мваюць; абло́мвай, =це; абло́мваў, абло́мвала, абло́мвалі; абло́мваючы

**абло́мліварцца** *незак.* абло́мліваюся, абло́мліваешся, абло́мліваецца, абло́мліваемся, абло́мліваецеся, абло́мліваюцца; абло́мліваўся, абло́млівалася, абло́мліваліся; абло́мліваючыся

**абло́мліваць** *незак., каго-што* абло́мліваю, абло́мліваеш, абло́млівае, абло́мліваем, абло́мліваеце, абло́мліваюць; абло́млівай, =це; абло́мліваў, абло́млівала, абло́млівалі; абло́мліваючы

**абло́ўлівацца** *незак.* абло́ўліваецца, абло́ўліваюцца; абло́ўліваўся, абло́ўлівалася, абло́ўліваліся

**абло́ўліваць** *незак., што* абло́ўліваю, абло́ўліваеш, абло́ўлівае, абло́ўліваем, абло́ўліваеце, абло́ўліваюць; абло́ўлівай, =це; абло́ўліваў, абло́ўлівала, абло́ўлівалі; абло́ўліваючы

**аблуза́цца** *зак.* аблуза́ецца, аблуза́юцца; аблуза́ўся, аблуза́лася, аблуза́ліся

**аблуза́ць** *зак., што* аблуза́ю, аблуза́еш, аблуза́е, аблуза́ем, аблуза́еце, аблуза́юць; аблуза́й, =це; аблуза́ў, аблуза́ла, аблуза́лі; аблуза́ны; аблуза́ўшы

**аблу́звацца** *незак.* аблу́зваецца, аблу́зваюцца; аблу́зваўся, аблу́звалася, аблу́зваліся

**аблу́зваць** *незак., што* аблу́зваю, аблу́зваеш, аблу́звае, аблу́зваем, аблу́зваеце, аблу́зваюць; аблу́звай, =це; аблу́зваў, аблу́звала, аблу́звалі; аблу́зваючы

**аблупі́цца** *зак.* аблу́піцца, аблу́пяцца; аблупі́ўся, аблупі́лася, аблупі́ліся; аблупі́ўшыся

**аблупі́ць** *зак., каго-што* аблуплю́, аблу́піш, аблу́піць, аблу́пім, аблу́піце, аблу́пяць; аблупі́, =це; аблупі́ў, аблупі́ла, аблупі́лі; аблу́плены; аблупі́ўшы

**аблу́плівацца** *незак.* аблу́пліваецца, аблу́пліваюцца; аблу́пліваўся, аблу́плівалася, аблу́пліваліся

**аблу́пліваць** *незак., каго-што* аблу́пліваю, аблу́пліваеш, аблу́плівае, аблу́пліваем, аблу́пліваеце, аблу́пліваюць; аблу́плівай, =це; аблу́пліваў, аблу́плівала, аблу́плівалі; аблу́пліваючы

**аблу́шчвацца** *незак.* аблу́шчваецца, аблу́шчваюцца; аблу́шчваўся, аблу́шчвалася, аблу́шчваліся

**аблу́шчваць** *незак., што* аблу́шчваю, аблу́шчваеш, аблу́шчвае, аблу́шчваем, аблу́шчваеце, аблу́шчваюць; аблу́шчвай, =це; аблу́шчваў, аблу́шчвала, аблу́шчвалі; аблу́шчваючы

**аблу́шчыцца** *зак.* аблу́шчыцца, аблу́шчацца; аблу́шчыўся, аблу́шчылася, аблу́шчыліся

**аблу́шчыць** *зак., што* аблу́шчу, аблу́шчыш, аблу́шчыць, аблу́шчым, аблу́шчыце, аблу́шчаць; аблушч *і* аблу́шчы, =це; аблу́шчыў, аблу́шчыла, аблу́шчылі; аблу́шчаны; аблу́шчыўшы

**аблыга́ць** *зак., што* аблыга́ю, аблыга́еш, аблыга́е, аблыга́ем, аблыга́еце, аблыга́юць; аблыга́й, =це; аблыга́ў, аблыга́ла, аблыга́лі; аблыга́ны *і* аблы́ганы; аблыга́ўшы

**аблы́гваць** *незак., што* аблы́гваю, аблы́гваеш, аблы́гвае, аблы́гваем, аблы́гваеце, аблы́гваюць; аблы́гвай, =це; аблы́гваў, аблы́гвала, аблы́гвалі; аблы́гваючы

**аблысе́ць** *зак.* аблысе́ю, аблысе́еш, аблысе́е, аблысе́ем, аблысе́еце, аблысе́юць; аблысе́ў, аблысе́ла, аблысе́лі; аблысе́ўшы

**аблы́тацца** *зак.* аблы́таюся, аблы́таешся, аблы́таецца, аблы́таемся, аблы́таецеся, аблы́таюцца; аблы́тайся, =цеся; аблы́таўся, аблы́талася, аблы́таліся; аблы́таўшыся

**аблы́таць** *зак., каго-што* аблы́таю, аблы́таеш, аблы́тае, аблы́таем, аблы́таеце, аблы́таюць; аблы́тай, =це; аблы́таў, аблы́тала, аблы́талі; аблы́таны; аблы́таўшы

**аблы́твацца** *незак.* аблы́тваюся, аблы́тваешся, аблы́тваецца, аблы́тваемся, аблы́тваецеся, аблы́тваюцца; аблы́твайся, =цеся; аблы́тваўся, аблы́твалася, аблы́тваліся; аблы́тваючыся

**аблы́тваць** *незак., каго-што* аблы́тваю, аблы́тваеш, аблы́твае, аблы́тваем, аблы́тваеце, аблы́тваюць; аблы́твай, =це; аблы́тваў, аблы́твала, аблы́твалі; аблы́тваючы

**аблюбава́ць** *зак., каго-што* аблюбу́ю, аблюбу́еш, аблюбу́е, аблюбу́ем, аблюбу́еце, аблюбу́юць; аблюбу́й, =це; аблюбава́ў, аблюбава́ла, аблюбава́лі; аблюбава́ны; аблюбава́ўшы

**аблюбо́ўвацца** *незак.* аблюбо́ўваецца, аблюбо́ўваюцца; аблюбо́ўваўся, аблюбо́ўвалася, аблюбо́ўваліся

**аблюбо́ўваць** *незак., каго-што* аблюбо́ўваю, аблюбо́ўваеш, аблюбо́ўвае, аблюбо́ўваем, аблюбо́ўваеце, аблюбо́ўваюць; аблюбо́ўвай, =це; аблюбо́ўваў, аблюбо́ўвала, аблюбо́ўвалі; аблюбо́ўваючы

**аблягá́ць** *незак., што* аблягáе, аблягáюць; аблягáў, аблягáла, аблягáлі; аблягáючы

**аблягчá́цца** *незак.* аблягчáюся, аблягчáешся, аблягчáецца, аблягчáемся, аблягчáецеся, аблягчáюцца; аблягчáйся, =цеся; аблягчáўся, аблягчáлася, аблягчáліся; аблягчáючыся

**аблягчá́ць** *незак., што* аблягчáю, аблягчáеш, аблягчáе, аблягчáем, аблягчáеце, аблягчáюць; аблягчáй, =це; аблягчáў, аблягчáла, аблягчáлі; аблягчáючы

**аблягчы́цца** *зак.* аблягчýся, аблéгчышся, аблéгчыцца, аблéгчымся, аблéгчыцеся, аблéгчацца; аблягчы́ся, =цеся; аблягчы́ўся, аблягчы́лася аблягчы́ліся; аблягчы́ўшыся

**аблягчы́ць** *зак., што* аблягчý, аблéгчыш, аблéгчыць, аблéгчым, аблéгчыце, аблéгчаць; аблягчы́, =це; аблягчы́ў, аблягчы́ла, аблягчы́лі; аблéгчаны; аблягчы́ўшы

**абляжá́цца** *зак.* абляжы́цца, абляжáцца; абляжáўся, абляжáлася, абляжáліся; абляжáўшыся

**абляжá́ць** *зак., што* абляжý, абляжы́ш, абляжы́ць, абляжы́м, аблежыцé, абляжáць; абляжáў, абляжáла, абляжáлі; аблéжаны; абляжáўшы

**аблямавá́ць** *зак., што* аблямýю, аблямýеш, аблямýе, аблямýем, аблямýеце, аблямýюць; аблямýй, =це; аблямавáў, аблямавáла, аблямавáлі; аблямавáны; аблямавáўшы

**аблямó́ўвацца** *незак.* аблямóўваецца, аблямóўваюцца; аблямóўваўся, аблямóўвалася, аблямóўваліся

**аблямó́ўваць** *незак., што* аблямóўваю, аблямóўваеш, аблямóўвае, аблямóўваем, аблямóўваеце, аблямóўваюць; аблямóўвай, =це; аблямóўваў, аблямóўвала, аблямóўвалі; аблямóўваючы

**абля́́пацца** *зак.* абля́паюся, абля́паешся, абля́паецца, абля́паемся, абля́паецеся, абля́паюцца; абля́пайся, =цеся; абля́паўся, абля́палася, абля́паліся; абля́паўшыся

**абля́́паць** *зак., каго-што* абля́паю, абля́паеш, абля́пае, абля́паем, абля́паеце, абля́паюць; абля́пай, =це; абля́паў, абля́пала, абля́палі; абля́паны; абля́паўшы

**абля́́пвацца** *незак.,* абля́пваюся, абля́пваешся, абля́пваецца, абля́пваемся, абля́пваецеся, абля́пваюцца; абля́пваўся, абля́пвалася, абля́пваліся; абля́пваючыся

**абля́́пваць** *незак., каго-што* абля́пваю, абля́пваеш, абля́пвае, абля́пваем, абля́пваеце, абля́пваюць; абля́пвай, =це; абля́пваў, абля́пвала, абля́пвалі; абля́пваючы

**абляпí́цца** *зак.* абляплю́ся, аблéпішся, аблéпіцца, аблéпімся, аблéпіцеся, аблéпяцца; абляпі́ся, =цеся; абляпі́ўся, абляпі́лася, абляпі́ліся; абляпі́ўшыся

**абляпí́ць** *зак., каго-што* абляплю́, аблéпіш, аблéпіць, аблéпім, аблéпіце, аблéпяць; абляпí, =це; абляпі́ў, абляпі́ла, абляпі́лі; аблéплены; абляпі́ўшы

**абляпля́́цца** *незак.* абляпля́юся, абляпля́ешся, абляпля́ецца, абляпля́емся, абляпля́ецеся; абляпля́юцца; абляпля́ўся, абляпля́лася абляпля́ліся; абляпля́ючыся

**абляпля́́ць** *незак., каго-што* абляпля́ю, абляпля́еш, абляпля́е, абляпля́ем, абляпля́еце, абляпля́юць; абляпля́й, =це; абляпля́ў, абляпля́ла, абляпля́лі; абляпля́ючы

**аблясí́ць** *зак., што* абляшý, аблéсіш, аблéсіць, аблéсім, аблéсіце, аблéсяць; аблясí, =це; аблясі́ў, аблясі́ла, аблясі́лі; аблéсены; аблясі́ўшы

**аблятá́ць** *зак., што* аблятáю, аблятáеш, аблятáе, аблятáем, аблятáеце, аблятáюць; аблятáй, =це; аблятáў, аблятáла, аблятáлі; аблятáны; аблятáўшы

**аблятá́ць** *незак., каго-што* аблятáю, аблятáеш, аблятáе, аблятáем, аблятáеце, аблятáюць; аблятáй, =це; аблятáў, аблятáла, аблятáлі; аблятáючы

**абляцé́ць** *зак., каго-што* аблячý, абляцí́ш, абляцí́ць, абляцí́м, аблецíцé, абляця́ць; абляцí́, =це; абляцéў, абляцéла, абляцéлі; абляцéўшы

**абмá́зацца** *зак.* абмáжуся, абмáжашся, абмáжацца, абмáжамся, абмáжацеся, абмáжуцца; абмáжся, =цеся; абмáзаўся, абмáзалася, абмáзаліся; абмáзаўшыся

**абмá́заць** *зак., каго-што* абмáжу, абмáжаш, абмáжа, абмáжам, абмáжаце, абмáжуць; абмáж, =це; абмáзаў, абмáзала, абмáзалі; абмáзаны; абмáзаўшы

**абмá́звацца** *незак.* абмáзваюся, абмáзваешся, абмáзваецца, абмáзваемся, абмáзваецеся, абмáзваюцца; абмáзвайся, =цеся; абмáзваўся, абмáзвалася, абмáзваліся; абмáзваючыся

**абмá́зваць** *незак., каго-што* абмáзваю, абмáзваеш, абмáзвае, абмáзваем, абмáзваеце, абмáзваюць; абмáзвай, =це; абмáзваў, абмáзвала, абмáзвалі; абмáзваючы

**абмазгавá́ць** *зак., што* абмазгýю, абмазгýеш, абмазгýе, абмазгýем, абмазгýеце, абмазгýюць; абмазгýй, =це; абмазгавáў, абмазгавáла, абмазгавáлі; абмазгавáны; абмазгавáўшы

**абмазгó́ўваць** *незак., што* абмазгóўваю, абмазгóўваеш, абмазгóўвае, абмазгóўваем, абмазгóўваеце, абмазгóўваюць; абмазгóўвай, =це; абмазгóўваў, абмазгóўвала, абмазгóўвалі; абмазгóўваючы

**абмакá́ць** *незак.* абмакáю, абмакáеш, абмакáе, абмакáем, абмакáеце, абмакáюць; абмакáй, =це; абмакáў, абмакáла, абмакáлі; абмакáючы

**абмá́кваць** *незак., што ў што* абмáкваю, абмáкваеш, абмáквае, абмáкваем, абмáкваеце, аб-

ма́кваюць; абма́квай, =це; абма́кваў, абма́квала, абма́квалі; абма́кваючы

**абмакну́ць** *зак., што ў што* абмакну́, абмакне́ш, абмакне́, абмакнём, абмакняце́, абмакну́ць; абмакні́, =це; абмакну́ў, абмакну́ла, абмакну́лі; абмакну́ўшы

**абмакрэ́ць** *зак.* абмакрэ́ю, абмакрэ́еш, абмакрэ́е, абмакрэ́ем, абмакрэ́еце, абмакрэ́юць; абмакрэ́ў, абмакрэ́ла, абмакрэ́лі; абмакрэ́ўшы

**абмаладзі́цца** *зак.* абмаладжу́ся, абмало́дзішся, абмало́дзіцца, абмало́дзімся, абмало́дзіцеся, абмало́дзяцца; абмаладзі́ся, =цеся; абмаладзі́ўся, абмаладзі́лася, абмаладзі́ліся; абмаладзі́ўшыся

**абмаладзі́ць** *зак., каго-што* абмаладжу́, абмало́дзіш, абмало́дзіць, абмало́дзім, абмало́дзіце, абмало́дзяць; абмаладзі́, =це; абмаладзі́ў, абмаладзі́ла, абмаладзі́лі; абмало́джаны; абмаладзі́ўшы

**абмалаці́цца** *зак.* абмалачу́ся, абмало́цішся, абмало́ціцца, абмало́цімся, абмало́ціцеся, абмало́цяцца; абмалаці́ся, =цеся; абмалаці́ўся, абмалаці́лася, абмалаці́ліся; абмалаці́ўшыся

**абмалаці́ць** *зак., што* абмалачу́, абмало́ціш, абмало́ціць, абмало́цім, абмало́ціце, абмало́цяць; абмалаці́, =це; абмалаці́ў, абмалаці́ла, абмалаці́лі; абмало́чаны; абмалаці́ўшы

**абмалёўвацца** *незак.* абмалёўваецца, абмалёўваюцца; абмалёўваўся, абмалёўвалася, абмалёўваліся

**абмалёўваць** *незак., што* абмалёўваю, абмалёўваеш, абмалёўвае, абмалёўваем, абмалёўваеце, абмалёўваюць; абмалёўвай, =це; абмалёўваў, абмалёўвала, абмалёўвалі; абмалёўваючы

**абмало́джвацца** *незак.* абмало́джваюся, абмало́джваешся, абмало́джваецца, абмало́джваемся, абмало́джваецеся, абмало́джваюцца; абмало́джвайся, =цеся; абмало́джваўся, абмало́джвалася, абмало́джваліся; абмало́джваючыся

**абмало́джваць** *незак., каго-што* абмало́джваю, абмало́джваеш, абмало́джвае, абмало́джваем, абмало́джваеце, абмало́джваюць; абмало́джвай, =це; абмало́джваў, абмало́джвала, абмало́джвалі; абмало́джваючы

**абмало́ць** *зак., што* абмялю́, абме́леш, абме́ле, абме́лем, абме́леце, абме́люць; абмялі́, =це; абмало́ў, абмало́ла, абмало́лі; абмало́ўшы

**абмало́чвацца** *незак.* абмало́чваецца, абмало́чваюцца; абмало́чваўся, абмало́чвалася, абмало́чваліся

**абмало́чваць** *незак., што* абмало́чваю, абмало́чваеш, абмало́чвае, абмало́чваем, абмало́чваеце, абмало́чваюць; абмало́чвай, =це; абмало́чваў, абмало́чвала, абмало́чвалі; абмало́чваючы

**абмалява́цца** *зак.* абмалю́юся, абмалю́ешся, абмалю́ецца, абмалю́емся, абмалю́ецеся, абмалю́юцца; абмалява́ўся, абмалява́лася, абмалява́ліся; абмалява́ўшыся

**абмалява́ць** *зак., што* абмалю́ю, абмалю́еш, абмалю́е, абмалю́ем, абмалю́еце, абмалю́юць; абмалю́й, =це; абмалява́ў, абмалява́ла, абмалява́лі; абмалява́ны; абмалява́ўшы

**абма́нвацца** *незак.* абма́нваюся, абма́нваешся, абма́нваецца, абма́нваемся, абма́нваецеся, абма́нваюцца; абма́нваўся, абма́нвалася, абма́нваліся; абма́нваючыся

**абмані́ць** *зак., каго-што* абманю́, абма́ніш, абма́ніць, абма́нім, абма́ніце, абма́няць; абмані́, =це; абмані́ў, абмані́ла, абмані́лі; абмані́ўшы

**абману́цца** *зак.* абману́ся, абмане́шся, абмане́цца, абманёмся, абманяце́ся, абману́цца; абману́ўся, абману́лася, абману́ліся; абману́ўшыся

**абману́ць** *зак., каго-што* абману́, абмане́ш, абмане́, абманём, абманяце́, абману́ць; абмані́, =це; абману́ў, абману́ла, абману́лі; абману́ты, абману́ўшы

**абмарачы́цца** *зак.* абмарачу́ся, абмаро́чышся, абмаро́чыцца, абмаро́чымся, абмаро́чыцеся, абмаро́чацца; абмарачы́ўся, абмарачы́лася, абмарачы́ліся; абмарачы́ўшыся

**абмарачы́ць** *зак., каго-што* абмарачу́, абмаро́чыш, абмаро́чыць, абмаро́чым, абмаро́чыце, абмаро́чаць; абмарачы́, =це; абмарачы́ў, абмарачы́ла, абмарачы́лі; абмаро́чаны; абмарачы́ўшы

**абмаро́жвацца** *незак.* абмаро́жваюся, абмаро́жваешся, абмаро́жваецца, абмаро́жваемся, абмаро́жваецеся, абмаро́жваюцца; абмаро́жваўся, абмаро́жвалася, абмаро́жваліся

**абмаро́жваць** *незак., каго-што* абмаро́жваю, абмаро́жваеш, абмаро́жвае, абмаро́жваем, абмаро́жваеце, абмаро́жваюць; абмаро́жвай, =це; абмаро́жваў, абмаро́жвала, абмаро́жвалі; абмаро́жваючы

**абмаро́зіцца** *зак.* абмаро́жуся, абмаро́зішся, абмаро́зіцца, абмаро́зімся, абмаро́зіцеся, абмаро́зяцца; абмаро́зіўся, абмаро́зілася, абмаро́зіліся; абмаро́зіўшыся

**абмаро́зіць** *зак., каго-што* абмаро́жу, абмаро́зіш, абмаро́зіць, абмаро́зім, абмаро́зіце, абмаро́зяць; абмаро́зь, =це; абмаро́зіў, абмаро́зіла, абмаро́зілі; абмаро́жаны; абмаро́зіўшы

**абмаро́чваць** *незак., каго-што* абмаро́чваю, абмаро́чваеш, абмаро́чвае, абмаро́чваем, абмаро́чваеце, абмаро́чваюць; абмаро́чвай, =це; абмаро́чваў, абмаро́чвала, абмаро́чвалі; абмаро́чваючы

**абма́слівацца** *незак.* абма́сліваюся, абма́сліваешся, абма́сліваецца, абма́сліваемся, абма́сліваецеся, абма́сліваюцца; абма́сліваўся, абма́слівалася, абма́сліваліся; абма́сліваючыся

**абма́сліваць** *незак., што* абма́слііваю, абма́сліваеш, абма́слівае, абма́сліваем, абма́сліваеце, аб-

ма́сліваюць; абма́слівай, =це; абма́сліваў, абма́слівала, абма́слівалі; абма́сліваючы

**абма́сліцца** *зак.* абма́слюся, абма́слішся, абма́сліцца, абма́слімся, абма́сліцеся, абма́сляцца; абма́сліўся, абма́слілася, абма́сліліся; абма́сліўшыся

**абма́сліць** *зак., што* абма́слю, абма́сліш, абма́сліць, абма́слім, абма́сліце, абма́сляць; абма́слі, =це; абма́сліў, абма́сліла, абма́слілі; абма́слены; абма́сліўшы

**абмата́цца** *зак.* абмата́юся, абмата́ешся, абмата́ецца, абмата́емся, абмата́ецеся, абмата́юцца; абмата́йся, =цеся; абмата́ўся, абмата́лася, абмата́ліся; абмата́ўшыся

**абмата́ць** *зак., каго-што* абмата́ю, абмата́еш, абмата́е, абмата́ем, абмата́еце, абмата́юць; абмата́й, =це; абмата́ў, абмата́ла, абмата́лі; абмата́ны *і* абмо́таны; абмата́ўшы

**абматыкава́ць** *зак., што* абматыку́ю, абматыку́еш, абматыку́е, абматыку́ем, абматыку́еце, абматыку́юць; абматыку́й, =це; абматыкава́ў, абматыкава́ла, абматыкава́лі; абматыкава́ны; абматыкава́ўшы

**абматы́чыць** *зак., што* абматы́чу, абматы́чыш, абматы́чыць, абматы́чым, абматы́чыце, абматы́чаць; абматы́ч, =це; абматы́чыў, абматы́чыла, абматы́чылі; абматы́чаны; абматы́чыўшы

**абмаўля́цца** *незак.* абмаўля́юся, абмаўля́ешся, абмаўля́ецца, абмаўля́емся, абмаўля́ецеся, абмаўля́юцца; абмаўля́ўся, абмаўля́лася, абмаўля́ліся; абмаўля́ючыся

**абма́хвацца** *незак.* абма́хваюся, абма́хваешся, абма́хваецца, абма́хваемся, абма́хваецеся, абма́хваюцца; абма́хвайся, =цеся; абма́хваўся, абма́хвалася, абма́хваліся; абма́хваючыся

**абма́хваць** *незак., каго-што* абма́хваю, абма́хваеш, абма́хвае, абма́хваем, абма́хваеце, абма́хваюць; абма́хвай, =це; абма́хваў, абма́хвала, абма́хвалі; абма́хваючы

**абмахну́цца** *зак.* абмахну́ся, абмахне́шся, абмахне́цца, абмахнёмся, абмахняце́ся, абмахну́цца; абмахні́ся, =цеся; абмахну́ўся, абмахну́лася, абмахну́ліся; абмахну́ўшыся

**абмахну́ць** *зак., каго-што* абмахну́, абмахне́ш, абмахне́, абмахнём, абмахняце́, абмахну́ць; абмахні́, =це; абмахну́ў, абмахну́ла, абмахну́лі; абмахну́ўшы

**абма́цацца** *зак.* абма́цаюся, абма́цаешся, абма́цаецца, абма́цаемся, абма́цаецеся, абма́цаюцца; абма́цаўся, абма́цалася, абма́цаліся; абма́цаўшыся

**абма́цаць** *зак., каго-што* абма́цаю, абма́цаеш, абма́цае, абма́цаем, абма́цаеце, абма́цаюць; абма́цай, =це; абма́цаў, абма́цала, абма́цалі; абма́цаны; абма́цаўшы

**абма́цвацца** *незак.* абма́цваюся, абма́цваешся, абма́цваецца, абма́цваемся, абма́цваецеся, абма́цваюцца; абма́цваўся, абма́цвалася, абма́цваліся; абма́цваючыся

**абма́цваць** *незак., каго-што* абма́цваю, абма́цваеш, абма́цвае, абма́цваем, абма́цваеце, абма́цваюць; абма́цвай, =це; абма́цваў, абма́цвала, абма́цвалі; абма́цваючы

**абмачы́цца** *зак.* абмачу́ся, абмо́чышся, абмо́чыцца, абмо́чымся, абмо́чыцеся, абмо́чацца; абмачы́ся, =цеся; абмачы́ўся, абмачы́лася, абмачы́ліся; абмачы́ўшыся

**абмачы́ць** *зак., каго-што* абмачу́, абмо́чыш, абмо́чыць, абмо́чым, абмо́чыце, абмо́чаць; абмачы́, =це; абмачы́ў, абмачы́ла, абмачы́лі; абмо́чаны; абмачы́ўшы

**абмежава́цца** *зак.* абмяжу́юся, абмяжу́ешся, абмяжу́ецца, абмяжу́емся, абмяжу́ецеся, абмяжу́юцца; абмяжу́йся, =цеся; абмежава́ўся, абмежава́лася, абмежава́ліся; абмежава́ўшыся

**абмежава́ць** *зак., каго-што* абмяжу́ю, абмяжу́еш, абмяжу́е, абмяжу́ем, абмяжу́еце, абмяжу́юць; абмяжу́й, =це; абмежава́ў, абмежава́ла, абмежава́лі; абмежава́ны; абмежава́ўшы

**абме́ньвацца** *незак.* абме́ньваюся, абме́ньваешся, абме́ньваецца, абме́ньваемся, абме́ньваецеся, абме́ньваюцца; абме́ньвайся, =цеся; абме́ньваўся, абме́ньвалася, абме́ньваліся; абме́ньваючыся

**абме́ньваць** *незак., каго-што* абме́ньваю, абме́ньваеш, абме́ньвае, абме́ньваем, абме́ньваеце, абме́ньваюць; абме́ньвай, =це; абме́ньваў, абме́ньвала, абме́ньвалі; абме́ньваючы

**абме́рацца** *зак.* абме́раюся, абме́раешся, абме́раецца, абме́раемся, абме́раецеся, абме́раюцца; абме́райся, =цеся; абме́раўся, абме́ралася, абме́раліся; абме́раўшыся

**абме́раць** *зак., каго-што* абме́раю, абме́раеш, абме́рае, абме́раем, абме́раеце, абме́раюць; абме́рай, =це; абме́раў, абме́рала, абме́ралі; абме́раны; абме́раўшы

**абме́рвацца** *незак.* абме́рваецца, абме́рваюцца; абме́рваўся, абме́рвалася, абме́рваліся

**абме́рваць** *незак., каго-што* абме́рваю, абме́рваеш, абме́рвае, абме́рваем, абме́рваеце, абме́рваюць; абме́рвай, =це; абме́рваў, абме́рвала, абме́рвалі; абме́рваючы

**абме́рзнуць** *зак.* абме́рзну, абме́рзнеш, абме́рзне, абме́рзнем, абме́рзнеце, абме́рзнуць; абмёрз, абме́рзла, абме́рзлі; абмёрзшы

**абмеркава́ць** *зак., што* абмярку́ю, абмярку́еш, абмярку́е, абмярку́ем, абмярку́еце, абмярку́юць; абмярку́й, =це; абмеркава́ў, абмеркава́ла, абмеркава́лі; абмеркава́ны; абмеркава́ўшы

**абме́рці** *зак.* абамру́, абамрэ́ш, абамрэ́, абамро́м, абамраце́, абамру́ць; абамры́, =це; абмёр, абме́рла, абме́рлі; абмёршы

**абме́сці** *зак., каго-што* абмяту́, абмяце́ш, абмяце́, абмяцём, абмецяце́, абмяту́ць; абмяці́, =це; абмёў, абмяла́, абмяло́, абмялі́; абме́цены; абмёўшы

**абме́швацца** *незак.* абме́шваецца, абме́шваюцца; абме́шваўся, абме́швалася, абме́шваліся

**абме́шваць** *незак., што* абме́шваю, абме́шваеш, абме́швае, абме́шваем, абме́шваеце, абме́шваюць; абме́швай, =це; абме́шваў, абме́швала, абме́швалі; абме́шваючы

**абміна́цца** *незак.* абміна́ецца, абміна́юцца; абміна́ўся, абміна́лася, абміна́ліся

**абміна́ць** *незак., каго-што* абміна́ю, абміна́еш, абміна́е, абміна́ем, абміна́еце, абміна́юць; абміна́й, =це; абміна́ў, абміна́ла, абміна́лі; абміна́ючы

**абміра́ць** *незак.* абміра́ю, абміра́еш, абміра́е, абміра́ем, абміра́еце, абміра́юць; абміра́й, =це; абміра́ў, абміра́ла, абміра́лі; абміра́ючы

**абмо́віцца** *зак.* абмо́ўлюся, абмо́вішся, абмо́віцца, абмо́вімся, абмо́віцеся, абмо́вяцца; абмо́віўся, абмо́вілася, абмо́віліся; абмо́віўшыся

**абмо́кнуць** *зак.* абмо́кну, абмо́кнеш, абмо́кне, абмо́кнем, абмо́кнеце, абмо́кнуць; абмо́кні, =це; абмо́к, абмо́кла, абмо́клі; абмо́кшы

**абмо́твацца** *незак.* абмо́тваюся, абмо́тваешся, абмо́тваецца, абмо́тваемся, абмо́тваецеся, абмо́тваюцца; абмо́твайся, =цеся; абмо́тваўся, абмо́твалася, абмо́тваліся; абмо́тваючыся

**абмо́тваць** *незак., каго-што* абмо́тваю, абмо́тваеш, абмо́твае, абмо́тваем, абмо́тваеце, абмо́тваюць; абмо́твай, =це; абмо́тваў, абмо́твала, абмо́твалі; абмо́тваючы

**абмо́чвацца** *незак.* абмо́чваюся, абмо́чваешся, абмо́чваецца, абмо́чваемся, абмо́чваецеся, абмо́чваюцца; абмо́чваўся, абмо́чвалася, абмо́чваліся; абмо́чваючыся

**абмо́чваць** *незак., каго-што* абмо́чваю, абмо́чваеш, абмо́чвае, абмо́чваем, абмо́чваеце, абмо́чваюць; абмо́чвай, =це; абмо́чваў, абмо́чвала, абмо́чвалі; абмо́чваючы

**абму́львацца** *незак.* абму́льваецца, абму́льваюцца; абму́льваўся, абму́львалася, абму́льваліся

**абму́льваць** *незак., што* абму́льваю, абму́льваеш, абму́львае, абму́льваем, абму́льваеце, абму́льваюць; абму́львай, =це; абму́льваў, абму́львала, абму́львалі; абму́льваючы

**абму́ляцца** *зак.* абму́ляюся, абму́ляешся, абму́ляецца, абму́ляемся, абму́ляецеся, абму́ляюцца; абму́ляўся, абму́лялася, абму́ляліся; абму́ляўшыся

**абму́ляць** *зак., што* абму́ляю, абму́ляеш, абму́ляе, абму́ляем, абму́ляеце, абму́ляюць; абму́ляй, =це; абму́ляў, абму́ляла, абму́лялі; абму́ляны; абму́ляўшы

**абмундзірава́цца** *зак.* абмундзіру́юся, абмундзіру́ешся, абмундзіру́ецца, абмундзіру́емся, абмундзіру́ецеся, абмундзіру́юцца; абмундзіру́йся, =цеся; абмундзірава́ўся, абмундзірава́лася, абмундзірава́ліся; абмундзірава́ўшыся

**абмундзірава́ць** *зак., каго-што* абмундзіру́ю, абмундзіру́еш, абмундзіру́е, абмундзіру́ем, абмундзіру́еце, абмундзіру́юць; абмундзіру́й, =це; абмундзірава́ў, абмундзірава́ла, абмундзірава́лі; абмундзірава́ны; абмундзірава́ўшы

**абмундзіро́ўвацца** *незак.* абмундзіро́ўваюся, абмундзіро́ўваешся, абмундзіро́ўваецца, абмундзіро́ўваемся, абмундзіро́ўваецеся, абмундзіро́ўваюцца; абмундзіро́ўвайся, =цеся; абмундзіро́ўваўся, абмундзіро́ўвалася, абмундзіро́ўваліся; абмундзіро́ўваючыся

**абмундзіро́ўваць** *незак., каго-што* абмундзіро́ўваю, абмундзіро́ўваеш, абмундзіро́ўвае, абмундзіро́ўваем, абмундзіро́ўваеце, абмундзіро́ўваюць; абмундзіро́ўвай, =це; абмундзіро́ўваў, абмундзіро́ўвала, абмундзіро́ўвалі; абмундзіро́ўваючы

**абмурава́цца** *зак.* абмуру́ецца, абмуру́юцца; абмурава́ўся, абмурава́лася, абмурава́ліся

**абмурава́ць** *зак., што* абмуру́ю, абмуру́еш, абмуру́е, абмуру́ем, абмуру́еце, абмуру́юць; абмуру́й, =це; абмурава́ў, абмурава́ла, абмурава́лі; абмурава́ны; абмурава́ўшы

**абму́рзацца** *зак.* абму́рзаюся, абму́рзаешся, абму́рзаецца, абму́рзаемся, абму́рзаецеся, абму́рзаюцца; абму́рзайся, =цеся; абму́рзаўся, абму́рзалася, абму́рзаліся; абму́рзаўшыся

**абму́рзаць** *зак., каго-што* абму́рзаю, абму́рзаеш, абму́рзае, абму́рзаем, абму́рзаеце, абму́рзаюць; абму́рзай, =це; абму́рзаў, абму́рзала, абму́рзалі; абму́рзаны; абму́рзаўшы

**абмуро́ўвацца** *незак.* абмуро́ўваецца, абмуро́ўваюцца; абмуро́ўваўся, абмуро́ўвалася, абмуро́ўваліся

**абмуро́ўваць** *незак., што* абмуро́ўваю, абмуро́ўваеш, абмуро́ўвае, абмуро́ўваем, абмуро́ўваеце, абмуро́ўваюць; абмуро́ўвай, =це; абмуро́ўваў, абмуро́ўвала, абмуро́ўвалі; абмуро́ўваючы

**абмусо́ліць** *зак., каго-што* абмусо́лю, абмусо́ліш, абмусо́ліць, абмусо́лім, абмусо́ліце, абмусо́ляць; абмусо́ль, =це; абмусо́ліў, абмусо́ліла, абмусо́лілі; абмусо́лены; абмусо́ліўшы

**абмыва́цца** *незак.* абмыва́юся, абмыва́ешся, абмыва́ецца, абмыва́емся, абмыва́ецеся, абмыва́юцца; абмыва́йся, =цеся; абмыва́ўся, абмыва́лася, абмыва́ліся; абмыва́ючыся

**абмыва́ць** *незак., каго-што* абмыва́ю, абмыва́еш, абмыва́е, абмыва́ем, абмыва́еце, абмыва́юць; абмыва́й, =це; абмыва́ў, абмыва́ла, абмыва́лі; абмыва́ючы

**абмы́згаць** *зак., што* абмы́згаю, абмы́згаеш, абмы́згае, абмы́згаем, абмы́згаеце, абмы́згаюць;

абмы́згай, =це; абмы́згаў, абмы́згала, абмы́згалі; абмы́зганы; абмы́згаўшы

**абмы́ліцца** *зак.* абмы́ліцца, абмы́ляцца; абмы́ліўся, абмы́лілася, абмы́ліліся

**абмылі́цца** *зак.,* (*памыліцца*) абмылю́ся, абмы́лішся, абмы́ліцца, абмы́лімся, абмы́ліцеся, абмы́ляцца; абмылі́ся, =цеся; абмылі́ўся, абмылі́лася, абмылі́ліся; абмылі́ўшыся

**абмы́ліць** *зак., што* абмы́лю, абмы́ліш, абмы́ліць, абмы́лім, абмы́ліце, абмы́ляць; абмы́ль, =це; абмы́ліў, абмы́ліла, абмы́лілі; абмы́лены; абмы́ліўшы

**абмы́львацца** *незак.* абмы́льваецца, абмы́льваюцца; абмы́льваўся, абмы́львалася, абмы́льваліся

**абмы́львацца** *незак.,* (*памыляцца*) абмы́льваюся, абмы́льваешся, абмы́льваецца, абмы́льваемся, абмы́льваецеся, абмы́льваюцца; абмы́льваўся, абмы́львалася, абмы́льваліся; абмы́льваючыся

**абмы́льваць** *незак., што* абмы́льваю, абмы́льваеш, абмы́львае, абмы́льваем, абмы́льваеце, абмы́льваюць; абмы́львай, =це; абмы́льваў, абмы́львала, абмы́львалі; абмы́льваючы

**абмыля́цца** *незак.,* (*памыляцца*) абмыля́юся, абмыля́ешся, абмыля́ецца, абмыля́емся, абмыля́ецеся, абмыля́юцца; абмыля́ўся, абмыля́лася, абмыля́ліся; абмыля́ючыся

**абмы́сліць** *зак., што* абмы́слю, абмы́сліш, абмы́сліць, абмы́слім, абмы́сліце, абмы́сляць; абмы́слі, =це; абмы́слі́ў, абмы́сліла, абмы́слілі; абмы́сліўшы

**абмы́цца** *зак.* абмы́юся, абмы́ешся, абмы́ецца, абмы́емся, абмы́ецеся, абмы́юцца; абмы́йся, =цеся; абмы́ўся, абмы́лася, абмы́ліся; абмы́ўшыся

**абмы́ць** *зак., каго-што* абмы́ю, абмы́еш, абмы́е, абмы́ем, абмы́еце, абмы́юць; абмы́й, =це; абмы́ў, абмы́ла, абмы́лі; абмы́ты; абмы́ўшы

**абмяжо́ўвацца** *незак.* абмяжо́ўваюся, абмяжо́ўваешся, абмяжо́ўваецца, абмяжо́ўваемся, абмяжо́ўваецеся, абмяжо́ўваюцца; абмяжо́ўвайся, =цеся; абмяжо́ўваўся, абмяжо́ўвалася, абмяжо́ўваліся; абмяжо́ўваючыся

**абмяжо́ўваць** *незак., каго-што* абмяжо́ўваю, абмяжо́ўваеш, абмяжо́ўвае, абмяжо́ўваем, абмяжо́ўваеце, абмяжо́ўваюць; абмяжо́ўвай, =це; абмяжо́ўваў, абмяжо́ўвала, абмяжо́ўвалі; абмяжо́ўваючы

**абмяка́ць** *незак.* абмяка́ю, абмяка́еш, абмяка́е, абмяка́ем, абмяка́еце, абмяка́юць; абмяка́ў, абмяка́ла, абмяка́лі; абмяка́ючы

**абмя́кнуць** *зак.* абмя́кну, абмя́кнеш, абмя́кне, абмя́кнем, абмя́кнеце, абмя́кнуць; абмя́кні, =це; абмя́к, абмя́кла, абмя́клі; абмя́кшы

**абмяле́ць** *зак.* абмяле́е, абмяле́юць; абмяле́ў, абмяле́ла, абмяле́лі; абмяле́ўшы

**абмяні́ць** *зак., што* абмяню́, абме́ніш, абме́ніць, абме́нім, абме́ніце, абме́няць; абмяні́, =це; абмяні́ў, абмяні́ла, абмяні́лі; абмяні́ўшы

**абмяня́цца** *зак.* абмяня́юся, абмяня́ешся абмяня́ецца, абмяня́емся, абмяня́ецеся, абмяня́юцца; абмяня́йся, =цеся; абмяня́ўся, абмяня́лася, абмяня́ліся; абмяня́ўшыся

**абмяня́ць** *зак., каго-што* абмяня́ю, абмяня́еш, абмяня́е, абмяня́ем, абмяня́еце, абмяня́юць; абмяня́й, =це; абмяня́ў, абмяня́ла, абмяня́лі; абме́нены; абмяня́ўшы

**абмяра́цца** *незак.* абмяра́юся, абмяра́ешся, абмяра́ецца, абмяра́емся, абмяра́ецеся, абмяра́юцца; абмяра́йся, =цеся; абмяра́ўся, абмяра́лася, абмяра́ліся; абмяра́ючыся

**абмяра́ць** *незак., каго-што* абмяра́ю, абмяра́еш, абмяра́е, абмяра́ем, абмяра́еце, абмяра́юць; абмяра́й, =це; абмяра́ў, абмяра́ла, абмяра́лі; абмяра́ючы

**абмярза́ць** *незак.* абмярза́ю, абмярза́еш, абмярза́е, абмярза́ем, абмярза́еце, абмярза́юць; абмярза́й, =це; абмярза́ў, абмярза́ла, абмярза́лі; абмярза́ючы

**абмярко́ўвацца** *незак.* абмярко́ўваецца, абмярко́ўваюцца; абмярко́ўваўся, абмярко́ўвалася, абмярко́ўваліся

**абмярко́ўваць** *незак., што* абмярко́ўваю, абмярко́ўваеш, абмярко́ўвае, абмярко́ўваем, абмярко́ўваеце, абмярко́ўваюць; абмярко́ўвай, =це; абмярко́ўваў, абмярко́ўвала, абмярко́ўвалі; абмярко́ўваючы

**абмярцве́ць** *зак.* абмярцве́ю, абмярцве́еш, абмярцве́е, абмярцве́ем, абмярцве́еце, абмярцве́юць; абмярцве́ў, абмярцве́ла, абмярцве́лі; абмярцве́ўшы

**абмята́цца** *незак.* абмята́юся, абмята́ешся, абмята́ецца, абмята́емся, абмята́ецеся, абмята́юцца; абмята́йся, =цеся; абмята́ўся, абмята́лася, абмята́ліся; абмята́ючыся

**абмята́ць** *незак., каго-што* абмята́ю, абмята́еш, абмята́е, абмята́ем, абмята́еце, абмята́юць; абмята́й, =це; абмята́ў, абмята́ла, абмята́лі; абмята́ючы

**абмя́цца** *зак.* абамне́цца, абамну́цца; абмя́ўся, абмя́лася, абмя́ліся; абмя́ўшыся

**абмя́ць** *зак., што* абамну́, абамне́ш, абамне, абамнём, абамняце́, абамну́ць; абамні́, =це; абмя́ў, абмя́ла, абмя́лі; абмя́ты; абмя́ўшы

**абмяша́ць** *зак., што* абмяша́ю, абмяша́еш, абмяша́е, абмяша́ем, абмяша́еце, абмяша́юць; абмяша́й, =це; абмяша́ў, абмяша́ла, абмяша́лі; абмяша́ны; абмяша́ўшы

**абнаві́цца** *зак.* абно́віцца, абно́вяцца; абнаві́ўся, абнаві́лася, абнаві́ліся

**абнаві́ць** *зак., што* абнаўлю́, абно́віш, абно́віць, абно́вім, абно́віце, абно́вяць; абнаві́, =це;

абнаві́ў, абнаві́ла, абнаві́лі; абно́ўлены; абнаві́ўшы

**абна́джваць** *незак., каго-што* абна́джваю, абна́джваеш, абна́джвае, абна́джваем, абна́джваеце, абна́джваюць; абна́джвай, =це; абна́джваў, абна́джвала, абна́джвалі; абна́джваючы

**абнадзе́іцца** *зак.* абнадзе́юся, абнадзе́ішся, абнадзе́іцца, абнадзе́імся, абнадзе́іцеся, абнадзе́яцца; абнадзе́іўся, абнадзе́ілася, абнадзе́іліся; абнадзе́іўшыся

**абнадзе́іць** *зак., каго* абнадзе́ю, абнадзе́іш, абнадзе́іць, абнадзе́ім, абнадзе́іце, абнадзе́яць; абнадзе́й, =це; абнадзе́іў, абнадзе́іла, абнадзе́ілі; абнадзе́ены; абнадзе́іўшы

**абнадзе́йваць** *незак., каго* абнадзе́йваю, абнадзе́йваеш, абнадзе́йвае, абнадзе́йваем, абнадзе́йваеце, абнадзе́йваюць; абнадзе́йвай, =це; абнадзе́йваў, абнадзе́йвала, абнадзе́йвалі; абнадзе́йваючы

**абна́дзіцца** *зак.* абна́джуся, абна́дзішся, абна́дзіцца, абна́дзімся, абна́дзіцеся, абна́дзяцца; абна́дзіўся, абна́дзілася, абна́дзіліся; абна́дзіўшыся

**абна́дзіць** *зак., каго-што* абна́джу, абна́дзіш, абна́дзіць, абна́дзім, абна́дзіце, абна́дзяць; абна́дзь, =це; абна́дзіў, абна́дзіла, абна́дзілі; абна́джаны; абна́дзіўшы

**абнайто́віць** *зак.* абнайто́ўлю, абнайто́віш, абнайто́віць, абнайто́вім, абнайто́віце, абнайто́вяць; абнайто́віў, абнайто́віла, абнайто́вілі; абнайто́віўшы

**абнаро́даваць** *зак., што* абнаро́дую, абнаро́дуеш, абнаро́дуе, абнаро́дуем, абнаро́дуеце, абнаро́дуюць; абнаро́дуй, =це; абнаро́даваў, абнаро́давала, абнаро́давалі; абнаро́даваны; абнаро́даваўшы

**абнасе́ніцца** *зак.* абнасе́ніцца, абнасе́няцца; абнасе́ніўся, абнасе́нілася, абнасе́ніліся

**абнасе́ніць** *зак., што* абнасе́ню, абнасе́ніш, абнасе́ніць, абнасе́нім, абнасе́ніце, абнасе́няць; абнасе́ніў, абнасе́ніла, абнасе́нілі; абнасе́ніўшы

**абнасе́ньвацца** *незак.* абнасе́ньваецца, абнасе́ньваюцца; абнасе́ньваўся, абнасе́ньвалася, абнасе́ньваліся

**абнасі́цца** *зак.* абнашу́ся, абно́сішся, абно́сіцца, абно́сімся, абно́сіцеся, абно́сяцца; абнасі́ўся, абнасі́лася, абнасі́ліся; абнасі́ўшыся

**абнасі́ць** *зак., што* абнашу́, абно́сіш, абно́сіць, абно́сім, абно́сіце, абно́сяць; абнасі́, =це; абнасі́ў, абнасі́ла, абнасі́лі; абно́шаны; абнасі́ўшы

**абнаўля́цца** *незак.* абнаўля́юся, абнаўля́ешся, абнаўля́ецца, абнаўля́емся, абнаўля́ецеся, абнаўля́юцца; абнаўля́йся, =цеся; абнаўля́ўся, абнаўля́лася, абнаўля́ліся; абнаўля́ючыся

**абнаўля́ць** *незак., што* абнаўля́ю, абнаўля́еш, абнаўля́е, абнаўля́ем, абнаўля́еце, абнаўля́юць; абнаўля́й, =це; абнаўля́ў, абнаўля́ла, абнаўля́лі; абнаўля́ючы

**абначава́ць** *зак.* абначу́ю, абначу́еш, абначу́е, абначу́ем, абначу́еце, абначу́юць; абначу́й, =це; абначава́ў, абначава́ла, абначава́лі; абначава́ўшы

**абнемага́ць** *незак.* абнемага́ю, абнемага́еш, абнемага́е, абнемага́ем, абнемага́еце, абнемага́юць; абнемага́ў, абнемага́ла, абнемага́лі; абнемага́ючы

**абнемагчы́** *зак.* абнемагу́, абнямо́жаш, абнямо́жа, абнямо́жам, абнямо́жаце, абнямо́гуць; абнямо́г, абнемагла́, абнемагло́, абнемаглі́; абнямо́гшы

**абнемагчы́ся** *зак.* абнемагу́ся, абнямо́жашся, абнямо́жацца, абнямо́жамся, абнямо́жацеся, абнямо́гуцца; абнямо́гся, абнемагла́ся, абнемагло́ся, абнемаглі́ся; абнямо́гшыся

**абне́сці** *зак., каго-што* абнясу́, абнясе́ш, абнясе́, абнясём, абнесяце́, абнясу́ць; абнясі́, =це; абнёс, абне́сла, абне́слі; абне́сены; абнёсшы

**абніма́цца** *незак.* абніма́юся, абніма́ешся, абніма́ецца, абніма́емся, абніма́ецеся, абніма́юцца; абніма́йся, =цеся; абніма́ўся, абніма́лася, абніма́ліся; абніма́ючыся

**абніма́ць** *незак., каго-што* абніма́ю, абніма́еш, абніма́е, абніма́ем, абніма́еце, абніма́юць; абніма́й, =це; абніма́ў, абніма́ла, абніма́лі; абніма́ючы

**абно́сіцца** *незак.* абно́сіцца, абно́сяцца; абно́сіўся, абно́сілася, абно́сіліся

**абно́сіць** *незак., каго-што* абно́шу, абно́сіш, абно́сіць, абно́сім, абно́сіце, абно́сяць; абно́сь, =це; абно́сіў, абно́сіла, абно́сілі; абно́сячы

**абно́швацца** *незак.* абно́шваюся, абно́шваешся, абно́шваецца, абно́шваемся, абно́шваецеся, абно́шваюцца; абно́шваўся, абно́швалася, абно́шваліся; абно́шваючыся

**абно́шваць** *незак., што* абно́шваю, абно́шваеш, абно́швае, абно́шваем, абно́шваеце, абно́шваюць; абно́швай, =це; абно́шваў, абно́швала, абно́швалі; абно́шваючы

**абню́хацца** *зак.* абню́хаецца, абню́хаюцца; абню́хаўся, абню́халася, абню́халіся; абню́хаўшыся

**абню́хаць** *зак., каго-што* абню́хаю, абню́хаеш, абню́хае, абню́хаем, абню́хаеце, абню́хаюць; абню́хай, =це; абню́хаў, абню́хала, абню́халі; абню́ханы; абню́хаўшы

**абню́хвацца** *незак.* абню́хваецца, абню́хваюцца; абню́хваўся, абню́хвалася, абню́хваліся; абню́хваючыся

**абню́хваць** *незак., каго-што* абню́хваю, абню́хваеш, абню́хвае, абню́хваем, абню́хваеце, абню́хваюць; абню́хвай, =це; абню́хваў, абню́хвала, абню́хвалі; абню́хваючы

**абнядо́ліць** *зак., каго-што* абнядо́лю, абнядо́ліш, абнядо́ліць, абнядо́лім, абнядо́ліце, абня-

до́ляць; абнядо́ліў, абнядо́ліла, абнядо́лілі; абнядо́лены; абнядо́ліўшы

**абняду́жаць** *зак.* абняду́жаю, абняду́жаеш, абняду́жае, абняду́жаем, абняду́жаеце, абняду́жаюць; абняду́жаў, абняду́жала, абняду́жалі; абняду́жаўшы

**абняду́жваць** *незак.* абняду́жваю, абняду́жваеш, абняду́жвае, абняду́жваем, абняду́жваеце, абняду́жваюць; абняду́жваў, абняду́жвала, абняду́жвалі; абняду́жваючы

**абнясла́віцца** *зак.* абнясла́ўлюся, абнясла́вішся, абнясла́віцца, абнясла́вімся, абнясла́віцеся, абнясла́вяцца; абнясла́віўся, абнясла́вілася, абнясла́віліся; абнясла́віўшыся

**абнясла́віць** *зак., каго-што* абнясла́ўлю, абнясла́віш, абнясла́віць, абнясла́вім, абнясла́віце, абнясла́вяць; абнясла́віў, абнясла́віла, абнясла́вілі; абнясла́ўлены; абнясла́віўшы

**абнясла́ўлівацца** *незак.* абнясла́ўліваюся, абнясла́ўліваешся, абнясла́ўліваецца, абнясла́ўліваемся, абнясла́ўліваецеся, абнясла́ўліваюцца; абнясла́ўліваўся, абнясла́ўлівалася, абнясла́ўліваліся; абнясла́ўліваючыся

**абнясла́ўліваць** *незак., каго-што* абнясла́ўліваю, абнясла́ўліваеш, абнясла́ўлівае, абнясла́ўліваем, абнясла́ўліваеце, абнясла́ўліваюць; абнясла́ўліваў, абнясла́ўлівала, абнясла́ўлівалі; абнясла́ўліваючы

**абня́цца** *зак.* абніму́ся, абні́мешся, абні́мецца, абні́мемся, абні́мецеся, абні́муцца; абнімі́ся, =цеся; абня́ўся, абняла́ся, абняло́ся, абнялі́ся; абня́ўшыся

**абня́ць** *зак., каго-што* абніму́, абні́меш, абні́ме, абні́мем, абні́меце, абні́муць; абнімі́, =це; абня́ў, абняла́, абняло́, абнялі́; абня́ты; абня́ўшы

**абпалі́ць** *зак., каго-што* абпалю́, абпа́ліш, абпа́ліць, абпа́лім, абпа́ліце, абпа́ляць; абпалі́, =це; абпалі́ў, абпалі́ла, абпалі́лі; абпа́лены; абпалі́ўшы

**абпа́львацца** *незак.* абпа́льваецца, абпа́льваюцца; абпа́льваўся, абпа́львалася, абпа́льваліся

**абпа́льваць** *незак., каго-што* абпа́льваю, абпа́льваеш, абпа́львае, абпа́льваем, абпа́льваеце, абпа́льваюць; абпа́львай, =це; абпа́льваў, абпа́львала, абпа́львалі; абпа́льваючы

**абпаску́джвацца** *незак.* абпаску́джваюся, абпаску́джваешся, абпаску́джваецца, абпаску́джваемся, абпаску́джваецеся, абпаску́джваюцца; абпаску́джваўся, абпаску́джвалася, абпаску́джваліся; абпаску́джваючыся

**абпаску́джваць** *незак., каго-што* абпаску́джваю, абпаску́джваеш, абпаску́джвае, абпаску́джваем, абпаску́джваеце, абпаску́джваюць; абпаску́джваў, абпаску́джвала, абпаску́джвалі; абпаску́джваючы

**абпаску́дзіцца** *зак.* абпаску́джуся, абпаску́дзішся, абпаску́дзіцца, абпаску́дзімся, абпаску́дзіцеся, абпаску́дзяцца; абпаску́дзіўся, абпаску́дзілася, абпаску́дзіліся; абпаску́дзіўшыся

**абпаску́дзіць** *зак., каго-што* абпаску́джу, абпаску́дзіш, абпаску́дзіць, абпаску́дзім, абпаску́дзіце, абпаску́дзяць; абпаску́дзь, =це; абпаску́дзіў, абпаску́дзіла, абпаску́дзілі; абпаску́джаны; абпаску́дзіўшы

**абпаўза́ць** *незак., каго-што і без. дап.* абпаўза́ю, абпаўза́еш, абпаўза́е, абпаўза́ем, абпаўза́еце, абпаўза́юць; абпаўза́й, =це; абпаўза́ў, абпаўза́ла, абпаўза́лі; абпаўза́ючы

**абпаўзці́** *зак., каго-што і без дап.* абпаўзу́, абпаўзе́ш, абпаўзе́, абпаўзём, абпаўзяце́, абпаўзу́ць; абпаўзі́, =це; абпо́ўз, абпаўзла́, абпаўзло́, абпаўзлі́; абпо́ўзшы

**абпілава́ць** *зак., што* абпілу́ю, абпілу́еш, абпілу́е, абпілу́ем, абпілу́еце, абпілу́юць; абпілу́й, =це; абпілава́ў, абпілава́ла, абпілава́лі; абпілава́ны *і* абпіло́ваны; абпілава́ўшы

**абпіло́ўвацца** *незак.* абпіло́ўваецца, абпіло́ўваюцца; абпіло́ўваўся, абпіло́ўвалася, абпіло́ўваліся

**абпіло́ўваць** *незак., што* абпіло́ўваю, абпіло́ўваеш, абпіло́ўвае, абпіло́ўваем, абпіло́ўваеце, абпіло́ўваюць; абпіло́ўвай, =це; абпіло́ўваў, абпіло́ўвала, абпіло́ўвалі; абпіло́ўваючы

**абпла́ваць** *зак., што* абпла́ваю, абпла́ваеш, абпла́вае, абпла́ваем, абпла́ваеце, абпла́ваюць; абпла́вай, =це; абпла́ваў, абпла́вала, абпла́валі; абпла́ваўшы

**абплыва́ць** *незак., каго-што* абплыва́ю, абплыва́еш, абплыва́е, абплыва́ем, абплыва́еце, абплыва́юць; абплыва́й, =це; абплыва́ў, абплыва́ла, абплыва́лі; абплыва́ючы

**абплысці́** *зак., каго-што і без дап.* абплыву́, абплыве́ш, абплыве́, абплывём, абплывяце́, абплыву́ць; абплыві́, =це; абплы́ў, абплыла́, абплыло́, абплылі́; абплы́ўшы

**абплы́ць** *зак., каго-што і без дап.* абплыву́, абплыве́ш, абплыве́, абплывём, абплывяце́, абплыву́ць; абплыві́, =це; абплы́ў, абплыла́, абплыло́, абплылі́; абплы́ўшы

**абпо́ўзаць** *зак., каго-што* абпо́ўзаю, абпо́ўзаеш, абпо́ўзае, абпо́ўзаем, абпо́ўзаеце, абпо́ўзаюць; абпо́ўзай, =це; абпо́ўзаў, абпо́ўзала, абпо́ўзалі; абпо́ўзаўшы

**абпо́ўзваць** *незак., каго-што* абпо́ўзваю, абпо́ўзваеш, абпо́ўзвае, абпо́ўзваем, абпо́ўзваеце, абпо́ўзваюць; абпо́ўзваў, абпо́ўзвала, абпо́ўзвалі; абпо́ўзваючы

**абпраме́ніцца** *зак.* абпраме́ніцца, абпраме́няцца; абпраме́ніўся, абпраме́нілася, абпраме́ніліся

**адхвалява́цца** *зак.* адхвалю́юся, адхвалю́ешся, адхвалю́ецца, адхвалю́емся, адхвалю́ецеся, адхвалю́юцца; адхвалява́ўся, адхвалява́лася, адхвалява́ліся; адхвалява́ўшыся

**адхварэ́ць** *зак.* адхварэ́ю, адхварэ́еш, адхварэ́е, адхварэ́ем, адхварэ́еце, адхварэ́юць; адхварэ́ў, адхварэ́ла, адхварэ́лі; адхварэ́ўшы

**адхваста́ць** *зак., каго-што* адхвашчу́, адхво́шчаш, адхво́шча, адхво́шчам, адхво́шчаце, адхво́шчуць; адхвашчы́, =це; адхваста́ў, адхваста́ла, адхваста́лі; адхваста́ны; адхваста́ўшы

**адхва́тваца** *незак.* адхва́тваецца, адхва́тваюцца; адхва́тваўся, адхва́твалася, адхва́тваліся

**адхва́тваць** *незак., што* адхва́тваю, адхва́тваеш, адхва́твае, адхва́тваем, адхва́тваеце, адхва́тваюць; адхва́твай, =це; адхва́тваў, адхва́твала, адхва́твалі; адхва́тваючы

**адхваці́ць** *зак., што* адхвачу́, адхва́ціш, адхва́ціць, адхва́цім, адхва́ціце, адхва́цяць; адхваці́, =це; адхваці́ў, адхваці́ла, адхваці́лі; адхва́чаны; адхваці́ўшы

**адхілі́цца** *зак.* адхілю́ся, адхі́лішся, адхі́ліцца, адхі́лімся, адхі́ліцеся, адхі́ляцца; адхілі́ся, =цеся; адхілі́ўся, адхілі́лася, адхілі́ліся; адхілі́ўшыся

**адхілі́ць** *зак., што* адхілю́, адхі́ліш, адхі́ліць, адхі́лім, адхі́ліце, адхі́ляць; адхілі́, =це; адхілі́ў, адхілі́ла, адхілі́лі; адхі́лены; адхілі́ўшы

**адхіля́цца** *незак.* адхіля́юся, адхіля́ешся, адхіля́ецца, адхіля́емся, адхіля́ецеся, адхіля́юцца; адхіля́йся, =цеся; адхіля́ўся, адхіля́лася, адхіля́ліся; адхіля́ючыся

**адхіля́ць** *незак., што* адхіля́ю, адхіля́еш, адхіля́е, адхіля́ем, адхіля́еце, адхіля́юць; адхіля́й, =це; адхіля́ў, адхіля́ла, адхіля́лі; адхіля́ючы

**адхіна́цца** *незак.* адхіна́юся, адхіна́ешся, адхіна́ецца, адхіна́емся, адхіна́ецеся, адхіна́юцца; адхіна́йся, =цеся; адхіна́ўся, адхіна́лася, адхіна́ліся; адхіна́ючыся

**адхіна́ць** *незак., што* адхіна́ю, адхіна́еш, адхіна́е, адхіна́ем, адхіна́еце, адхіна́юць; адхіна́й, =це; адхіна́ў, адхіна́ла, адхіна́лі; адхіна́ючы

**адхіну́цца** *зак.* адхіну́ся, адхіне́шся, адхіне́цца, адхінёмся, адхіняце́ся, адхіну́цца; адхіні́ся, =цеся; адхіну́ўся, адхіну́лася, адхіну́ліся; адхіну́ўшыся

**адхіну́ць** *зак., што* адхіну́, адхіне́ш, адхіне́, адхінём, адхіняце́, адхіну́ць; адхіні́, =це; адхіну́ў, адхіну́ла, адхіну́лі; адхіну́ты, адхі́нены; адхіну́ўшы

**адхісну́цца** *зак.* адхісну́ся, адхісне́шся, адхісне́цца, адхіснёмся, адхісняце́ся, адхісну́цца; адхісні́ся, =цеся; адхісну́ўся, адхісну́лася; адхісну́ліся; адхісну́ўшыся

**адхі́ствацца** *незак.* адхі́стваюся, адхі́стваешся, адхі́стваецца, адхі́стваемся, адхі́стваецеся, адхі́стваюцца; адхі́ствайся, =цеся; адхі́стваўся, адхі́ствалася, адхі́стваліся; адхі́стваючыся

**адхлёбваць** *незак., што* адхлёбваю, адхлёбваеш, адхлёбвае, адхлёбваем, адхлёбваеце, адхлёбваюць; адхлёбвай, =це; адхлёбваў, адхлёбвала, адхлёбвалі; адхлёбваючы

**адхлёбнуць** *зак., што* адхлёбну, адхлёбнеш, адхлёбне, адхлёбнем, адхлёбнеце, адхлёбнуць; адхлёбні, =це; адхлёбнуў, адхлёбнула, адхлёбнулі; адхлёбнуўшы

**адхліпну́цца** *зак.* адхліпну́ся, адхліпне́шся, адхліпне́цца, адхліпнёмся, адхліпняце́ся, адхліпну́цца; адхліпні́ся, =цеся; адхліпну́ўся, адхліпну́лася, адхліпну́ліся; адхліпну́ўшыся

**адхліпну́ць** *зак.* адхліпну́, адхліпне́ш, адхліпне́, адхліпнём, адхліпняце́, адхліпну́ць; адхліпні́, =це; адхліпну́ў, адхліпну́ла, адхліпну́лі; адхліпну́ўшы

**адхлы́нуць** *зак.* адхлы́не, адхлы́нуць; адхлы́нуў, адхлы́нула, адхлы́нулі

**адхо́джваць** *незак., каго-што і без дап.* адхо́джваю, адхо́джваеш, адхо́джвае, адхо́джваем, адхо́джваеце, адхо́джваюць; адхо́джвай, =це; адхо́джваў, адхо́джвала, адхо́джвалі; адхо́джваючы

**адхо́дзіцца** *незак.* адхо́джуся, адхо́дзішся, адхо́дзіцца, адхо́дзімся, адхо́дзіцеся, адхо́дзяцца; адхо́дзься, =цеся; адхо́дзіўся, адхо́дзілася, адхо́дзіліся; адхо́дзячыся

**адхо́дзіць** *незак.* адхо́джу, адхо́дзіш, адхо́дзіць, адхо́дзім, адхо́дзіце, адхо́дзяць; адхо́дзь, =це; адхо́дзіў, адхо́дзіла, адхо́дзілі; адхо́дзячы

**адхо́плівацца** *незак.* адхо́плівaецца, адхо́пліваюцца; адхо́пліваўся, адхо́плівалася, адхо́пліваліся

**адхо́пліваць** *незак., што* адхо́пліваю, адхо́пліваеш, адхо́плівае, адхо́пліваем, адхо́пліваеце, адхо́пліваюць; адхо́плівай, =це; адхо́пліваў, адхо́плівала, адхо́плівалі; адхо́пліваючы

**адхрамі́раваць** *зак., што* адхрамі́рую, адхрамі́руеш, адхрамі́руе, адхрамі́руем, адхрамі́руеце, адхрамі́руюць; адхрамі́руй, =це; адхрамі́раваў, адхрамі́равала, адхрамі́равалі; адхрамі́раваны; адхрамі́раваўшы

**адхрысці́цца** *зак., ад чаго* адхрышчу́ся, адхры́сцішся, адхры́сціцца, адхры́сцімся, адхры́сціцеся, адхры́сцяцца; адхрысці́ся, =цеся; адхрысці́ўся, адхрысці́лася, адхрысці́ліся; адхрысці́ўшыся

**адхры́шчвацца** *незак., ад чаго* адхры́шчваюся, адхры́шчваешся, адхры́шчваецца, адхры́шчваемся, адхры́шчваецеся, адхры́шчваюцца; адхры́шчвайся, =цеся; адхры́шчваўся, адхры́шчвалася, адхры́шчваліся; адхры́шчваючыся

**адху́каць** *зак., каго-што* адху́каю, адху́каеш, адху́кае, адху́каем, адху́каеце, адху́каюць; адху-

кай, =це; адху́каў, адху́кала, адху́калі; адху́каны; адху́каўшы

**адху́кваць** *незак., каго-што* адху́кваю, адху́кваеш, адху́квае, адху́кваем, адху́кваеце, адху́кваюць; адху́квай, =це; адху́кваў, адху́квала, адху́квалі; адху́кваючы

**адцадзі́цца** *зак.* адцэ́дзіцца, адцэ́дзяцца; адцадзі́ўся, адцадзі́лася, адцадзі́ліся

**адцадзі́ць** *зак., што* адцаджу́, адцэ́дзіш, адцэ́дзіць, адцэ́дзім, адцэ́дзіце, адцэ́дзяць; адцадзі́, =це; адцадзі́ў, адцадзі́ла, адцадзі́лі; адцэ́джаны; адцадзі́ўшы

**адцвісці́** *зак.* адцвіце́, адцвіту́ць; адцві́ў, адцвіла́, адцвіло́, адцвілі́; адцві́ўшы

**адцвіта́ць** *незак.* адцвіта́е, адцвіта́юць; адцвіта́ў, адцвіта́ла, адцвіта́лі; адцвіта́ючы

**адцерабі́ць** *зак., што* адцераблю́, адцярэ́біш, адцярэ́біць, адцярэ́бім, адцярэ́біце, адцярэ́бяць; адцерабі́, =це; адцерабі́ў, адцерабі́ла, адцерабі́лі; адцерабі́ўшы

**адце́рці** *зак., што* адатру́, адатрэ́ш, адатрэ́, адатро́м, адатраце́, адатру́ць; адатры́, =це; адцёр, адце́рла, адце́рлі; адцёрты; адцёршы

**адце́рціся** *зак.* адатру́ся, адатрэ́шся, адатрэ́цца, адатро́мся, адатраце́ся, адатру́цца; адатры́ся, =цеся; адцёрся, адце́рлася, адце́рліся; адцёршыся

**адціна́цца** *незак.* адціна́ецца, адціна́юцца; адціна́ўся, адціна́лася, адціна́ліся

**адціна́ць** *незак., што* адціна́ю, адціна́еш, адціна́е, адціна́ем, адціна́еце, адціна́юць; адціна́й, =це; адціна́ў, адціна́ла, адціна́лі; адціна́ючы

**адціра́цца** *незак.* адціра́юся, адціра́ешся, адціра́ецца, адціра́емся, адціра́ецеся, адціра́юцца; адціра́йся, =цеся; адціра́ўся, адціра́лася, адціра́ліся; адціра́ючыся

**адціра́ць** *незак., што* адціра́ю, адціра́еш, адціра́е, адціра́ем, адціра́еце, адціра́юць; адціра́й, =це; адціра́ў, адціра́ла, адціра́лі; адціра́ючы

**адціска́цца** *незак.* адціска́ецца, адціска́юцца; адціска́ўся, адціска́лася, адціска́ліся

**адціска́ць** *незак., каго-што* адціска́ю, адціска́еш, адціска́е, адціска́ем, адціска́еце, адціска́юць; адціска́й, =це; адціска́ў, адціска́ла, адціска́лі; адціска́ючы

**адці́снуцца** *зак.* адці́снецца, адці́снуцца; адці́снуўся, адці́снулася, адці́снуліся

**адці́снуць** *зак., каго-што* адці́сну, адці́снеш, адці́сне, адці́снем, адці́снеце, адці́снуць, адці́сні, =це; адці́снуў, адці́снула, адці́снулі; адці́снуты; адці́снуўшы

**адцура́цца** *зак., каго-чаго* адцура́юся, адцура́ешся, адцура́ецца, адцура́емся, адцура́ецеся, адцура́юцца; адцура́йся, =цеся; адцура́ўся, адцура́лася, адцура́ліся; адцура́ўшыся

**адцэ́джвацца** *незак.* адцэ́джваецца, адцэ́джваюцца; адцэ́джваўся, адцэ́джвалася, адцэ́джваліся

**адцэ́джваць** *незак., што* адцэ́джваю, адцэ́джваеш, адцэ́джвае, адцэ́джваем, адцэ́джваеце, адцэ́джваюць; адцэ́джвай, =це; адцэ́джваў, адцэ́джвала, адцэ́джвалі; адцэ́джваючы

**адцэнтрава́ць** *што* адцэнтру́ю, адцэнтру́еш, адцэнтру́е, адцэнтру́ем, адцэнтру́еце, адцэнтру́юць; адцэнтру́й, =це; адцэнтрава́ў, адцэнтрава́ла, адцэнтрава́лі; адцэнтрава́ны; адцэнтрава́ўшы

**адцяга́цца** *зак.* адцяга́юся, адцяга́ешся, адцяга́ецца, адцяга́емся, адцяга́ецеся, адцяга́юцца; адцяга́йся, =цеся; адцяга́ўся, адцяга́лася, адцяга́ліся; адцяга́ўшыся

**адцяга́ць** *зак., што* адцяга́ю, адцяга́еш, адцяга́е, адцяга́ем, адцяга́еце, адцяга́юць; адцяга́й, =це; адцяга́ў, адцяга́ла, адцяга́лі; адцяга́ны; адцяга́ўшы

**адця́гвацца** *незак.* адця́гваюся, адця́гваешся, адця́гваецца, адця́гваемся, адця́гваецеся, адця́гваюцца; адця́гваўся, адця́гвалася, адця́гваліся; адця́гваючыся

**адця́гваць** *незак., што* адця́гваю, адця́гваеш, адця́гвае, адця́гваем, адця́гваеце, адця́гваюць; адця́гвай, =це; адця́гваў, адця́гвала, адця́гвалі; адця́гваючы

**адцягну́цца** *зак.* адця́гнецца, адця́гнуцца; адцягну́ўся, адцягну́лася, адцягну́ліся

**адцягну́ць** *зак., што* адцягну́, адця́гнеш, адця́гне, адця́гнем, адця́гнеце, адця́гнуць; адцягні́, =це; адцягну́ў, адцягну́ла, адцягну́лі; адця́гнуты, адця́гнены; адцягну́ўшы

**адцяка́ць** *незак.* адцяка́е, адцяка́юць; адцяка́ў, адцяка́ла, адцяка́лі

**адцяні́ць** *зак., што* адцяню́, адце́ніш, адце́ніць, адце́нім, адце́ніце, адце́няць; адцяні́, =це; адцяні́ў, адцяні́ла, адцяні́лі; адце́нены; адцяні́ўшы

**адцяня́цца** *незак.* адцяня́ецца, адцяня́юцца; адцяня́ўся, адцяня́лася, адцяня́ліся

**адцяня́ць** *незак., што* адцяня́ю, адцяня́еш, адцяня́е, адцяня́ем, адцяня́еце, адцяня́юць; адцяня́й, =це; адцяня́ў, адцяня́ла, адцяня́лі; адцяня́ючы

**адцярпе́ць** *зак.* адцярплю́, адцярпі́ш, адцярпі́ць, адцярпі́м, адцерпіце́, адцярпя́ць; адцярпі́, =це; адцярпе́ў, адцярпе́ла, адцярпе́лі; адцярпе́ўшы

**адцясні́ць** *зак., каго* адцясню́, адцясні́ш, адцясні́ць, адцясні́м, адцесніце́, адцясня́ць; адцясні́, =це; адцясні́ў, адцясні́ла, адцясні́лі; адце́снены; адцясні́ўшы

**адцясня́цца** *незак.* адцясня́ецца, адцясня́юцца; адцясня́ўся, адцясня́лася, адцясня́ліся

**адцясня́ць** *незак., каго* адцясня́ю, адцясня́еш, адцясня́е, адцясня́ем, адцясня́еце, адцясня́юць; адцясня́й, =це; адцясня́ў, адцясня́ла, адцясня́лі; адцясня́ючы

**адця́ць** *зак., што* адатну́, адатне́ш, адатне́, адатнём, адатняце́, адатну́ць; адатні́, =це; адця́ў, адця́ла, адця́лі; адця́ты; адця́ўшы

**адцячы́** *зак.* адцячэ́, адцяку́ць; адцёк, адцякла́, адцякло́, адцяклі́

**адча́йвацца** *незак.* адча́йваюся, адча́йваешся, адча́йваецца, адча́йваемся, адча́йваецеся, адча́йваюцца; адча́йвайся, =цеся; адча́йваўся, адча́йвалася, адча́йваліся; адча́йваючыся

**адчака́ніцца** *зак.* адчака́ніцца, адчака́няцца; адчака́ніўся, адчака́нілася, адчака́ніліся

**адчака́ніць** *зак., што* адчака́ню, адчака́ніш, адчака́ніць, адчака́нім, адчака́ніце, адчака́няць; адчака́нь, =це; адчака́ніў, адчака́ніла, адчака́нілі; адчака́нены; адчака́ніўшы

**адчака́ньвацца** *незак.* адчака́ньваецца, адчака́ньваюцца; адчака́ньваўся, адчака́ньвалася, адчака́ньваліся

**адчака́ньваць** *незак., што* адчака́ньваю, адчака́ньваеш, адчака́ньвае, адчака́ньваем, адчака́ньваеце, адчака́ньваюць; адчака́ньвай, =це; адчака́ньваў, адчака́ньвала, адчака́ньвалі; адчака́ньваючы

**адча́ліцца** *зак.* адча́ліцца, адча́ляцца; адча́ліўся, адча́лілася, адча́ліліся

**адча́ліць** *зак., што і без дап.* адча́лю, адча́ліш, адча́ліць, адча́лім, адча́ліце, адча́ляць; адча́ль, =це; адча́ліў, адча́ліла, адча́лілі; адча́лены; адча́ліўшы

**адча́львацца** *незак.* адча́льваецца, адча́льваюцца; адча́льваўся, адча́львалася, адча́льваліся

**адча́льваць** *незак., што і без дап.* адча́льваю, адча́льваеш, адча́львае, адча́льваем, адча́льваеце, адча́льваюць; адча́львай, =це; адча́льваў, адча́львала, адча́львалі; адча́льваючы

**адчапі́цца** *зак.* адчаплю́ся, адчэ́пішся, адчэ́піцца, адчэ́пімся, адчэ́піцеся, адчэ́пяцца; адчапі́ся, =цеся; адчапі́ўся, адчапі́лася, адчапі́ліся; адчапі́ўшыся

**адчапі́ць** *зак., што* адчаплю́, адчэ́піш, адчэ́піць, адчэ́пім, адчэ́піце, адчэ́пяць; адчапі́, =це; адчапі́ў, адчапі́ла, адчапі́лі; адчэ́плены; адчапі́ўшы

**адчапля́цца** *незак.* адчапля́юся, адчапля́ешся, адчапля́ецца, адчапля́емся, адчапля́ецеся, адчапля́юцца; адчапля́йся, =цеся; адчапля́ўся, адчапля́лася, адчапля́ліся; адчапля́ючыся

**адчапля́ць** *незак., што* адчапля́ю, адчапля́еш, адчапля́е, адчапля́ем, адчапля́еце, адчапля́юць; адчапля́й, =це; адчапля́ў, адчапля́ла, адчапля́лі; адчапля́ючы

**адчаранкава́ць** *зак., што* адчаранку́ю, адчаранку́еш, адчаранку́е, адчаранку́ем, адчаранку́еце, адчаранку́юць; адчаранку́й, =це; адчаранкава́ў, адчаранкава́ла, адчаранкава́лі; адчаранкава́ны; адчаранкава́ўшы

**адчарці́ць** *зак., што* адчарчу́, адчэ́рціш, адчэ́рціць, адчэ́рцім, адчэ́рціце, адчэ́рцяць; адчарці́, =це; адчарці́ў, адчарці́ла, адчарці́лі; адчэ́рчаны; адчарці́ўшы

**адчаса́цца** *зак.* адчэ́шацца, адчэ́шуцца; адчаса́ўся, адчаса́лася, адчаса́ліся

**адчаса́ць** *зак., каго-што* адчашу́, адчэ́шаш, адчэ́ша, адчэ́шам, адчэ́шаце, адчэ́шуць; адчашы́, =це; адчаса́ў, адчаса́ла, адчаса́лі; адчаса́ны *і* адчэ́саны; адчаса́ўшы

**адчастава́ць** *зак., каго* адчасту́ю, адчасту́еш, адчасту́е, адчасту́ем, адчасту́еце, адчасту́юць; адчасту́й, =це; адчастава́ў, адчастава́ла, адчастава́лі; адчастава́ўшы

**адча́яцца** *зак.* адча́юся, адча́ішся, адча́іцца, адча́імся, адча́іцеся, адча́яцца; адча́йся, =цеся; адча́яўся, адча́ялася, адча́яліся; адча́яўшыся

**адчляні́цца** *зак.* адчле́ніцца, адчле́няцца; адчляні́ўся, адчляні́лася, адчляні́ліся

**адчляні́ць** *зак., каго-што* адчляню́, адчле́ніш, адчле́ніць, адчле́нім, адчле́ніце, адчле́няць; адчляні́, =це; адчляні́ў, адчляні́ла, адчляні́лі; адчле́нены; адчляні́ўшы

**адчляня́цца** *незак.* адчляня́ецца, адчляня́юцца; адчляня́ўся, адчляня́лася, адчляня́ліся

**адчляня́ць** *незак., каго-што* адчляня́ю, адчляня́еш, адчляня́е, адчляня́ем, адчляня́еце, адчляня́юць; адчляня́й, =це; адчляня́ў, адчляня́ла, адчляня́лі; адчляня́ючы

**адчува́цца** *незак.* адчува́ецца, адчува́юцца; адчува́ўся, адчува́лася, адчува́ліся

**адчува́ць** *незак., што* адчува́ю, адчува́еш, адчува́е, адчува́ем, адчува́еце, адчува́юць; адчува́й, =це; адчува́ў, адчува́ла, адчува́лі; адчува́ючы

**адчужа́цца** *незак.* адчужа́юся, адчужа́ешся, адчужа́ецца, адчужа́емся, адчужа́ецеся, адчужа́юцца; адчужа́йся, =цеся; адчужа́ўся, адчужа́лася, адчужа́ліся; адчужа́ючыся

**адчужа́ць** *незак., каго-што* адчужа́ю, адчужа́еш, адчужа́е, адчужа́ем, адчужа́еце, адчужа́юць; адчужа́й, =це; адчужа́ў, адчужа́ла, адчужа́лі; адчу́жаны; адчужа́ючы

**адчу́цца** *зак.* адчу́ецца, адчу́юцца; адчу́ўся, адчу́лася, адчу́ліся

**адчу́ць** *зак., што* адчу́ю, адчу́еш, адчу́е, адчу́ем, адчу́еце, адчу́юць; адчу́й, =це; адчу́ў, адчу́ла, адчу́лі; адчу́ты; адчу́ўшы

**адчыбу́чыць** *зак., што* адчыбу́чу, адчыбу́чыш, адчыбу́чыць, адчыбу́чым, адчыбу́чыце, адчыбу́чаць; адчыбу́ч, =це; адчыбу́чыў, адчыбу́чыла, адчыбу́чылі; адчыбу́чыўшы

**адчыкільга́ць** *зак.* адчыкільга́ю, адчыкільга́еш, адчыкільга́е, адчыкільга́ем, адчыкільга́еце, адчыкільга́юць; адчыкільга́й, =це; адчыкільга́ў, адчыкільга́ла, адчыкільга́лі; адчыкільга́ўшы

**адчыкры́жыць** *зак., што* адчыкры́жу, адчыкры́жыш, адчыкры́жыць, адчыкры́жым, адчык-

ры́жыце, адчыкры́жаць; адчыкры́ж, =це; адчыкры́жыў, адчыкры́жыла, адчыкры́жылі; адчыкры́жаны; адчыкры́жыўшы

**адчыні́цца** *зак.* адчы́ніцца, адчы́няцца; адчыні́ўся, адчыні́лася, адчыні́ліся

**адчыні́ць** *зак., што* адчыню́, адчы́ніш, адчы́ніць, адчы́нім, адчы́ніце, адчы́няць; адчыні́, =це; адчыні́ў, адчыні́ла, адчыні́лі; адчы́нены; адчыні́ўшы

**адчыня́цца** *незак.* адчыня́ецца, адчыня́юцца; адчыня́ўся, адчыня́лася, адчыня́ліся

**адчыня́ць** *незак., што* адчыня́ю, адчыня́еш, адчыня́е, адчыня́ем, адчыня́еце, адчыня́юць; адчыня́й, =це; адчыня́ў, адчыня́ла, адчыня́лі; адчыня́ючы

**адчы́сціцца** *зак.* адчы́шчуся, адчы́сцішся, адчы́сціцца, адчы́сцімся, адчы́сціцеся, адчы́сцяцца; адчы́сціся, =цеся; адчы́сціўся, адчы́сцілася, адчы́сціліся; адчы́сціўшыся

**адчы́сціць** *зак., каго-што* адчы́шчу, адчы́сціш, адчы́сціць, адчы́сцім, адчы́сціце, адчы́сцяць; адчы́сці, =це; адчы́сціў, адчы́сціла, адчы́сцілі; адчы́шчаны; адчы́сціўшы

**адчыта́ць** *зак., каго- што* адчыта́ю, адчыта́еш, адчыта́е, адчыта́ем, адчыта́еце, адчыта́юць; адчыта́й, =це; адчыта́ў, адчыта́ла, адчыта́лі; адчыта́ны *і* адчы́таны; адчыта́ўшы

**адчы́тваць** *незак., каго-што* адчы́тваю, адчы́тваеш, адчы́твае, адчы́тваем, адчы́тваеце, адчы́тваюць; адчы́твай, =це; адчы́тваў, адчы́твала, адчы́твалі; адчы́тваючы

**адчышча́цца** *незак.* адчышча́юся, адчышча́ешся, адчышча́ецца, адчышча́емся, адчышча́ецеся, адчышча́юцца; адчышча́йся, =цеся; адчышча́ўся, адчышча́лася, адчышча́ліся; адчышча́ючыся

**адчышча́ць** *незак., каго-што* адчышча́ю, адчышча́еш, адчышча́е, адчышча́ем, адчышча́еце, адчышча́юць; адчышча́й, =це; адчышча́ў, адчышча́ла, адчышча́лі; адчышча́ючы

**адчэ́пліваццa** *незак.* адчэ́пліваюся, адчэ́пліваешся, адчэ́пліваецца, адчэ́пліваемся, адчэ́пліваецеся, адчэ́пліваюцца; адчэ́плівайся, =цеся; адчэ́пліваўся, адчэ́плівалася, адчэ́пліваліся; адчэ́пліваючыся

**адчэ́пліваць** *незак., што* адчэ́пліваю, адчэ́пліваеш, адчэ́плівае, адчэ́пліваем, адчэ́пліваеце, адчэ́пліваюць; адчэ́плівай, =це; адчэ́пліваў, адчэ́плівала, адчэ́плівалі; адчэ́пліваючы

**адчэ́рпаць** *зак., чаго-што,* адчэ́рпаю, адчэ́рпаеш, адчэ́рпае, адчэ́рпаем, адчэ́рпаеце, адчэ́рпаюць; адчэ́рпай, =це; адчэ́рпаў, адчэ́рпала, адчэ́рпалі; адчэ́рпаны; адчэ́рпаўшы

**адчэ́рпвацца** *незак.* адчэ́рпваецца, адчэ́рпваюцца; адчэ́рпваўся, адчэ́рпвалася, адчэ́рпваліся

**адчэ́рпваць** *незак., чаго-што* адчэ́рпваю, адчэ́рпваеш, адчэ́рпвае, адчэ́рпваем, адчэ́рпваеце, адчэ́рпваюць; адчэ́рпвай, =це; адчэ́рпваў, адчэ́рпвала, адчэ́рпвалі; адчэ́рпваючы

**адчэ́рпнуць** *зак., чаго* адчэ́рпну, адчэ́рпнеш, адчэ́рпне, адчэ́рпнем, адчэ́рпнеце, адчэ́рпнуць; адчэ́рпні, =це; адчэ́рпнуў, адчэ́рпнула, адчэ́рпнулі; адчэ́рпнуты; адчэ́рпнуўшы

**адчэ́рчвацца** *незак.* адчэ́рчваецца, адчэ́рчваюцца; адчэ́рчваўся, адчэ́рчвалася, адчэ́рчваліся

**адчэ́рчваць** *незак., што* адчэ́рчваю, адчэ́рчваеш, адчэ́рчвае, адчэ́рчваем, адчэ́рчваеце, адчэ́рчваюць; адчэ́рчвай, =це; адчэ́рчваў, адчэ́рчвала, адчэ́рчвалі; адчэ́рчваючы

**адчэ́свацца** *незак.* адчэ́сваецца, адчэ́сваюцца; адчэ́сваўся, адчэ́свалася, адчэ́сваліся

**адчэ́сваць** *незак., каго-што* адчэ́сваю, адчэ́сваеш, адчэ́свае, адчэ́сваем, адчэ́сваеце, адчэ́сваюць; адчэ́свай, =це; адчэ́сваў, адчэ́свала, адчэ́свалі; адчэ́сваючы

**адшапацéць** *зак.* адшапаці́ць, адшапаця́ць; адшапацéў, адшапацéла, адшапацéлі

**адшарава́ць** *зак., што* адшару́ю, адшару́еш, адшару́е, адшару́ем, адшару́еце, адшару́юць; адшару́й, =це; адшарава́ў, адшарава́ла, адшарава́лі; адшарава́ны; адшарава́ўшы

**адша́стаць** *зак., што і без дап.* адша́стаю, адша́стаеш, адша́стае, адша́стаем, адша́стаеце, адша́стаюць; адша́стай, =це; адша́стаў, адша́стала, адша́сталі; адша́стаўшы

**адшвартава́цца** *зак.* адшварту́ецца, адшварту́юцца; адшвартава́ўся, адшвартава́лася, адшвартава́ліся

**адшвартава́ць** *зак., што* адшварту́ю, адшварту́еш, адшварту́е, адшварту́ем, адшварту́еце, адшварту́юць; адшварту́й, =це; адшвартава́ў, адшвартава́ла, адшвартава́лі; адшвартава́ны; адшвартава́ўшы

**адшварто́ўвацца** *незак.* адшварто́ўваецца, адшварто́ўваюцца; адшварто́ўваўся, адшварто́ўвалася, адшварто́ўваліся

**адшварто́ўваць** *незак., што* адшварто́ўваю, адшварто́ўваеш, адшварто́ўвае, адшварто́ўваем, адшварто́ўваеце, адшварто́ўваюць; адшварто́ўвай, =це; адшварто́ўваў, адшварто́ўвала, адшварто́ўвалі; адшварто́ўваючы

**адшкадава́ць** *зак., што* адшкаду́ю, адшкаду́еш, адшкаду́е, адшкаду́ем, адшкаду́еце, адшкаду́юць; адшкаду́й, =це; адшкадава́ў, адшкадава́ла, адшкадава́лі; адшкадава́ны; адшкадава́ўшы

**адшкумата́ць** *зак., што* адшкумата́ю, адшкумата́еш, адшкумата́е, адшкумата́ем, адшкумата́еце, адшкумата́юць; адшкумата́й, =це; адшкумата́ў, адшкумата́ла, адшкумата́лі; адшкумата́ны; адшкумата́ўшы

**адшлёпаць** *зак., каго-што* адшлёпаю, адшлёпаеш, адшлёпае, адшлёпаем, адшлёпаеце, адшлёпаюць; адшлёпай, =це; адшлёпаў, адшлёпала, адшлёпалі; адшлёпаны; адшлёпаўшы

**адшліфава́цца** *зак.* адшліфу́ецца, адшліфу́юцца; адшліфава́ўся, адшліфава́лася, адшліфава́ліся

**адшліфава́ць** *зак., што* адшліфу́ю, адшліфу́еш, адшліфу́е, адшліфу́ем, адшліфу́еце, адшліфу́юць; адшліфу́й, =це; адшліфава́ў, адшліфава́ла, адшліфава́лі; адшліфава́ны; адшліфава́ўшы

**адшліфо́ўвацца** *незак.* адшліфо́ўваецца, адшліфо́ўваюцца; адшліфо́ўваўся, адшліфо́ўвалася, адшліфо́ўваліся

**адшліфо́ўваць** *незак., што* адшліфо́ўваю, адшліфо́ўваеш, адшліфо́ўвае, адшліфо́ўваем, адшліфо́ўваеце, адшліфо́ўваюць; адшліфо́ўвай, =це; адшліфо́ўваў, адшліфо́ўвала, адшліфо́ўвалі; адшліфо́ўваючы

**адшмаргну́ць** *зак., што* адшмаргну́, адшмаргне́ш, адшмаргне́, адшмаргнём, адшмаргняце́, адшмаргну́ць; адшмаргні́, =це; адшмаргну́ў, адшмаргну́ла, адшмаргну́лі; адшмо́ргнуты; адшмаргну́ўшы

**адшмата́ць** *зак., што* адшмата́ю, адшмата́еш, адшмата́е, адшмата́ем, адшмата́еце, адшмата́юць; адшмата́й, =це; адшмата́ў, адшмата́ла, адшмата́лі; адшмата́ўшы

**адшмо́ргвацца** *незак.* адшмо́ргваецца, адшмо́ргваюцца; адшмо́ргваўся, адшмо́ргвалася, адшмо́ргваліся

**адшмо́ргваць** *незак., што* адшмо́ргваю, адшмо́ргваеш, адшмо́ргвае, адшмо́ргваем, адшмо́ргваеце, адшмо́ргваюць; адшмо́ргвай, =це; адшмо́ргваў, адшмо́ргвала, адшмо́ргвалі; адшмо́ргваючы

**адшму́ляць** *зак., што* адшму́ляю, адшму́ляеш, адшму́ляе, адшму́ляем, адшму́ляеце, адшму́ляюць; адшму́ляй, =це; адшму́ляў, адшму́ляла, адшму́лялі; адшму́ляўшы

**адшпілі́цца** *зак.* адшпі́ліцца, адшпі́ляцца; адшпілі́ўся, адшпілі́лася, адшпілі́ліся

**адшпілі́ць** *зак., што* адшпілю́, адшпі́ліш, адшпі́ліць, адшпі́лім, адшпі́ліце, адшпі́ляць; адшпілі́, =це; адшпілі́ў, адшпілі́ла, адшпілі́лі; адшпі́лены; адшпілі́ўшы

**адшпі́львацца** *незак.* адшпі́льваецца, адшпі́льваюцца; адшпі́льваўся, адшпі́львалася, адшпі́льваліся

**адшпі́льваць** *незак., што* адшпі́льваю, адшпі́льваеш, адшпі́львае, адшпі́льваем, адшпі́льваеце, адшпі́льваюць; адшпі́львай, =це; адшпі́льваў, адшпі́львала, адшпі́львалі; адшпі́льваючы

**адшпіля́цца** *незак.* адшпіля́ецца, адшпіля́юцца; адшпіля́ўся, адшпіля́лася, адшпіля́ліся

**адшпіля́ць** *незак., што* адшпіля́ю, адшпіля́еш, адшпіля́е, адшпіля́ем, адшпіля́еце, адшпіля́юць; адшпіля́й, =це; адшпіля́ў, адшпіля́ла, адшпіля́лі; адшпіля́ючы

**адшпунтава́цца** *зак.* адшпунту́ецца, адшпунту́юцца; адшпунтава́ўся, адшпунтава́лася, адшпунтава́ліся

**адшпунтава́ць** *зак., што* адшпунту́ю, адшпунту́еш, адшпунту́е, адшпунту́ем, адшпунту́еце, адшпунту́юць; адшпунту́й, =це; адшпунтава́ў, адшпунтава́ла, адшпунтава́лі; адшпунтава́ны; адшпунтава́ўшы

**адшпунто́ўвацца** *незак.* адшпунто́ўваецца, адшпунто́ўваюцца; адшпунто́ўваўся, адшпунто́ўвалася, адшпунто́ўваліся

**адшпунто́ўваць** *незак., што* адшпунто́ўваю, адшпунто́ўваеш, адшпунто́ўвае, адшпунто́ўваем, адшпунто́ўваеце, адшпунто́ўваюць; адшпунто́ўвай, =це; адшпунто́ўваў, адшпунто́ўвала, адшпунто́ўвалі; адшпунто́ўваючы

**адшпурля́ць** *зак., што* адшпурля́ю, адшпурля́еш, адшпурля́е, адшпурля́ем, адшпурля́еце, адшпурля́юць; адшпурля́й, =це; адшпурля́ў, адшпурля́ла, адшпурля́лі; адшпурля́ўшы

**адшпурну́ць** *зак., што* адшпурну́, адшпурне́ш, адшпурне́, адшпурнём, адшпурняце́, адшпурну́ць; адшпурні́, =це; адшпурну́ў, адшпурну́ла, адшпурну́лі; адшпурну́ты; адшпурну́ўшы

**адшрубава́цца** *зак.* адшрубу́ецца, адшрубу́юцца; адшрубава́ўся, адшрубава́лася, адшрубава́ліся

**адшрубава́ць** *зак., што* адшрубу́ю, адшрубу́еш, адшрубу́е, адшрубу́ем, адшрубу́еце, адшрубу́юць; адшрубу́й, =це; адшрубава́ў, адшрубава́ла, адшрубава́лі; адшрубава́ны; адшрубава́ўшы

**адшрубо́ўвацца** *незак.* адшрубо́ўваецца, адшрубо́ўваюцца; адшрубо́ўваўся, адшрубо́ўвалася, адшрубо́ўваліся

**адшрубо́ўваць** *незак., што* адшрубо́ўваю, адшрубо́ўваеш, адшрубо́ўвае, адшрубо́ўваем, адшрубо́ўваеце, адшрубо́ўваюць; адшрубо́ўвай, =це; адшрубо́ўваў, адшрубо́ўвала, адшрубо́ўвалі; адшрубо́ўваючы

**адштабнава́ць** *зак., што* адштабну́ю, адштабну́еш, адштабну́е, адштабну́ем, адштабну́еце, адштабну́юць; адштабну́й, =це; адштабнава́ў, адштабнава́ла, адштабнава́лі; адштабнава́ны; адштабнава́ўшы

**адштампава́цца** *зак.* адштампу́ецца, адштампу́юцца; адштампава́ўся, адштампава́лася, адштампава́ліся

**адштампава́ць** *зак., што* адштампу́ю, адштампу́еш, адштампу́е, адштампу́ем, адштампу́еце, адштампу́юць; адштампу́й, =це; адштампава́ў, адштампава́ла, адштампава́лі; адштампава́ны; адштампава́ўшы

**адштампо́ўвацца** *незак.* адштампо́ўваецца, адштампо́ўваюцца; адштампо́ўваўся, адштампо́ўвалася, адштампо́ўваліся

**адштампо́ўваць** *незак., што* адштампо́ўваю, адштампо́ўваеш, адштампо́ўвае, адштампо́ўваем, адштампо́ўваеце, адштампо́ўваюць; адштампо́ўвай, =це; адштампо́ўваў, адштампо́ўвала, адштампо́ўвалі; адштампо́ўваючы

**адштапава́ць** *зак., што* адштапу́ю, адштапу́еш, адштапу́е, адштапу́ем, адштапу́еце, адштапу́юць; адштапу́й, =це; адштапава́ў, адштапава́ла, адштапава́лі; адштапава́ны; адштапава́ўшы

**адшто́рыць** *зак., што* адшто́ру, адшто́рыш, адшто́рыць, адшто́рым, адшто́рыце, адшто́раць; адшто́р, =це; адшто́рыў, адшто́рыла, адшто́рылі; адшто́рыўшы

**адштукава́ць** *зак., што* адштуку́ю, адштуку́еш, адштуку́е, адштуку́ем, адштуку́еце, адштуку́юць; адштуку́й, =це; адштукава́ў, адштукава́ла, адштукава́лі; адштукава́ны; адштукава́ўшы

**адшту́рхвацца** *незак.* адшту́рхваюся, адшту́рхваешся, адшту́рхваецца, адшту́рхваемся, адшту́рхваецеся, адшту́рхваюцца; адшту́рхвайся, =цеся; адшту́рхваўся, адшту́рхвалася, адшту́рхваліся; адшту́рхваючыся

**адшту́рхваць** *незак., каго-што* адшту́рхваю, адшту́рхваеш, адшту́рхвае, адшту́рхваем, адшту́рхваеце, адшту́рхваюць; адшту́рхвай, =це; адшту́рхваў, адшту́рхвала, адшту́рхвалі; адшту́рхваючы

**адштурхну́цца** *зак.* адштурхну́ся, адштурхне́шся, адштурхне́цца, адштурхнёмся, адштурхняце́ся, адштурхну́цца; адштурхні́ся, =цеся; адштурхну́ўся, адштурхну́лася, адштурхну́ліся; адштурхну́ўшыся

**адштурхну́ць** *зак., каго-што* адштурхну́, адштурхне́ш, адштурхне́, адштурхнём, адштурхняце́, адштурхну́ць; адштурхні́, =це; адштурхну́ў, адштурхну́ла, адштурхну́лі; адштурхну́ты; адштурхну́ўшы

**адштурхо́ўвацца** *незак.* адштурхо́ўваюся, адштурхо́ўваешся, адштурхо́ўваецца, адштурхо́ўваемся, адштурхо́ўваецеся, адштурхо́ўваюцца; адштурхо́ўвайся, =цеся; адштурхо́ўваўся, адштурхо́ўвалася, адштурхо́ўваліся; адштурхо́ўваючыся

**адштурхо́ўваць** *незак., каго-што* адштурхо́ўваю, адштурхо́ўваеш, адштурхо́ўвае, адштурхо́ўваем, адштурхо́ўваеце, адштурхо́ўваюць; адштурхо́ўвай, =це; адштурхо́ўваў, адштурхо́ўвала, адштурхо́ўвалі; адштурхо́ўваючы

**адшуга́ць** *зак.* адшуга́е, адшуга́юць; адшуга́ў, адшуга́ла, адшуга́лі

**адшука́цца** *зак.* адшука́ецца, адшука́юцца; адшука́ўся, адшука́лася, адшука́ліся

**адшука́ць** *зак., каго-што* адшука́ю, адшука́еш, адшука́е, адшука́ем, адшука́еце, адшука́юць; адшука́й, =це; адшука́ў, адшука́ла, адшука́лі; адшука́ны; адшука́ўшы

**адшу́квацца** *незак.* адшу́кваецца, адшу́кваюцца; адшу́кваўся, адшу́квалася, адшу́кваліся

**адшу́кваць** *незак., каго-што* адшу́кваю, адшу́кваеш, адшу́квае, адшу́кваем, адшу́кваеце, адшу́кваюць; адшу́квай, =це; адшу́кваў, адшу́квала, адшу́квалі; адшу́кваючы

**адшуме́ць** *зак.* адшумлю́, адшумі́ш, адшумі́ць, адшумі́м, адшуміце́, адшумя́ць; адшуме́ў, адшуме́ла, адшуме́лі; адшуме́ўшы

**адшчабята́ць** *зак.* адшчабячу́, адшчабе́чаш, адшчабе́ча, адшчабе́чам, адшчабе́чаце, адшчабе́чуць; адшчабята́ў, адшчабята́ла, адшчабята́лі; адшчабята́ўшы

**адшчапа́цца** *зак.* адшчапа́ецца, адшчапа́юцца; адшчапа́ўся, адшчапа́лася, адшчапа́ліся

**адшчапа́ць** *зак., што і чаго* адшчапа́ю, адшчапа́еш, адшчапа́е, адшчапа́ем, адшчапа́еце, адшчапа́юць; адшчапа́й, =це; адшчапа́ў, адшчапа́ла, адшчапа́лі; адшчапа́ны; адшчапа́ўшы

**адшчапі́цца** *зак.* адшчэ́піцца, адшчэ́пяцца; адшчапі́ўся, адшчапі́лася, адшчапі́ліся

**адшчапі́ць** *зак., што* адшчаплю́, адшчэ́піш, адшчэ́піць, адшчэ́пім, адшчэ́піце, адшчэ́пяць; адшчапі́, =це; адшчапі́ў, адшчапі́ла, адшчапі́лі; адшчэ́плены; адшчапі́ўшы

**адшчапля́цца** *незак.* адшчапля́ецца, адшчапля́юцца; адшчапля́ўся, адшчапля́лася, адшчапля́ліся

**адшчапля́ць** *незак., што* адшчапля́ю, адшчапля́еш, адшчапля́е, адшчапля́ем, адшчапля́еце, адшчапля́юць; адшчапля́й, =це; адшчапля́ў, адшчапля́ла, адшчапля́лі; адшчапля́ючы

**адшчы́квацца** *незак.* адшчы́кваецца, адшчы́кваюцца; адшчы́кваўся, адшчы́квалася, адшчы́кваліся

**адшчы́кваць** *зак., што і чаго* адшчы́кваю, адшчы́кваеш, адшчы́квае, адшчы́кваем, адшчы́кваеце, адшчы́кваюць; адшчы́квай, =це; адшчы́кваў, адшчы́квала, адшчы́квалі; адшчы́кваючы

**адшчыкну́цца** *зак.* адшчыкне́цца, адшчыкну́цца; адшчыкну́ўся, адшыкну́лася, адшчыкну́ліся

**адшчыкну́ць** *зак., што і чаго* адшчыкну́, адшчыкне́ш, адшчыкне́, адшчыкнём, адшчыкняце́, адшчыкну́ць; адшчыкні́, =це; адшчыкну́ў, адшчыкну́ла, адшчыкну́лі; адшчыкну́ўшы

**адшчы́пвацца** *незак.* адшчы́пваецца, адшчы́пваюцца; адшчы́пваўся, адшчы́пвалася, адшчы́пваліся

**адшчы́пваць** *незак., што і чаго* адшчы́пваю, адшчы́пваеш, адшчы́пвае, адшчы́пваем, адшчы́пваеце, адшчы́пваюць; адшчы́пвай, =це; адшчы́пваў, адшчы́пвала, адшчы́пвалі; адшчы́пваючы

**адшчыпну́ць** *зак., што і чаго* адшчыпну́, адшчыпне́ш, адшчыпне́, адшчыпнём, адшчыпняце́, адшчыпну́ць; адшчыпні́, =це; адшчыпну́ў, ад-

шчыпну́ла, адшчыпну́лі; адшчы́пнуты; адшчыпну́ўшы

**адшчэ́пліваца** *незак.* адшчэ́пліваецца, адшчэ́пліваюцца; адшчэ́пліваўся, адшчэ́плівалася, адшчэ́пліваліся

**адшчэ́пліваць** *незак., што* адшчэ́пліваю, адшчэ́пліваеш, адшчэ́плівае, адшчэ́пліваем, адшчэ́пліваеце, адшчэ́пліваюць; адшчэ́плівай, =це; адшчэ́пліваў, адшчэ́плівала, адшчэ́плівалі; адшчэ́пліваючы

**адшыва́цца** *незак.* адшыва́ецца, адшыва́юцца; адшыва́ўся, адшыва́лася, адшыва́ліся

**адшыва́ць** *незак., каго-што і без дап.* адшыва́ю, адшыва́еш, адшыва́е, адшыва́ем, адшыва́еце, адшыва́юць; адшыва́й, =це; адшыва́ў, адшыва́ла, адшыва́лі; адшыва́ючы

**адшы́цца** *зак.* адшы́юся, адшы́ешся, адшы́ецца, адшы́емся, адшы́ецеся, адшы́юцца; адшы́йся, =цеся; адшы́ўся, адшы́лася, адшы́ліся; адшы́ўшыся

**адшы́ць** *зак., каго-што і без дап.* адшы́ю, адшы́еш, адшы́е, адшы́ем, адшы́еце, адшы́юць; адшы́й, =це; адшы́ў, адшы́ла, адшы́лі; адшы́ты; адшы́ўшы

**адыгра́цца** *зак.* адыгра́юся, адыгра́ешся, адыгра́ецца, адыгра́емся, адыгра́ецеся, адыгра́юцца; адыгра́йся, =цеся; адыгра́ўся, адыгра́лася, адыгра́ліся; адыгра́ўшыся

**адыгра́ць** *зак., што і без дап.* адыгра́ю, адыгра́еш, адыгра́е, адыгра́ем, адыгра́еце, адыгра́юць; адыгра́й, =це; адыгра́ў, адыгра́ла, адыгра́лі; адыгра́ны *і* ады́граны; адыгра́ўшы

**ады́грывацца** *незак.* ады́грываюся, ады́грываешся, ады́грываецца, ады́грываемся, ады́грываецеся, ады́грываюцца; ады́грывайся, =цеся; ады́грываўся, ады́грывалася, ады́грываліся; ады́грываючыся

**ады́грываць** *незак., што і без дап.* ады́грываю, ады́грываеш, ады́грывае, ады́грываем, ады́грываеце, ады́грываюць; ады́грывай, =це; ады́грываў, ады́грывала, ады́грывалі; ады́грываючы

**адыма́цца** *незак.* адыма́ецца, адыма́юцца; адыма́ўся, адыма́лася, адыма́ліся

**адыма́ць** *незак., каго-што* адыма́ю, адыма́еш, адыма́е, адыма́ем, адыма́еце, адыма́юць; адыма́й, =це; адыма́ў, адыма́ла, адыма́лі; адыма́ючы

**адымжэ́ць** *зак.* адымжы́ць, адымжа́ць; адымжэ́ў, адымжэ́ла, адымжэ́лі

**адымча́ць** *зак., каго-што* адымчу́, адымчы́ш, адымчы́ць, адымчы́м, адымчыце́, адымча́ць; адымчы́, =це; адымча́ў, адымча́ла, адымча́лі; адымча́ўшы

**адысці́** *зак.* адыду́, ады́дзеш, ады́дзе, ады́дзем, ады́дзеце, ады́дуць; адыдзі́, =це; адышо́ў, адышла́, адышло́, адышлі́; адышо́ўшы

**адысці́ся** *зак.* адыду́ся, ады́дзешся, ады́дзецца, ады́дземся, ады́дзецеся, ады́дуцца; адыдзі́ся, =цеся; адышо́ўся, адышла́ся, адышло́ся, адышлі́ся; адышо́ўшыся

**адыхо́дзіцца** *незак.* адыхо́джуся, адыхо́дзішся, адыхо́дзіцца, адыхо́дзімся, адыхо́дзіцеся, адыхо́дзяцца; адыхо́дзься, =цеся; адыхо́дзіўся, адыхо́дзілася, адыхо́дзіліся; адыхо́дзячыся

**адыхо́дзіць** *незак.* адыхо́джу, адыхо́дзіш, адыхо́дзіць, адыхо́дзім, адыхо́дзіце, адыхо́дзяць; адыхо́дзь, =це; адыхо́дзіў, адыхо́дзіла, адыхо́дзілі; адыхо́дзячы

**адэкало́ніцца** *незак.* адэкало́нюся, адэкало́нішся, адэкало́ніцца, адэкало́німся, адэкало́ніцеся, адэкало́няцца; адэкало́нься, =цеся; адэкало́ніўся, адэкало́нілася, адэкало́ніліся; адэкало́нячыся

**адэкало́ніць** *незак., каго-што* адэкало́ню, адэкало́ніш, адэкало́ніць, адэкало́нім, адэкало́ніце, адэкало́няць; адэкало́нь, =це; адэкало́ніў, адэкало́ніла, адэкало́нілі; адэкало́нячы

**адэкзаменава́цца** *зак.* адэкзамену́юся, адэкзамену́ешся, адэкзамену́ецца, адэкзамену́емся, адэкзамену́ецеся, адэкзамену́юцца; адэкзаменава́ўся, адэкзаменава́лася, адэкзаменава́ліся; адэкзаменава́ўшыся

**адэкзаменава́ць** *зак., каго* адэкзамену́ю, адэкзамену́еш, адэкзамену́е, адэкзамену́ем, адэкзамену́еце, адэкзамену́юць; адэкзамену́й, =це; адэкзаменава́ў, адэкзаменава́ла, адэкзаменава́лі; адэкзаменава́ны; адэкзаменава́ўшы

**ад'яда́цца** *незак.* ад'яда́юся, ад'яда́ешся, ад'яда́ецца, ад'яда́емся, ад'яда́ецеся, ад'яда́юцца; ад'яда́йся, =цеся; ад'яда́ўся, ад'яда́лася, ад'яда́ліся; ад'яда́ючыся

**ад'яда́ць** *незак., што* ад'яда́ю, ад'яда́еш, ад'яда́е, ад'яда́ем, ад'яда́еце, ад'яда́юць; ад'яда́й, =це; ад'яда́ў, ад'яда́ла, ад'яда́лі; ад'яда́ючы

**ад'язджа́цца** *незак.* ад'язджа́юся, ад'язджа́ешся, ад'язджа́ецца, ад'язджа́емся, ад'язджа́ецеся, ад'язджа́юцца; ад'язджа́йся, =цеся; ад'язджа́ўся, ад'язджа́лася, ад'язджа́ліся; ад'язджа́ючыся

**ад'язджа́ць** *незак.* ад'язджа́ю, ад'язджа́еш, ад'язджа́е, ад'язджа́ем, ад'язджа́еце, ад'язджа́юць; ад'язджа́й, =це; ад'язджа́ў, ад'язджа́ла, ад'язджа́лі; ад'язджа́ючы; ад'язджа́ючы

**ажабра́чыць** *зак., каго* ажабра́чу, ажабра́чыш, ажабра́чыць, ажабра́чым, ажабра́чыце, ажабра́чаць; ажабра́чыў, ажабра́чыла, ажабра́чылі; ажабра́чыўшы

**ажані́цца** *зак.* ажаню́ся, ажэ́нішся, ажэ́ніцца, ажэ́німся, ажэ́ніцеся, ажэ́няцца; ажані́ся, =цеся; ажані́ўся, ажані́ліся; ажані́ўшыся

**ажані́ць** *зак., каго з кім і без дап.* ажаню́, ажэ́ніш, ажэ́ніць, ажэ́нім, ажэ́ніце, ажэ́няць; ажані́, =це; ажані́ў, ажані́ла, ажані́лі; ажані́ўшы

**ажарабі́цца** *зак.* ажарэ́біцца, ажарэ́бяцца; ажарабі́лася, ажарабі́ліся; ажарабі́ўшыся

**ажыватвара́цца** *незак.* ажыватвара́ецца, ажыватвара́юцца; ажыватвара́ўся, ажыватвара́лася, ажыватвара́ліся

**ажыватвара́ць** *незак., што* ажыватвара́ю, ажыватвара́еш, ажыватвара́е, ажыватвара́ем, ажыватвара́еце, ажыватвара́юць; ажыватвара́й, =це; ажыватвара́ў, ажыватвара́ла, ажыватвара́лі; ажыватвара́ючы

**ажыватвары́цца** *зак.* ажыватво́рыцца, ажыватво́рацца; ажыватвары́ўся, ажыватвары́лася, ажыватвары́ліся

**ажыватвары́ць** *зак., што* ажыватвару́, ажыватво́рыш, ажыватво́рыць, ажыватво́рым, ажыватво́рыце, ажыватво́раць; ажыватвары́, =це; ажыватвары́ў, ажыватвары́ла, ажыватвары́лі; ажыватво́раны; ажыватвары́ўшы

**ажыва́цца** *незак.* ажыва́ецца, ажыва́юцца; ажыва́ўся, ажыва́лася, ажыва́ліся

**ажыва́ць** *незак.* ажыва́ю, ажыва́еш, ажыва́е, ажыва́ем, ажыва́еце, ажыва́юць; ажыва́й, =це; ажыва́ў, ажыва́ла, ажыва́лі; ажыва́ючы

**ажыві́цца** *зак.* ажыўлю́ся, ажы́вішся, ажы́віцца, ажы́вімся, ажы́віцеся, ажы́вяцца; ажыві́ўся, ажыві́лася, ажыві́ліся; ажыві́ўшыся

**ажыві́ць** *зак., каго-што* ажыўлю́, ажы́віш, ажы́віць, ажы́вім, ажы́віце, ажы́вяць; ажыві́, =це; ажыві́ў, ажыві́ла, ажыві́лі; ажы́ўлены; ажыві́ўшы

**ажыўля́цца** *незак.* ажыўля́юся, ажыўля́ешся, ажыўля́ецца, ажыўля́емся, ажыўля́ецеся, ажыўля́юцца; ажыўля́йся, =цеся; ажыўля́ўся, ажыўля́лася, ажыўля́ліся; ажыўля́ючыся

**ажыўля́ць** *незак., каго-што* ажыўля́ю, ажыўля́еш, ажыўля́е, ажыўля́ем, ажыўля́еце, ажыўля́юць; ажыўля́й, =це; ажыўля́ў, ажыўля́ла, ажыўля́лі; ажыўля́ючы; ажыўля́ючы

**ажыццяві́цца** *зак.* ажыццяві́цца, ажыццявя́цца; ажыццяві́ўся, ажыццяві́лася, ажыццяві́ліся

**ажыццяві́ць** *зак., што* ажыццяўлю́, ажыццяві́ш, ажыццяві́ць, ажыццяві́м, ажыццевіцé, ажыццявя́ць; ажыццяві́, =це; ажыццяві́ў, ажыццяві́ла, ажыццяві́лі; ажыццёўлены; ажыццяві́ўшы

**ажыццяўля́цца** *незак.* ажыццяўля́ецца, ажыццяўля́юцца; ажыццяўля́ўся, ажыццяўля́лася, ажыццяўля́ліся

**ажыццяўля́ць** *незак., што* ажыццяўля́ю, ажыццяўля́еш, ажыццяўля́е, ажыццяўля́ем, ажыццяўля́еце, ажыццяўля́юць; ажыццяўля́й, =це; ажыццяўля́ў, ажыццяўля́ла, ажыццяўля́лі; ажыццяўля́ючы

**ажы́ць** *зак.* ажыву́, ажыве́ш, ажыве́, ажывём, ажывяце́, ажыву́ць; ажыві́, =це; ажы́ў, ажыла́, ажыло́, ажылі́; ажы́ўшы

**азагало́віць** *зак., што* азагало́ўлю, азагало́віш, азагало́віць, азагало́вім, азагало́віце, азагало́вяць; азагало́ў, =це; азагало́віў, азагало́віла, азагало́вілі; азагало́ўлены; азагало́віўшы

**азагало́ўлівацца** *незак.* азагало́ўліваецца, азагало́ўліваюцца; азагало́ўліваўся, азагало́ўлівалася, азагало́ўліваліся

**азагало́ўліваць** *незак., што* азагало́ўліваю, азагало́ўліваеш, азагало́ўлівае, азагало́ўліваем, азагало́ўліваеце, азагало́ўліваюць; азагало́ўлівай, =це; азагало́ўліваў, азагало́ўлівала, азагало́ўлівалі; азагало́ўліваючы

**азада́чвацца** *незак.* азада́чваецца, азада́чваюцца; азада́чваўся, азада́чвалася, азада́чваліся

**азада́чваць** *незак., каго* азада́чваю, азада́чваеш, азада́чвае, азада́чваем, азада́чваеце, азада́чваюць; азада́чвай, =це; азада́чваў, азада́чвала, азада́чвалі; азада́чваючы

**азада́чыцца** *зак.* азада́чыцца, азада́чацца; азада́чыўся, азада́чылася, азада́чыліся

**азада́чыць** *зак., каго* азада́чу, азада́чыш, азада́чыць, азада́чым, азада́чыце, азада́чаць; азада́ч, =це; азада́чыў, азада́чыла, азада́чылі; азада́чаны; азада́чыўшы

**азалаці́цца** *зак.* азалачу́ся, азало́цішся, азало́ціцца, азало́цімся, азало́ціцеся, азало́цяцца; азалаці́ўся, азалаці́лася, азалаці́ліся; азалаці́ўшыся

**азалаці́ць** *зак., каго-што* азалачу́, азало́ціш, азало́ціць, азало́цім, азало́ціце, азало́цяць; азалаці́, =це; азалаці́ў, азалаці́ла, азалаці́лі; азало́чаны; азалаці́ўшы

**азале́ць** *зак.* азале́ю, азале́еш, азале́е, азале́ем, азале́еце, азале́юць; азале́ў, азале́ла, азале́лі; азале́ўшы

**азанава́цца** *незак.* азану́ецца, азану́юцца; азанава́ўся, азанава́лася, азанава́ліся

**азанава́ць** *зак. і незак., што* азану́ю, азану́еш, азану́е, азану́ем, азану́еце, азану́юць; азану́й, =це; азанава́ў, азанава́ла, азанава́лі; азанава́ны; азанава́ўшы, азану́ючы

**азара́цца** *незак.* азара́ецца, азара́юцца; азара́ўся, азара́лася, азара́ліся

**азара́ць** *незак., што* азара́ю, азара́еш, азара́е, азара́ем, азара́еце, азара́юць; азара́й, =це; азара́ў, азара́ла, азара́лі; азара́ючы

**аза́ртнічаць** *незак.* аза́ртнічаю, аза́ртнічаеш, аза́ртнічае, аза́ртнічаем, аза́ртнічаеце, аза́ртнічаюць; аза́ртнічаў, аза́ртнічала, аза́ртнічалі; аза́ртнічаючы

**азары́цца** *зак.* азары́цца, азара́цца; *і* азо́рыцца, азо́рацца; азары́ўся, азары́лася, азары́ліся; азары́ўшыся

**азары́ць** *зак., што* азару́, азо́рыш, азо́рыць, азо́рым, азо́рыце, азо́раць; *і* азару́, азары́ш, азары́ць, азары́м, азарыце́, азара́ць; азары́, =це; азары́ў, азары́ла, азары́лі; азо́раны; азары́ўшы

**азатава́цца** *незак.* азату́ецца, азату́юцца; азатава́ўся, азатава́лася, азатава́ліся

**азатава́ць** *зак. і незак., што* азату́ю, азату́еш, азату́е, азату́ем, азату́еце, азату́юць; азату́й, =це; азатава́ў, азатава́ла, азатава́лі; азатава́ны; азатава́ўшы

**азва́цца** *зак.* азаву́ся, азаве́шся, азаве́цца, азавёмся, азавяце́ся, азаву́цца; азаві́ся, =цеся; азва́ўся азва́лася, азва́ліся; азва́ўшыся

**азвярэ́ць** *зак.* азвярэ́ю, азвярэ́еш, азвярэ́е, азвярэ́ем, азвярэ́еце, азвярэ́юць; азвярэ́ў, азвярэ́ла, азвярэ́лі; азвярэ́ўшы

**азгле́ць** *зак.* азгле́ю, азгле́еш, азгле́е, азгле́ем, азгле́еце, азгле́юць; азгле́ў, азгле́ла, азгле́лі; азгле́ўшы

**аздабля́цца** *незак.* аздабля́ецца, аздабля́юцца; аздабля́ўся, аздабля́лася, аздабля́ліся

**аздабля́ць** *незак., каго-што* аздабля́ю, аздабля́еш, аздабля́е, аздабля́ем, аздабля́еце, аздабля́юць; аздабля́й, =це; аздабля́ў, аздабля́ла, аздабля́лі; аздабля́ючы

**аздараве́ць** *зак.* аздараве́ю, аздараве́еш, аздараве́е, аздараве́ем, аздараве́еце, аздараве́юць; аздараве́й, =це; аздараве́ў, аздараве́ла, аздараве́лі; аздараве́ўшы

**аздараві́цца** *зак.* аздаро́віцца, аздаро́вяцца; аздараві́ўся, аздараві́лася, аздараві́ліся

**аздараві́ць** *зак., каго-што* аздараўлю́, аздаро́віш, аздаро́віць, аздаро́вім, аздаро́віце, аздаро́вяць; аздараві́, =це; аздараві́ў, аздараві́ла, аздараві́лі; аздаро́ўлены; аздараві́ўшы

**аздараўля́цца** *незак.* аздараўля́ецца, аздараўля́юцца; аздара́ўляўся, аздараўля́лася, аздараўля́ліся

**аздараўля́ць** *незак., каго-што* аздараўля́ю, аздараўля́еш, аздараўля́е, аздараўля́ем, аздараўля́еце, аздараўля́юць; аздараўля́й, =це; аздараўля́ў, аздараўля́ла, аздараўля́лі; аздараўля́ючы

**аздо́біцца** *зак.* аздо́біцца, аздо́бяцца; аздо́біўся, аздо́білася, аздо́біліся

**аздо́біць** *зак., каго-што* аздо́блю, аздо́біш, аздо́біць, аздо́бім, аздо́біце, аздо́бяць; аздо́б, =це; аздо́біў, аздо́біла, аздо́білі; аздо́блены; аздо́біўшы

**аздо́блівацца** *незак.* аздо́бліваецца, аздо́бліваюцца; аздо́бліваўся, аздо́блівалася, аздо́бліваліся

**аздо́бліваць** *незак., каго-што* аздо́бліваю, аздо́бліваеш, аздо́блівае, аздо́бліваем, аздо́бліваеце, аздо́бліваюць; аздо́блівай, =це; аздо́бліваў, аздо́блівала, аздо́блівалі; аздо́бліваючы

**азеляні́цца** *зак.* азяле́ніцца, азяле́няцца; азеляні́ўся, азеляні́лася, азеляні́ліся

**азеляні́ць** *зак., што* азеляню́, азяле́ніш, азяле́ніць, азяле́нім, азяле́ніце, азяле́няць; азеляні́, =це; азеляні́ў, азеляні́ла, азеляні́лі; азелянёны; азеляні́ўшы

**азеляня́цца** *незак.* азеляня́ецца, азеляня́юцца; азеляня́ўся, азеляня́лася, азеляня́ліся

**азеляня́ць** *незак., што* азеляня́ю, азеляня́еш, азеляня́е, азеляня́ем, азеляня́еце, азеляня́юць; азеляня́й, =це; азеляня́ў, азеляня́ла, азеляня́лі; азеляня́ючы

**азімізава́цца** *зак. і незак.* азімізу́ецца, азімізу́юцца; азімізава́ўся, азімізава́лася, азімізава́ліся

**азімізава́ць** *зак. і незак., што* азімізу́ю, азімізу́еш, азімізу́е, азімізу́ем, азімізу́еце, азімізу́юць; азімізу́й, =це; азімізава́ў, азімізава́ла, азімізава́лі; азімізава́ны; азімізава́ўшы, азімізу́ючы

**азіра́цца** *незак., на каго-што і без дап.* азіра́юся, азіра́ешся, азіра́ецца, азіра́емся, азіра́ецеся, азіра́юцца; азіра́йся, =цеся; азіра́ўся, азіра́лася, азіра́ліся; азіра́ючыся

**азіра́ць** *незак., што* азіра́ю, азіра́еш, азіра́е, азіра́ем, азіра́еце, азіра́юць; азіра́й, =це; азіра́ў, азіра́ла, азіра́лі; азіра́ючы

**азірну́цца** *зак.* азірну́ся, азірне́шся, азірне́цца, азірнёмся, азірняце́ся, азірну́цца; азірні́ся, =цеся; азірну́ўся, азірну́лася, азірну́ліся; азірну́ўшыся

**азірну́ць** *зак., што* азірну́, азірне́ш, азірне́, азірнём, азірняце́, азірну́ць; азірні́, =це; азірну́ў, азірну́ла, азірну́лі; азірну́ўшы

**азлабля́цца** *незак.* азлабля́юся, азлабля́ешся, азлабля́ецца, азлабля́емся, азлабля́ецеся, азлабля́юцца; азлабля́ўся, азлабля́лася, азлабля́ліся; азлабля́ючыся

**азлабля́ць** *незак., каго-што* азлабля́ю, азлабля́еш, азлабля́е, азлабля́ем, азлабля́еце, азлабля́юць; азлабля́й, =це; азлабля́ў, азлабля́ла, азлабля́лі; азлабля́ючы

**азло́біцца** *зак.* азло́блюся, азло́бішся, азло́біцца, азло́бімся, азло́біцеся, азло́бяцца; азло́біўся, азло́білася, азло́біліся; азло́біўшыся

**азло́біць** *зак., каго-што* азло́блю, азло́біш, азло́біць, азло́бім, азло́біце, азло́бяць; азло́б, =це; азло́біў, азло́біла, азло́білі; азло́блены; азло́біўшы

**азмро́чвацца** *незак.* азмро́чваюся, азмро́чваешся, азмро́чваецца, азмро́чваемся, азмро́чваецеся, азмро́чваюцца; азмро́чваўся, азмро́чвалася, азмро́чваліся; азмро́чваючыся

**азмро́чваць** *незак., каго-што* азмро́чваю, азмро́чваеш, азмро́чвае, азмро́чваем, азмро́чваеце, азмро́чваюць; азмро́чваў, азмро́чвала, азмро́чвалі; азмро́чваючы

**азмро́чыцца** *зак.* азмро́чыцца, азмро́чацца; азмро́чыўся, азмро́чылася, азмро́чыліся

**азмро́чыць** *зак., каго-што* азмро́чу, азмро́чыш, азмро́чыць, азмро́чым, азмро́чыце, азмро́чаць; азмро́чыў, азмро́чыла, азмро́чылі; азмро́чаны; азмро́чыўшы

**азнаёміцца** *зак., з чым* азнаёмлюся, азнаёмішся, азнаёміцца, азнаёмімся, азнаёміцеся, азнаё-

мяцца; азнаёмся, =цеся; азнаёміўся, азнаёмілася, азнаёміліся; азнаёміўшыся

**азнаёміць** *зак., з чым* азнаёмлю, азнаёміш, азнаёміць, азнаёмім, азнаёміце, азнаёмяць; азнаём, =це; азнаёміў, азнаёміла, азнаёмілі; азнаёмлены; азнаёміўшы

**азнаёмліваццa** *незак., з чым* азнаёмліваюся, азнаёмліваешся, азнаёмліваецца, азнаёмліваемся, азнаёмліваецеся, азнаёмліваюцца; азнаёмлівайся, =цеся; азнаёмліваўся, азнаёмлівалася, азнаёмліваліся; азнаёмліваючыся

**азнаёмліваць** *незак., з чым* азнаёмліваю, азнаёмліваеш, азнаёмлівае, азнаёмліваем, азнаёмліваеце, азнаёмліваюць; азнаёмлівай, =це; азнаёмліваў, азнаёмлівала, азнаёмлівалі; азнаёмліваючы

**азнача́цца** *незак.* азнача́ецца, азнача́юцца; азнача́ўся, азнача́лася, азнача́ліся

**азнача́ць** *незак., што* азнача́ю, азнача́еш, азнача́е, азнача́ем, азнача́еце, азнача́юць; азнача́й, =це; азнача́ў, азнача́ла, азнача́лі; азнача́ючы

**азна́чыцца** *зак.* азна́чыцца, азна́чацца; азна́чыўся, азна́чылася, азна́чыліся

**азна́чыць** *зак., што* азна́чу, азна́чыш, азна́чыць, азна́чым, азна́чыце, азна́чаць; азна́ч, =це; азна́чыў, азна́чыла, азна́чылі; азна́чаны; азна́чыўшы

**азнаямля́цца** *незак., з чым* азнаямля́юся, азнаямля́ешся, азнаямля́ецца, азнаямля́емся, азнаямля́ецеся, азнаямля́юцца; азнаямля́йся, =цеся; азнаямля́ўся, азнаямля́лася, азнаямля́ліся; азнаямля́ючыся

**азнаямля́ць** *незак., з чым* азнаямля́ю, азнаямля́еш, азнаямля́е, азнаямля́ем, азнаямля́еце, азнаямля́юць; азнаямля́й, =це; азнаямля́ў, азнаямля́ла, азнаямля́лі; азнаямля́ючы

**азыва́цца** *незак.* азыва́юся, азыва́ешся, азыва́ецца, азыва́емся, азыва́ецеся, азыва́юцца; азыва́йся, =цеся; азыва́ўся, азыва́лася, азыва́ліся; азыва́ючыся

**азыза́ць** *незак.* азыза́ю, азыза́еш, азыза́е, азыза́ем, азыза́еце, азыза́юць; азыза́ў, азыза́ла, азыза́лі; азыза́ючы

**азы́знуць** *зак.* азы́зну, азы́знеш, азы́зне, азы́знем, азы́знеце, азы́знуць; азы́з, азы́зла, азы́злі; азы́зшы

**азя́бнуць** *зак.* азя́бну, азя́бнеш, азя́бне, азя́бнем, азя́бнеце, азя́бнуць; азя́б, азя́бла, азя́блі; азя́бшы

**азяле́ньвацца** *незак.* азяле́ньваецца, азяле́ньваюцца; азяле́ньваўся, азяле́ньвалася, азяле́ньваліся

**азяле́ньваць** *незак., што* азяле́ньваю, азяле́ньваеш, азяле́ньвае, азяле́ньваем, азяле́ньваеце, азяле́ньваюць; азяле́ньвай, =це; азяле́ньваў, азяле́ньвала, азяле́ньвалі; азяле́ньваючы

**азяро́дзіць** *незак.* азяро́джу, азяро́дзіш, азяро́дзіць, азяро́дзім, азяро́дзіце, азяро́дзяць; азяро́дзь, =це; азяро́дзіў, азяро́дзіла, азяро́дзілі; азяро́дзячы

**азярэ́дзіць** *незак.* азярэ́джу, азярэ́дзіш, азярэ́дзіць, азярэ́дзім, азярэ́дзіце, азярэ́дзяць; азярэ́дзь, =це; азярэ́дзіў, азярэ́дзіла, азярэ́дзілі; азярэ́дзячы

**а́йкаць** *незак.* а́йкаю, а́йкаеш, а́йкае, а́йкаем, а́йкаеце, а́йкаюць; а́йкаў, а́йкала, а́йкалі; а́йкаючы

**а́йкнуць** *зак.* а́йкну, а́йкнеш, а́йкне, а́йкнем, а́йкнеце, а́йкнуць; а́йкнуў, а́йкнула, а́йкнулі; а́йкнуўшы

**акава́ць** *зак., што* акую́, акуе́ш, акуе́, акуём, акуяце́, акую́ць; аку́й, =це; акава́ў, акава́ла, акава́лі; акава́ны; акава́ўшы

**аказа́цца** *зак.* акажу́ся, ака́жашся, ака́жацца, ака́жамся, ака́жацеся, ака́жуцца; акажы́ся, =цеся; аказа́ўся, аказа́лася, аказа́ліся; аказа́ўшыся

**аказа́ць** *зак., што* акажу́, ака́жаш, ака́жа, ака́жам, ака́жаце, ака́жуць; акажы́, =це; аказа́ў, аказа́ла, аказа́лі; ака́заны; аказа́ўшы

**ака́звацца** *незак.* ака́зваюся, ака́зваешся, ака́зваецца, ака́зваемся, ака́зваецеся, ака́зваюцца; ака́звайся, =цеся; ака́зваўся, ака́звалася, ака́зваліся; ака́зваючыся

**ака́зваць** *незак., што* ака́зваю, ака́зваеш, ака́звае, ака́зваем, ака́зваеце, ака́зваюць; ака́звай, =це; ака́зваў, ака́звала, ака́звалі; ака́зваючы

**аказёніцца** *зак.* аказёніцца, аказёняцца; аказёніўся, аказёнілася, аказёніліся

**аказёніць** *зак., што* аказёню, аказёніш, аказёніць, аказёнім, аказёніце, аказёняць; аказёніў, аказёніла, аказёнілі; аказёнены; аказёніўшы

**аказёньвацца** *незак.* аказёньваецца, аказёньваюцца; аказёньваўся, аказёньвалася, аказёньваліся

**аказёньваць** *незак., што* аказёньваю, аказёньваеш, аказёньвае, аказёньваем, аказёньваеце, аказёньваюць; аказёньваў, аказёньвала, аказёньвалі; аказёньваючы

**акаймава́ць** *зак., што* акайму́ю, акайму́еш, акайму́е, акайму́ем, акайму́еце, акайму́юць; акайму́й, =це; акаймава́ў, акаймава́ла, акаймава́лі; акаймава́ны; акаймава́ўшы

**акаймо́ўвацца** *незак.* акаймо́ўваецца, акаймо́ўваюцца; акаймо́ўваўся, акаймо́ўвалася, акаймо́ўваліся

**акаймо́ўваць** *незак., што* акаймо́ўваю, акаймо́ўваеш, акаймо́ўвае, акаймо́ўваем, акаймо́ўваеце, акаймо́ўваюць; акаймо́ўвай, =це; акаймо́ўваў, акаймо́ўвала, акаймо́ўвалі; акаймо́ўваючы

**акалаці́цца** *зак.* акало́ціцца, акало́цяцца; акалаці́ўся, акалаці́лася, акалаці́ліся

**акалаці́ць** *зак., што* акалачу́, акало́ціш, акало́ціць, акало́цім, акало́ціце, акало́цяць; акалаці́,

**дачэ́рпацца** *зак.* дачэ́рпаюся, дачэ́рпаешся, дачэ́рпаецца, дачэ́рпаемся, дачэ́рпаецеся, дачэ́рпаюцца; дачэ́рпаўся, дачэ́рпалася, дачэ́рпаліся; дачэ́рпаўшыся

**дачэ́рпаць** *зак., што* дачэ́рпаю, дачэ́рпаеш, дачэ́рпае, дачэ́рпаем, дачэ́рпаеце, дачэ́рпаюць; дачэ́рпай, =це; дачэ́рпаў, дачэ́рпала, дачэ́рпалі; дачэ́рпаўшы

**дачэ́рпвацца** *незак.* дачэ́рпваюся, дачэ́рпваешся, дачэ́рпваецца, дачэ́рпваемся, дачэ́рпваецеся, дачэ́рпваюцца; дачэ́рпвайся, =цеся; дачэ́рпваўся, дачэ́рпвалася, дачэ́рпваліся; дачэ́рпваючыся

**дачэ́рпваць** *незак., што* дачэ́рпваю, дачэ́рпваеш, дачэ́рпвае, дачэ́рпваем, дачэ́рпваеце, дачэ́рпваюць; дачэ́рпвай, =це; дачэ́рпваў, дачэ́рпвала, дачэ́рпвалі; дачэ́рпваючы

**дачэ́рчвацца** *незак.* дачэ́рчваецца, дачэ́рчваюцца; дачэ́рчваўся, дачэ́рчвалася, дачэ́рчваліся

**дачэ́рчваць** *незак., што* дачэ́рчваю, дачэ́рчваеш, дачэ́рчвае, дачэ́рчваем, дачэ́рчваеце, дачэ́рчваюць; дачэ́рчвай, =це; дачэ́рчваў, дачэ́рчвала, дачэ́рчвалі; дачэ́рчваючы

**дачэ́сваць** *незак., што* дачэ́сваю, дачэ́сваеш, дачэ́свае, дачэ́сваем, дачэ́сваеце, дачэ́сваюць; дачэ́свай, =це; дачэ́сваў, дачэ́свала, дачэ́свалі; дачэ́сваючы

**дашапта́цца** *зак.* дашапчу́ся, дашэ́пчашся, дашэ́пчацца, дашэ́пчамся, дашэ́пчацеся, дашэ́пчуцца; дашапта́ўся, дашапта́лася, дашапта́ліся; дашапта́ўшыся

**дашпу́рваць** *незак., каго-што* дашпу́рваю, дашпу́рваеш, дашпу́рвае, дашпу́рваем, дашпу́рваеце, дашпу́рваюць; дашпу́рвай, =це; дашпу́рваў, дашпу́рвала, дашпу́рвалі; дашпу́рваючы

**дашпурля́ць** *зак., каго-што* дашпурля́ю, дашпурля́еш, дашпурля́е, дашпурля́ем, дашпурля́еце, дашпурля́юць; дашпурля́й, =це; дашпурля́ў, дашпурля́ла, дашпурля́лі; дашпурля́ўшы

**дашпурну́ць** *зак., каго-што* дашпурну́, дашпурне́ш, дашпурне́, дашпурнём, дашпурняце́, дашпурну́ць; дашпурні́, =це; дашпурну́ў, дашпурну́ла, дашпурну́лі; дашпурну́ўшы

**дашрубава́ць** *зак., што* дашрубу́ю, дашрубу́еш, дашрубу́е, дашрубу́ем, дашрубу́еце, дашрубу́юць; дашрубу́й, =це; дашрубава́ў, дашрубава́ла, дашрубава́лі; дашрубава́ны; дашрубава́ўшы

**дашрубо́ўвацца** *незак.* дашрубо́ўваецца, дашрубо́ўваюцца; дашрубо́ўваўся, дашрубо́ўвалася, дашрубо́ўваліся

**дашрубо́ўваць** *незак., што* дашрубо́ўваю, дашрубо́ўваеш, дашрубо́ўвае, дашрубо́ўваем, дашрубо́ўваеце, дашрубо́ўваюць; дашрубо́ўвай, =це; дашрубо́ўваў, дашрубо́ўвала, дашрубо́ўвалі; дашрубо́ўваючы

**дашука́цца** *зак., каго-чаго і без дап.* дашука́юся, дашука́ешся, дашука́ецца, дашука́емся, дашука́ецеся, дашука́юцца; дашука́йся, =цеся; дашука́ўся, дашука́лася, дашука́ліся; дашука́ўшыся

**дашу́квацца** *незак. каго-чаго і без дап.* дашу́кваюся, дашу́кваешся, дашу́кваецца, дашу́кваемся, дашу́кваецеся, дашу́кваюцца; дашу́кваўся, дашу́квалася, дашу́кваліся; дашу́кваючыся

**дашчыпа́ць** *зак., што* дашчыплю́, дашчы́плеш, дашчы́пле, дашчы́плем, дашчы́плеце, дашчы́плюць; дашчыплі́, =це; *і* дашчыпа́ю, дашчыпа́еш, дашчыпа́е, дашчыпа́ем, дашчыпа́еце, дашчыпа́юць; дашчыпа́й, =це; дашчыпа́ў, дашчыпа́ла, дашчыпа́лі; дашчы́паны; дашчыпа́ўшы

**дашчы́пваць** *незак., што* дашчы́пваю, дашчы́пваеш, дашчы́пвае, дашчы́пваем, дашчы́пваеце, дашчы́пваюць; дашчы́пвай, =це; дашчы́пваў, дашчы́пвала, дашчы́пвалі; дашчы́пваючы

**дашыва́цца** *незак.* дашыва́ецца, дашыва́юцца; дашыва́ўся, дашыва́лася, дашыва́ліся

**дашыва́ць** *незак., што* дашыва́ю, дашыва́еш, дашыва́е, дашыва́ем, дашыва́еце, дашыва́юць; дашыва́й, =це; дашыва́ў, дашыва́ла, дашыва́лі; дашыва́ючы

**дашы́ць** *зак., што* дашы́ю, дашы́еш, дашы́е, дашы́ем, дашы́еце, дашы́юць; дашы́й, =це; дашы́ў, дашы́ла, дашы́лі; дашы́ты; дашы́ўшы

**даяда́цца** *незак.* даяда́ецца, даяда́юцца; даяда́ўся, даяда́лася, даяда́ліся

**даяда́ць** *незак., каго-што* даяда́ю, даяда́еш, даяда́е, даяда́ем, даяда́еце, даяда́юць; даяда́й, =це; даяда́ў, даяда́ла, даяда́лі; даяда́ючы

**даязджа́ць** *незак.* даязджа́ю, даязджа́еш, даязджа́е, даязджа́ем, даязджа́еце, даязджа́юць; даязджа́й, =це; даязджа́ў, даязджа́ла, даязджа́лі; даязджа́ючы

**дбаць** *незак.* дба́ю, дба́еш, дба́е, дба́ем, дба́еце, дба́юць; дбаў, дба́ла, дба́лі; дба́ючы

**дваі́цца** *незак.* дво́іцца, дво́яцца; дваі́ўся, дваі́лася, дваі́ліся

**дваі́ць** *незак., што* дваю́, дво́іш, дво́іць, дво́ім, дво́іце, дво́яць; дваі́, =це; дваі́ў, дваі́ла, дваі́лі; дво́ячы

**двуду́шнічаць** *незак.* двуду́шнічаю, двуду́шнічаеш, двуду́шнічае, двуду́шнічаем, двуду́шнічаеце, двуду́шнічаюць; двуду́шнічаў, двуду́шнічала, двуду́шнічалі; двуду́шнічаючы

**двуру́шнічаць** *незак.* двуру́шнічаю, двуру́шнічаеш, двуру́шнічае, двуру́шнічаем, двуру́шнічаеце, двуру́шнічаюць; двуру́шнічаў, двуру́шнічала, двуру́шнічалі; двуру́шнічаючы

**джа́ліць** *незак., каго-што і без дап.* джа́лю, джа́ліш, джа́ліць, джа́лім, джа́ліце, джа́ляць; джаль, =це; джа́ліў, джа́ліла, джа́лілі; джа́лячы

**джва́гнуць** *зак., чым і без дап.* джва́гну, джва́гнеш, джва́гне, джва́гнем, джва́гнеце, джва́гнуць; джва́гні, =це; джва́гнуў, джва́гнула, джва́гнулі; джва́гнуўшы

**джгану́ць** *зак., каго-што і без дап.* джгану́, джгане́ш, джгане́, джганём, джганяце́, джгану́ць; джгані́, =це; джгану́ў, джгану́ла, джгану́лі; джгану́ўшы

**джгаць** *незак., каго-што і без дап.* джга́ю, джга́еш, джга́е, джга́ем, джга́еце, джга́юць; джгай, =це; джгаў, джга́ла, джга́лі; джга́ючы

**джгнуць** *зак., каго-што і без дап.* джгну, джгнеш, джгне, джгнём, джгняце́, джгнуць; джгні, =це; джгнуў, джгну́ла, джгну́лі; джгну́ўшы

**джыгану́ць** *зак., каго-што і без дап.* джыгану́, джыгане́ш, джыгане́, джыганём, джыганяце́, джыгану́ць; джыгані́, =це; джыгану́ў, джыгану́ла, джыгану́лі; джыгану́ўшы

**джы́гаць** *незак., каго-што і без дап.* джы́гаю, джы́гаеш, джы́гае, джы́гаем, джы́гаеце, джы́гаюць; джы́гай, =це; джы́гаў, джы́гала, джы́галі; джы́гаючы

**джыгітава́ць** *незак.* джыгіту́ю, джыгіту́еш, джыгіту́е, джыгіту́ем, джыгіту́еце, джыгіту́юць; джыгітава́ў, джыгітава́ла, джыгітава́лі; джыгіту́ючы

**дзвы́нкаць** *незак.* дзвы́нкаю, дзвы́нкаеш, дзвы́нкае, дзвы́нкаем, дзвы́нкаеце, дзвы́нкаюць; дзвы́нкай, =це; дзвы́нкаў, дзвы́нкала, дзвы́нкалі; дзвы́нкаючы

**дзвы́нкнуць** *зак.* дзвы́нкну, дзвы́нкнеш, дзвы́нкне, дзвы́нкнем, дзвы́нкнеце, дзвы́нкнуць; дзвы́нкні, =це; дзвы́нкнуў, дзвы́нкнула, дзвы́нкнулі; дзвы́нкнуўшы

**дзе́йнічаць** *незак., чым, на каго-што і без дап.* дзе́йнічаю, дзе́йнічаеш, дзе́йнічае, дзе́йнічаем, дзе́йнічаеце, дзе́йнічаюць; дзе́йнічай, =це; дзе́йнічаў, дзе́йнічала, дзе́йнічалі; дзе́йнічаючы

**дзе́каць** *незак.* дзе́каю, дзе́каеш, дзе́кае, дзе́каем, дзе́каеце, дзе́каюць; дзе́кай, =це; дзе́каў, дзе́кала, дзе́калі; дзе́каючы

**дзеравяне́ць** *незак.* дзеравяне́ю, дзеравяне́еш, дзеравяне́е, дзеравяне́ем, дзеравяне́еце, дзеравяне́юць; дзеравяне́ў, дзеравяне́ла, дзеравяне́лі; дзеравяне́ючы

**дзервяне́ць** *незак.* дзервяне́ю, дзервяне́еш, дзервяне́е, дзервяне́ем, дзервяне́еце, дзервяне́юць; дзервяне́ў, дзервяне́ла, дзервяне́лі; дзервяне́ючы

**дзернава́ць** *незак., што* дзярну́ю, дзярну́еш, дзярну́е, дзярну́ем, дзярну́еце, дзярну́юць; дзярну́й, =це; дзернава́ў, дзернава́ла, дзернава́лі; дзярну́ючы

**дзе́рці** *незак., каго-што* дзяру́, дзярэ́ш, дзярэ́, дзяро́м, дзераце́, дзяру́ць; дзяры́, =це; дзёр, дзе́рла, дзе́рлі; дзёрты; дзеручы́

**дзе́рціся** *незак.* дзяру́ся, дзярэ́шся, дзярэ́цца, дзяро́мся, дзераце́ся, дзяру́цца; дзяры́ся, =цеся; дзёрся, дзе́рлася, дзе́рліся; дзеручы́ся

**дзеўбану́цца** *зак.* дзеўбану́ся, дзеўбане́шся, дзеўбане́цца, дзеўбанёмся, дзеўбаняце́ся, дзеўбану́цца; дзеўбану́ўся, дзеўбану́лася, дзеўбану́ліся; дзеўбану́ўшыся

**дзеўбану́ць** *зак., каго-што* дзеўбану́, дзеўбане́ш, дзеўбане́, дзеўбанём, дзеўбаняце́, дзеўбану́ць; дзеўбані́, =це; дзеўбану́ў, дзеўбану́ла, дзеўбану́лі; дзеўбану́ўшы

**дзе́цца** *зак.* дзе́нуся, дзе́нешся, дзе́нецца, дзе́немся, дзе́нецеся, дзе́нуцца; дзе́ўся, дзе́лася, дзе́ліся; дзе́ўшыся

**дзець** *зак., каго-што* дзе́ну, дзе́неш, дзе́не, дзе́нем, дзе́неце, дзе́нуць; дзень, =це; дзеў, дзе́ла, дзе́лі; дзе́ўшы

**дзешаве́ць** *незак.* дзешаве́е, дзешаве́юць; дзешаве́ў, дзешаве́ла, дзешаве́лі

**дзе́яцца** *незак.* дзе́ецца; дзе́ялася

**дзе́яць** *незак., што* дзе́ю, дзе́еш, дзе́е, дзе́ем, дзе́еце, дзе́юць; дзей, =це; дзе́яў, дзе́яла, дзе́ялі; дзе́ючы

**дзёўбацца** *незак.* дзёўбаецца, дзёўбаюцца; дзёўбаўся, дзёўбалася, дзёўбаліся

**дзёўбаць** *незак., каго-што,* (*пра птушак*) дзёўбае, дзёўбаюць; (*пра чалавека*) дзёўбаю, дзёўбаеш, дзёўбае, дзёўбаем, дзёўбаеце, дзёўбаюць; дзёўбай, =це; дзёўбаў, дзёўбала, дзёўбалі; дзёўбаючы

**дзівава́цца** *незак.* дзіву́юся, дзіву́ешся, дзіву́ецца, дзіву́емся, дзіву́ецеся, дзіву́юцца; дзіву́йся, =цеся; дзівава́ўся, дзівава́лася, дзівава́ліся; дзіву́ючыся

**дзіва́чыць** *незак.* дзіва́чу, дзіва́чыш, дзіва́чыць, дзіва́чым, дзіва́чыце, дзіва́чаць; дзіва́чыў, дзіва́чыла, дзіва́чылі; дзіва́чачы

**дзіві́цца** *незак., каму-чаму, з каго-чаго і з дадан. сказам* дзіўлю́ся, дзі́вішся, дзі́віцца, дзі́вімся, дзі́віцеся, дзі́вяцца; дзіві́ся, =цеся; дзіві́ўся, дзіві́лася, дзіві́ліся; дзі́вячыся

**дзіві́ць** *незак., каго-што* дзіўлю́, дзі́віш, дзі́віць, дзі́вім, дзі́віце, дзі́вяць; дзіві́, =це; дзіві́ў, дзіві́ла, дзіві́лі; дзі́вячы

**дзі́нькаць** *незак.* дзі́нькаю, дзі́нькаеш, дзі́нькае, дзі́нькаем, дзі́нькаеце, дзі́нькаюць; дзі́нькай, =це; дзі́нькаў, дзі́нькала, дзі́нькалі; дзі́нькаючы

**дзі́нькнуць** *зак.* дзі́нькну, дзі́нькнеш, дзі́нькне, дзі́нькнем, дзі́нькнеце, дзі́нькнуць; дзі́нькні, =це; дзі́нькнуў, дзі́нькнула, дзі́нькнулі; дзі́нькнуўшы

**дзіра́віцца** *незак.* дзіра́віцца, дзіра́вяцца; дзіра́віўся, дзіра́вілася, дзіра́віліся

**дзіра́віць** *незак., што* дзіра́ўлю, дзіра́віш, дзіра́віць, дзіра́вім, дзіра́віце, дзіра́вяць; дзіра́ў, =це; дзіра́віў, дзіра́віла, дзіра́вілі; дзіра́вячы

**дзірване́ць** *незак.* дзірване́е, дзірване́юць; дзірване́ў, дзірване́ла, дзірване́лі

**дзічы́цца** *незак., каго-чаго і без дап.* дзічу́ся, дзічы́шся, дзічы́цца, дзічы́мся, дзічыце́ся, дзіча́цца; дзічы́ся, =цеся; дзічы́ўся, дзічы́лася, дзічы́ліся; дзі́чачыся

**дзічэ́ць** *незак.* дзічэ́ю, дзічэ́еш, дзічэ́е, дзічэ́ем, дзічэ́еце, дзічэ́юць; дзічэ́ў, дзічэ́ла, дзічэ́лі; дзічэ́ючы

**дзылі́нкаць** *незак.* дзылі́нкаю, дзылі́нкаеш, дзылі́нкае, дзылі́нкаем, дзылі́нкаеце, дзылі́нкаюць; дзылі́нкай, =це; дзылі́нкаў, дзылі́нкала, дзылі́нкалі; дзылі́нкаючы

**дзылі́нкнуць** *зак.* дзылі́нкну, дзылі́нкнеш, дзылі́нкне, дзылі́нкнем, дзылі́нкнеце, дзылі́нкнуць; дзылі́нкні, =це; дзылі́нкнуў, дзылі́нкнула, дзылі́нкнулі; дзылі́нкнуўшы

**дзы́нкаць** *незак.* дзы́нкаю, дзы́нкаеш, дзы́нкае, дзы́нкаем, дзы́нкаеце, дзы́нкаюць; дзы́нкай, =це; дзы́нкаў, дзы́нкала, дзы́нкалі; дзы́нкаючы

**дзы́нкнуць** *зак.* дзы́нкну, дзы́нкнеш, дзы́нкне, дзы́нкнем, дзы́нкнеце, дзы́нкнуць; дзы́нкні, =це; дзы́нкнуў, дзы́нкнула, дзы́нкнулі; дзы́нкнуўшы

**дзьму́хаць** *незак.* дзьму́хаю, дзьму́хаеш, дзьму́хае, дзьму́хаем, дзьму́хаеце, дзьму́хаюць; дзьму́хай, =це; дзьму́хаў, дзьму́хала, дзьму́халі; дзьму́хаючы

**дзьму́хнуць** *зак.* дзьму́хну, дзьму́хнеш, дзьму́хне, дзьму́хнем, дзьму́хнеце, дзьму́хнуць; дзьму́хні, =це; дзьму́хнуў, дзьму́хнула, дзьму́хнулі; дзьму́хнуўшы

**дзьму́цца** *незак., на каго-што і без дап.* дзьму́ся, дзьме́шся, дзьме́цца, дзьмёмся, дзьмяце́ся, дзьму́цца; дзьмі́ся, =цеся; дзьму́ўся, дзьму́лася, дзьму́ліся; дзьмучы́ся

**дзьмуць** *незак.* дзьму, дзьмеш, дзьме, дзьмём, дзьмяце́, дзьмуць; дзьмі, =це; дзьмуў, дзьму́ла, дзьму́лі; дзьмучы́

**дзюбану́ць** *зак., каго-што і без дап.* дзюбану́, дзюбане́ш, дзюбане́, дзюбанём, дзюбаняце́, дзюбану́ць; (*пра птушак*) дзюбане́, дзюбану́ць; дзюбані́, =це; дзюбану́ў, дзюбану́ла, дзюбану́лі; дзюбану́ўшы

**дзю́бацца** *незак.* дзю́баецца, дзю́баюцца; дзю́баўся, дзю́балася, дзю́баліся

**дзю́баць** *незак., каго-што і без дап.* дзю́баю, дзю́баеш, дзю́бае, дзю́баем, дзю́баеце, дзю́баюць; дзю́бай, =це; дзю́баў, дзю́бала, дзю́балі; дзю́баючы

**дзю́бнуцца** *зак.* дзю́бнуся, дзю́бнешся, дзю́бнецца, дзю́бнемся, дзю́бнецеся, дзю́бнуцца; дзю́бніся, =цеся; дзю́бнуўся, дзю́бнулася, дзю́бнуліся; дзю́бнуўшыся

**дзю́бнуць** *зак., каго-што і без дап.* дзю́бну, дзю́бнеш, дзю́бне, дзю́бнем, дзю́бнеце, дзю́бнуць; (*пра птушак*) дзю́бне, дзю́бнуць; дзю́бні, =це; дзю́бнуў, дзю́бнула, дзю́бнулі; дзю́бнуўшы

**дзюрча́ць** *незак.* дзюрчы́ць, дзюрча́ць; дзюрча́ў, дзюрча́ла, дзюрча́лі

**дзюрчэ́ць** *незак.* дзюрчы́ць, дзюрча́ць; дзюрчэ́ў, дзюрчэ́ла, дзюрчэ́лі

**дзява́цца** *незак.* дзява́юся, дзява́ешся, дзява́ецца, дзява́емся, дзява́ецеся, дзява́юцца; дзява́ўся, дзява́лася, дзява́ліся

**дзява́ць** *незак., каго-што* дзява́ю, дзява́еш, дзява́е, дзява́ем, дзява́еце, дзява́юць; дзява́ў, дзява́ла, дзява́лі; дзява́ючы

**дзяжу́рыць** *незак.* дзяжу́ру, дзяжу́рыш, дзяжу́рыць, дзяжу́рым, дзяжу́рыце, дзяжу́раць; дзяжу́р, =це; дзяжу́рыў, дзяжу́рыла, дзяжу́рылі; дзяжу́рачы

**дзя́каваць** *незак., каму-чаму* дзя́кую, дзя́куеш, дзя́куе, дзя́куем, дзя́куеце, дзя́куюць; дзя́куй, =це; дзя́каваў, дзя́кавала, дзя́кавалі; дзя́куючы

**дзялі́цца** *незак., чым з кім і без дап.* дзялю́ся, дзе́лішся, дзе́ліцца, дзе́лімся, дзе́ліцеся, дзе́ляцца; дзялі́ся, =цеся; дзялі́ўся, дзялі́лася, дзялі́ліся; дзе́лячыся

**дзялі́ць** *незак., каго-што з кім* дзялю́, дзе́ліш, дзе́ліць, дзе́лім, дзе́ліце, дзе́ляць; дзялі́, =це; дзялі́ў, дзялі́ла, дзялі́лі; дзе́лены; дзе́лячы

**дзяржа́цца** *незак.* дзяржу́ся, дзяржы́шся, дзяржы́цца, дзяржы́мся, дзержыце́ся, дзяржа́цца; дзяржы́ся, =цеся; дзяржа́ўся, дзяржа́лася, дзяржа́ліся; дзе́ржачыся

**дзяржа́ць** *незак., каго-што* дзяржу́, дзяржы́ш, дзяржы́ць, дзяржы́м, дзержыце́, дзяржа́ць; дзяржы́, =це; дзяржа́ў, дзяржа́ла, дзяржа́лі; дзе́ржачы

**дзяўба́цца** *незак.* дзяўба́ецца, дзяўба́юцца; дзяўба́ўся, дзяўба́лася, дзяўба́ліся

**дзяўба́ць** *незак., каго-што* дзяўба́ю, дзяўба́еш, дзяўба́е, дзяўба́ем, дзяўба́еце, дзяўба́юць; дзяўба́й, =це; дзяўба́ў, дзяўба́ла, дзяўба́лі; дзяўба́ючы

**дзяўбці́** *незак., каго-што* дзяўбу́, дзяўбе́ш, дзяўбе́, дзяўбём, дзеўбяце́, дзяўбу́ць; дзяўбі́, =це; дзёўб, дзяўбла́, дзяўбло́, дзяўблі́; дзеўбучы́

**дзяўбці́ся** *незак.* дзяўбе́цца, дзяўбу́цца; дзёўбся, дзяўбла́ся, дзяўбло́ся, дзяўблі́ся

**дзя́ўкаць** *незак.* дзя́ўкаю, дзя́ўкаеш, дзя́ўкае, дзя́ўкаем, дзя́ўкаеце, дзя́ўкаюць; дзя́ўкай, =це; дзя́ўкаў, дзя́ўкала, дзя́ўкалі; дзя́ўкаючы

**дзя́ўкнуць** *зак.* дзя́ўкну, дзя́ўкнеш, дзя́ўкне, дзя́ўкнем, дзя́ўкнеце, дзя́ўкнуць; дзя́ўкні, =це; дзя́ўкнуў, дзя́ўкнула, дзя́ўкнулі; дзя́ўкнуўшы

**дзяці́нець** *незак.* дзяці́нею, дзяці́нееш, дзяці́нее, дзяці́неем, дзяці́нееце, дзяці́неюць; дзяці́неў, дзяці́нела, дзяці́нелі; дзяці́неючы

**дзяці́ніцца** *незак.* дзяці́нюся, дзяці́нішся, дзяці́ніцца, дзяці́німся, дзяці́нецеся, дзяці́няцца; дзяці́нься, =цеся; дзяці́ніўся, дзяці́нілася, дзяці́ніліся; дзяці́нячыся

**длу́бацца** *незак.* длу́баюся, длу́баешся, длу́баецца, длу́баемся, длу́баецеся, длу́баюцца; длу́баўся, длу́балася, длу́баліся; длу́баючыся

**длу́баць** *незак., што* длу́баю, длу́баеш, длу́бае, длу́баем, длу́баеце, длу́баюць; длу́бай, =це; длу́баў, длу́бала, длу́балі; длу́баючы

**днява́ліць** *незак.* днява́лю, днява́ліш, днява́ліць, днява́лім, днява́ліце, днява́ляць; днява́ль, =це; днява́ліў, днява́ліла, днява́лілі; днява́лячы

**днява́ць** *незак.* днюю, днюеш, днюе, днюем, днюеце, днююць; днява́ў, днява́ла, днява́лі; днюючы

**добраўпара́дкавацца** *зак.* добраўпара́дкуецца, добраўпара́дкуюцца; добраўпара́дкаваўся, добраўпара́дкавалася, добраўпара́дкаваліся

**добраўпара́дкаваць** *зак., што* добраўпара́дкую, добраўпара́дкуеш, добраўпара́дкуе, добраўпара́дкуем, добраўпара́дкуеце, добраўпара́дкуюць; добраўпара́дкуй, =це; добраўпара́дкаваў, добраўпара́дкавала, добраўпара́дкавалі; добраўпара́дкаваны; добраўпара́дкаваўшы

**добраўпарадкóўвацца** *незак.* добраўпарадкóўваецца, добраўпарадкóўваюцца; добраўпарадкóўваўся, добраўпарадкóўвалася, добраўпарадкóўваліся

**добраўпарадкóўваць** *незак., што* добраўпарадкóўваю, добраўпарадкóўваеш, добраўпарадкóўвае, добраўпарадкóўваем, добраўпарадкóўваеце, добраўпарадкóўваюць; добраўпарадкóўвай, =це; добраўпарадкóўваў, добраўпарадкóўвала, добраўпарадкóўвалі; добраўпарадкóўваючы

**донкіхóтнічаць** *незак.* донкіхóтнічаю, донкіхóтнічаеш, донкіхóтнічае, донкіхóтнічаем, донкіхóтнічаеце, донкіхóтнічаюць; донкіхóтнічаў, донкіхóтнічала, донкіхóтнічалі; донкіхóтнічаючы

**дóўжыцца** *незак.* дóўжыцца, дóўжацца; дóўжыўся, дóўжылася, дóўжыліся

**дóўжыць** *незак., што* дóўжу, дóўжыш, дóўжыць, дóўжым, дóўжыце, дóўжаць; дóўжыў, дóўжыла, дóўжылі; дóўжачы

**дóхнуць** *незак.* дóхну, дóхнеш, дóхне, дóхнем, дóхнеце, дóхнуць; дох, дóхла, дóхлі; дóхнучы

**драбі́цца** *незак.* дрóбіцца, дрóбяцца *і* драбі́цца, драбя́цца; драбі́ўся, драбі́лася, драбі́ліся

**драбі́ць** *незак., што* драблю́, дрóбіш, дрóбіць, дрóбім, дрóбіце, дрóбяць *і* драблю́, драбі́ш, драбі́ць, драбі́м, драбіцé, драбя́ць; драбі́, =це; драбі́ў, драбі́ла, драбі́лі; дрóблены; дрóбячы

**драбнéць** *незак.* драбнéю, драбнéеш, драбнéе, драбнéем, драбнéеце, драбнéюць; драбнéў, драбнéла, драбнéлі; драбнéючы

**драбні́цца** *незак.* дрóбніцца, дрóбняцца *і* драбні́цца, драбня́цца; драбні́ўся, драбні́лася, драбні́ліся

**драбні́ць** *незак., што* драбню́, дрóбніш, дрóбніць, дрóбнім, дрóбніце, дрóбняць *і* драбню́, драбні́ш, драбні́ць, драбні́м, драбніцé, драбня́ць; драбні́, =це; драбні́ў, драбні́ла, драбні́лі; дрóбнены; дрóбнячы

**драбязі́ць** *незак.* драбяжу́, драбязі́ш, драбязі́ць, драбязі́м, драбязіцé, драбязя́ць; драбязі́ў, драбязі́ла, драбязі́лі

**драгі́раваць** *зак. і незак., што* драгі́рую, драгі́руеш, драгі́руе, драгі́руем, драгі́руеце, драгі́руюць; драгі́руй, =це; драгі́раваў, драгі́равала, драгі́равалі; драгі́раваны; драгі́раваўшы, драгі́руючы

**дражджава́ць** *незак., што* дражджу́ю, дражджу́еш, дражджу́е, дражджу́ем, дражджу́еце, дражджу́юць, дражджу́й, =це; дражджава́ў, дражджава́ла, дражджава́лі; дражджу́ючы

**дражні́цца** *незак., з кім і без дап.* дражню́ся, дра́жнішся, дра́жніцца, дра́жнімся, дра́жніцеся, дра́жняцца; дражні́ся, =цеся; дражні́ўся, дражні́лася, дражні́ліся; дра́жнячыся

**дражні́ць** *незак., каго-што* дражню́, дра́жніш, дра́жніць, дра́жнім, дра́жніце, дра́жняць; дражні́, =це; дражні́ў, дражні́ла, дражні́лі; дра́жнячы

**дра́іцца** *незак.* дра́іцца, дра́яцца; дра́іўся, дра́ілася, дра́іліся

**дра́іць** *незак., што* дра́ю, дра́іш, дра́іць, дра́ім, дра́іце, дра́яць; драй, =це; дра́іў, дра́іла, дра́ілі; дра́ячы

**драману́ць** *зак.* драману́, драманéш, драманé, драманём, драманяцé, драману́ць; драмані́, =це; драману́ў, драману́ла, драману́лі; драману́ўшы

**драматызава́цца** *незак.* драматызу́ецца, драматызу́юцца; драматызава́ўся, драматызава́лася, драматызава́ліся

**драматызава́ць** *незак., што* драматызу́ю, драматызу́еш, драматызу́е, драматызу́ем, драматызу́еце, драматызу́юць; драматызу́й, =це; драматызава́ў, драматызава́ла, драматызава́лі; драматызава́ны; драматызу́ючы

**драма́цца** *незак.* дрэ́млецца; драма́лася

**драма́ць** *незак.* драмлю́, дрэ́млеш, дрэ́мле, дрэ́млем, дрэ́млеце, дрэ́млюць; драмі́, =це; драма́ў, драма́ла, драма́лі; дрэ́млючы

**дранцвéць** *незак.* дранцвéю, дранцвéеш, дранцвéе, дранцвéем, дранцвéеце, дранцвéюць; дранцвéй, =це; дранцвéў, дранцвéла, дранцвéлі; дранцвéючы

**драпану́ць** *зак., каго-што* драпану́, драпанéш, драпанé, драпанём, драпаняцé, драпану́ць; драпані́, =це; драпану́ў, драпану́ла, драпану́лі; драпану́ўшы

**дра́пацца** *незак.* дра́паюся, дра́паешся, дра́паецца, дра́паемся, дра́паецеся, дра́паюцца; дра́пайся, =цеся; дра́паўся, дра́палася, дра́паліся; дра́паючыся

**дра́пацць** *незак., што* дра́паю, дра́паеш, дра́пае, дра́паем, дра́паеце, дра́паюць; дра́пай, =це; дра́паў, дра́пала, дра́палі; дра́паючы

**драпе́жнічаць** *незак.* драпе́жнічаю, драпе́жнічаеш, драпе́жнічае, драпе́жнічаем, драпе́жнічаеце, драпе́жнічаюць; драпе́жнічай, =це; драпе́жнічаў, драпе́жнічала, драпе́жнічалі; драпе́жнічаючы

**драпірава́цца** *незак., у што-чым* драпіру́юся, драпіру́ешся, драпіру́ецца, драпіру́емся, драпіру́ецеся, драпіру́юцца; драпіру́йся, =цеся; драпірава́ўся, драпірава́лася, драпірава́ліся; драпіру́ючыся

**драпірава́ць** *незак., у што, чым* драпіру́ю, драпіру́еш, драпіру́е, драпіру́ем, драпіру́еце, драпіру́юць; драпіру́й, =це; драпірава́ў, драпірава́ла, драпірава́лі; драпірава́ны; драпіру́ючы

**дра́пнуць** *зак., каго-што* дра́пну, дра́пнеш, дра́пне, дра́пнем, дра́пнеце, дра́пнуць; дра́пні, =це; дра́пнуў, дра́пнула, дра́пнулі; дра́пнуты; дра́пнуўшы

**драселі́раваць** *зак. і незак., што* драселі́рую, драселі́руеш, драселі́руе, драселі́руем, драселі́руеце, драселі́руюць; драселі́руй, =це; драселі́раваў, драселі́равала, драселі́равалі; драселі́раваны; драселі́раваўшы, драселі́руючы

**дратава́цца** *незак.* драту́ецца, драту́юцца; дратава́ўся, дратава́лася, дратава́ліся

**дратава́ць** *незак., што* драту́ю, драту́еш, драту́е, драту́ем, драту́еце, драту́юць; драту́й, =це; дратава́ў, дратава́ла, дратава́лі; дратава́ны; драту́ючы

**драхле́ць** *незак.* драхле́ю, драхле́еш, драхле́е, драхле́ем, драхле́еце, драхле́юць; драхле́ў, драхле́ла, драхле́лі; драхле́ючы

**дра́цца** *незак.* дзяру́ся, дзярэ́шся, дзярэ́цца, дзяро́мся, дзераце́ся, дзяру́цца; дзяры́ся, =цеся; дра́ўся, дра́лася, дра́ліся; дзеручы́ся

**драць** *незак., каго-што* дзяру́, дзярэ́ш, дзярэ́, дзяро́м, дзераце́, дзяру́ць; дзяры́, =це; драў, дра́ла, дра́лі; дра́ны; дзеручы́

**дро́гацца** *незак.* дро́гаюся, дро́гаешся, дро́гаецца, дро́гаемся, дро́гаецеся, дро́гаюцца; дро́гаўся, дро́галася, дро́галіся; дро́гаючыся

**дро́гаць** *незак.* дро́гаю, дро́гаеш, дро́гае, дро́гаем, дро́гаеце, дро́гаюць; дро́гай, =це; дро́гаў, дро́гала, дро́галі; дро́гаючы

**дружы́ць** *незак., з кім і без дап.* дружу́, дру́жыш, дру́жыць, дру́жым, дру́жыце, дру́жаць; дружы́, =це; дружы́ў, дружы́ла, дружы́лі; дру́жачы

**друзгата́ць** *незак.* друзгачу́, друзго́чаш, друзго́ча, друзго́чам, друзго́чаце, друзго́чуць; друзгачы́, =це; друзгата́ў, друзгата́ла, друзгата́лі; друзго́чучы

**друкава́цца** *незак.* друку́юся, друку́ешся, друку́ецца, друку́емся, друку́ецеся, друку́юцца; друку́йся, =цеся; друкава́ўся, друкава́лася, друкава́ліся; друку́ючыся

**друкава́ць** *незак., што і без дап.* друку́ю, друку́еш, друку́е, друку́ем, друку́еце, друку́юць; друку́й, =це; друкава́ў, друкава́ла, друкава́лі; друкава́ны; друку́ючы

**дрыгану́цца** *зак.* дрыгану́ся, дрыгане́шся, дрыгане́цца, дрыганёмся, дрыганяце́ся, дрыгану́цца; дрыгану́ўся, дрыгану́лася, дрыгану́ліся; дрыгану́ўшыся

**дрыгану́ць** *зак., чым* дрыгану́, дрыгане́ш, дрыгане́, дрыганём, дрыганяце́, дрыгану́ць; дрыгані́, =це; дрыгану́ў, дрыгану́ла, дрыгану́лі; дрыгану́ўшы

**дрыгаце́ць** *незак.* дрыгаці́ць, дрыгаця́ць; дрыгаце́ў, дрыгаце́ла, дрыгаце́лі

**дры́гаць** *незак., чым* дры́гаю, дры́гаеш, дры́гае, дры́гаем, дры́гаеце, дры́гаюць; дры́гай, =це; дры́гаў, дры́гала, дры́галі; дры́гаючы

**дры́гнуць** *зак., чым і без дап.* дры́гну, дры́гнеш, дры́гне, дры́гнем, дры́гнеце, дры́гнуць; дры́гні, =це; дры́гнуў, дры́гнула, дры́гнулі; дры́гнуўшы

**дрыжа́ць** *незак.* дрыжу́, дрыжы́ш, дрыжы́ць, дрыжы́м, дрыжыце́, дрыжа́ць; дрыжы́, =це; дрыжа́ў, дрыжа́ла, дрыжа́лі; дрыжучы́

**дрыжэ́ць** *незак.* дрыжу́, дрыжы́ш, дрыжы́ць, дрыжы́м, дрыжыце́, дрыжа́ць; дрыжы́, =це; дрыжэ́ў, дрыжэ́ла, дрыжэ́лі; дрыжучы́

**дрылява́ць** *незак., што* дрылю́ю, дрылю́еш, дрылю́е, дрылю́ем, дрылю́еце, дрылю́юць; дрылю́й, =це; дрылява́ў, дрылява́ла, дрылява́лі; дрылю́ючы

**дры́нкаць** *незак., на чым* дры́нкаю, дры́нкаеш, дры́нкае, дры́нкаем, дры́нкаеце, дры́нкаюць; дры́нкай, =це; дры́нкаў, дры́нкала, дры́нкалі; дры́нкаючы

**дрынча́ць** *незак., на чым* дрынчу́, дрынчы́ш, дрынчы́ць, дрынчы́м, дрынчыце́, дрынча́ць; дрынчы́, =це; дрынча́ў, дрынча́ла, дрынча́лі; дрынчучы́

**дрынчэ́ць** *незак., на чым* дрынчу́, дрынчы́ш, дрынчы́ць, дрынчы́м, дрынчыце́, дрынча́ць; дрынчы́, =це; дрынчэ́ў, дрынчэ́ла, дрынчэ́лі; дрынчучы́

**дры́пацць** *незак.* дры́паю, дры́паеш, дры́пае, дры́паем, дры́паеце, дры́паюць; дры́пай, =це; дры́паў, дры́пала, дры́палі; дры́паючы

**дры́хнуць** *незак.* дры́хну, дры́хнеш, дры́хне, дры́хнем, дры́хнеце, дры́хнуць; дры́хні, =це; дры́хнуў, дры́хнула, дры́хнулі; дры́хнучы

**дрэйфава́ць** *незак.* дрэйфу́ю, дрэйфу́еш, дрэйфу́е, дрэйфу́ем, дрэйфу́еце, дрэйфу́юць; дрэйфава́ў, дрэйфава́ла, дрэйфава́лі; дрэйфу́ючы

**дрэ́йфіць** *незак.* дрэ́йфлю, дрэ́йфіш, дрэ́йфіць, дрэ́йфім, дрэ́йфіце, дрэ́йфяць; дрэ́йфі, =це; дрэ́йфіў, дрэ́йфіла, дрэ́йфілі; дрэ́йфячы

**дрэнажава́цца** *незак.* дрэнажу́ецца, дрэнажу́юцца; дрэнажава́ўся, дрэнажава́лася, дрэнажава́ліся

**дрэнажава́ць** *зак. і незак., што* дрэнажу́ю, дрэнажу́еш, дрэнажу́е, дрэнажу́ем, дрэнажу́еце, дрэнажу́юць; дрэнажу́й, =це; дрэнажава́ў, дрэнажава́ла, дрэнажава́лі; дрэнажава́ўшы, дрэнажу́ючы

**дрэні́равацца** *незак.* дрэні́руецца, дрэні́руюцца; дрэні́раваўся, дрэні́равалася, дрэні́раваліся

**дрэні́раваць** *зак. і незак., што* дрэні́рую, дрэні́руеш, дрэні́руе, дрэні́руем, дрэні́руеце, дрэні́руюць; дрэні́руй, =це; дрэні́раваў, дрэні́равала, дрэні́равалі; дрэні́раваўшы, дрэні́руючы

**дрэсірава́цца** *незак.* дрэсіру́ецца, дрэсіру́юцца; дрэсірава́ўся, дрэсірава́лася, дрэсірава́ліся

**дрэсірава́ць** *незак., каго-што* дрэсіру́ю, дрэсіру́еш, дрэсіру́е, дрэсіру́ем, дрэсіру́еце, дрэсіру́юць; дрэсіру́й, =це; дрэсірава́ў, дрэсірава́ла, дрэсірава́лі; дрэсірава́ны; дрэсіру́ючы

**дуба́сіць** *незак., каго, на чым, у што* дуба́шу, дуба́сіш, дуба́сіць, дуба́сім, дуба́сіце, дуба́сяць; дуба́сь, =це; дуба́сіў, дуба́сіла, дуба́сілі; дуба́сячы

**дубе́ць** *незак.* дубе́ю, дубе́еш, дубе́е, дубе́ем, дубе́еце, дубе́юць; дубе́ў, дубе́ла, дубе́лі; дубе́ючы

**дубі́цца** *незак.* ду́біцца, ду́бяцца; дубі́ўся, дубі́лася, дубі́ліся

**дубі́ць** *незак., што* дублю́, ду́біш, ду́біць, ду́бім, ду́біце, ду́бяць; дубі́, =це; дубі́ў, дубі́ла, дубі́лі; ду́блены; ду́бячы

**дублі́равацца** *незак.* дублі́руецца, дублі́руюцца; дублі́раваўся, дублі́равалася, дублі́раваліся

**дублі́раваць** *незак., каго-што* дублі́рую, дублі́руеш, дублі́руе, дублі́руем, дублі́руеце, дублі́руюць; дублі́руй, =це; дублі́раваў, дублі́равала, дублі́равалі; дублі́раваны; дублі́руючы

**дубяне́ць** *незак.* дубяне́ю, дубяне́еш, дубяне́е, дубяне́ем, дубяне́еце, дубяне́юць; дубяне́й, =це; дубяне́ў, дубяне́ла, дубяне́лі; дубяне́ючы

**дудзе́ць** *незак., што і без дап.* дуджу́, дудзі́ш, дудзі́ць, дудзі́м, дудзіце́, дудзя́ць; дудзі́, =це; дудзе́ў, дудзе́ла, дудзе́лі

**дуду́кацца** *незак.* дуду́каюся, дуду́каешся, дуду́каецца, дуду́каемся, дуду́каецеся, дуду́каюцца; дуду́каўся, дуду́калася, дуду́каліся; дуду́каючыся

**дуду́каць** *незак.* дуду́каю, дуду́каеш, дуду́кае, дуду́каем, дуду́каеце, дуду́каюць; дуду́кай, =це; дуду́каў, дуду́кала, дуду́калі; дуду́каючы

**ду́жацца** *незак., з кім* ду́жаюся, ду́жаешся, ду́жаецца, ду́жаемся, ду́жаецеся, ду́жаюцца; ду́жайся, =цеся; ду́жаўся, ду́жалася, ду́жаліся; ду́жаючыся

**ду́жаць** *незак., каго-што* ду́жаю, ду́жаеш, ду́жае, ду́жаем, ду́жаеце, ду́жаюць; ду́жай, =це; ду́жаў, ду́жала, ду́жалі; ду́жаючы

**дужэ́ць** *незак.* дужэ́ю, дужэ́еш, дужэ́е, дужэ́ем, дужэ́еце, дужэ́юць; дужэ́й, =це; дужэ́ў, дужэ́ла, дужэ́лі; дужэ́ючы

**ду́мацца** *незак.* ду́маецца; ду́малася

**ду́маць** *незак., пра каго-што, аб кім-чым і без дап.* ду́маю, ду́маеш, ду́мае, ду́маем, ду́маеце, ду́маюць; ду́май, =це; ду́маў, ду́мала, ду́малі; ду́маючы; ду́маючы

**ду́нуць** *зак.* ду́ну, ду́неш, ду́не, ду́нем, ду́неце, ду́нуць; дунь, =це; ду́нуў, ду́нула, ду́нулі; ду́нуўшы

**дурма́ніцца** *незак.* дурма́ніцца, дурма́няцца; дурма́ніўся, дурма́нілася, дурма́ніліся

**дурма́ніць** *незак., каго-што* дурма́ню, дурма́ніш, дурма́ніць, дурма́нім, дурма́ніце, дурма́няць; дурма́нь, =це; дурма́ніў, дурма́ніла, дурма́нілі; дурма́нячы; дурма́нячы

**дурне́ць** *незак.* дурне́ю, дурне́еш, дурне́е, дурне́ем, дурне́еце, дурне́юць; дурне́ў, дурне́ла, дурне́лі; дурне́ючы

**дуры́цца** *незак.* дуру́ся, ду́рышся, ду́рыцца, ду́рымся, ду́рыцеся, ду́рацца; дуры́ся, =цеся; дуры́ўся, дуры́лася, дуры́ліся; ду́рачыся

**дуры́ць** *незак., што* дуру́, ду́рыш, ду́рыць, ду́рым, ду́рыце, ду́раць; дуры́, =це; дуры́ў, дуры́ла, дуры́лі; ду́рачы

**дурэ́ць** *незак.* дурэ́ю, дурэ́еш, дурэ́е, дурэ́ем, дурэ́еце, дурэ́юць; дурэ́й, =це; дурэ́ў, дурэ́ла, дурэ́лі; дурэ́ючы

**духмя́ніцца** *незак.* духмя́ніцца, духмя́няцца; духмя́ніўся, духмя́нілася, духмя́ніліся

**духмя́ніць** *незак., што* духмя́ню, духмя́ніш, духмя́ніць, духмя́нім, дяхмя́ніце, духмя́няць; духмя́ніў, духмя́ніла, духмя́нілі; духмя́нячы

**ду́цца** *незак., на каго-што* ду́юся, ду́ешся, ду́ецца, ду́емся, ду́ецеся, ду́юцца; ду́йся, =цеся; ду́ўся, ду́лася, ду́ліся; ду́ючыся

**дуць** *незак.* ду́ю, ду́еш, ду́е, ду́ем, ду́еце, ду́юць; дуй, =це; дуў, ду́ла, ду́лі; ду́ючы

**душы́цца** *незак., чым і ад чаго* душу́ся, ду́шышся, ду́шыцца, ду́шымся, ду́шыцеся, ду́шацца; душы́ся, =цеся; душы́ўся, душы́лася, душы́ліся; ду́шачыся

**душы́ць** *незак., каго-што* душу́, ду́шыш, ду́шыць, ду́шым, ду́шыце, ду́шаць; душы́, =це; душы́ў, душы́ла, душы́лі; ду́шаны; ду́шачы

**ды́баць** *незак.* ды́баю, ды́баеш, ды́бае, ды́баем, ды́баеце, ды́баюць; ды́бай, =це; ды́баў, ды́бала, ды́балі; ды́баючы

**ды́біцца** *незак.* ды́біцца, ды́бяцца; ды́біўся, ды́білася, ды́біліся

**ды́біць** *незак., каго-што* ды́блю, ды́біш, ды́біць, ды́бім, ды́біце, ды́бяць; ды́біў, ды́біла, ды́білі; ды́бячы

**дыверсіфікава́ць** *зак. і незак.* дыверсіфіку́ю, дыверсіфіку́еш, дыверсіфіку́е, дыверсіфіку́ем, дыверсіфіку́еце, дыверсіфіку́юць; дыверсіфікава́ў, дыверсіфікава́ла, дыверсіфікава́лі; дыверсіфікава́ўшы, дыверсіфіку́ючы

**дыктава́цца** *незак.* дыкту́ецца, дыкту́юцца; дыктава́ўся, дыктава́лася, дыктава́ліся

**дыктава́ць** *незак., што* дыкту́ю, дыкту́еш, дыкту́е, дыкту́ем, дыкту́еце, дыкту́юць; дыкту́й, =це; дыктава́ў, дыктава́ла, дыктава́лі; дыктава́ны; дыкту́ючы

**ды́ктарстваваць** *незак.* ды́ктарствую, ды́ктарствуеш, ды́ктарствуе, ды́ктарствуем, ды́ктарствуеце, ды́ктарствуюць; ды́ктарстваваў, ды́ктарствавала, ды́ктарствавалі; ды́ктарствуючы

**дыкта́тарстваваць** *незак.* дыкта́тарствую, дыкта́тарствуеш, дыкта́тарствуе, дыкта́тарствуем, дыкта́тарствуеце, дыкта́тарствуюць; дыкта́тарстваваў, дыкта́тарствавала, дыкта́тарствавалі; дыкта́тарствуючы

**дыме́цца** *незак.* дымі́цца, дымя́цца; дыме́ўся, дыме́лася, дыме́ліся

**дыме́ць** *незак.* дымі́ць, дымя́ць; дыме́ў, дыме́ла, дыме́лі

**дымі́цца** *незак.* дымі́цца, дымя́цца; дымі́ўся, дымі́лася, дымі́ліся

**дымі́ць** *незак., чым і без дап.* дымлю́, дымі́ш, дымі́ць, дымі́м, дыміце́, дымя́ць; дымі́, =це; дымі́ў, дымі́ла, дымі́лі

**дыпламава́цца** *незак.* дыпламу́юся, дыпламу́ешся, дыпламу́ецца, дыпламу́емся, дыпламу́ецеся, дыпламу́юцца; дыпламава́ўся, дыпламава́лася, дыпламава́ліся; дыпламу́ючыся

**дыпламава́ць** *зак. і незак., каго* дыпламу́ю, дыпламу́еш, дыпламу́е, дыпламу́ем, дыпламу́еце, дыпламу́юць; дыпламу́й, =це; дыпламава́ў, дыпламава́ла, дыпламава́лі; дыпламава́ўшы, дыпламу́ючы

**дыплама́тнічаць** *незак.* дыплама́тнічаю, дыплама́тнічаеш, дыплама́тнічае, дыплама́тнічаем, дыплама́тнічаеце, дыплама́тнічаюць; дыплама́тнічаў, дыплама́тнічала, дыплама́тнічалі; дыплама́тнічаючы

**дырыжы́раваць** *незак., чым і без дап.* дырыжы́рую, дырыжы́руеш, дырыжы́руе, дырыжы́руем, дырыжы́руеце, дырыжы́руюць; дырыжы́руй, =це; дырыжы́раваў, дырыжы́равала, дырыжы́равалі; дырыжы́руючы

**дырэ́ктарстваваць** *незак.* дырэ́ктарствую, дырэ́ктарствуеш, дырэ́ктарствуе, дырэ́ктарствуем, дырэ́ктарствуеце, дырэ́ктарствуюць; дырэ́ктарстваваў, дырэ́ктарствавала, дырэ́ктарствавалі; дырэ́ктарствуючы

**дысанава́ць** *незак.* дысану́ю, дысану́еш, дысану́е, дысану́ем, дысану́еце, дысану́юць; дысану́й, =це; дысанава́ў, дысанава́ла, дысанава́лі; дысану́ючы; дысану́ючы

**дысгармані́раваць** *незак.* дысгармані́руе, дысгармані́руюць; дысгармані́раваў, дысгармані́равала, дысгармані́равалі

**дысімілява́цца** *незак.* дысімілю́ецца, дысімілю́юцца; дысімілява́ўся, дысімілява́лася, дысімілява́ліся

**дыскава́цца** *незак.* дыску́ецца, дыску́юцца; дыскава́ўся, дыскава́лася, дыскава́ліся

**дыскава́ць** *незак., што* дыску́ю, дыску́еш, дыску́е, дыску́ем, дыску́еце, дыску́юць; дыску́й, =це; дыскава́ў, дыскава́ла, дыскава́лі; дыску́ючы

**дыскантава́цца** *незак.* дысканту́ецца, дысканту́юцца; дыскантава́ўся, дыскантава́лася, дыскантава́ліся

**дыскантава́ць** *незак., што* дысканту́ю, дысканту́еш, дысканту́е, дысканту́ем, дысканту́еце, дысканту́юць; дысканту́й, =це; дыскантава́ў, дыскантава́ла, дыскантава́лі; дыскантава́ны; дыскантава́ўшы, дысканту́ючы

**дыскваліфікава́цца** *зак. і незак.* дыскваліфіку́юся, дыскваліфіку́ешся, дыскваліфіку́ецца, дыскваліфіку́емся, дыскваліфіку́ецеся, дыскваліфіку́юцца; дыскваліфікава́ўся, дыскваліфікава́лася, дыскваліфікава́ліся; дыскваліфікава́ўшыся, дыскваліфіку́ючыся

**дыскваліфікава́ць** *зак. і незак., каго-што* дыскваліфіку́ю, дыскваліфіку́еш, дыскваліфіку́е, дыскваліфіку́ем, дыскваліфіку́еце, дыскваліфіку́юць; дыскваліфіку́й, =це; дыскваліфікава́ў, дыскваліфікава́ла, дыскваліфікава́лі; дыскваліфікава́ны; дыскваліфікава́ўшы, дыскваліфіку́ючы

**дыскрымінава́цца** *незак.* дыскрыміну́ецца, дыскрыміну́юцца; дыскрымінава́ўся, дыскрымінава́лася, дыскрымінава́ліся

**дыскрымінава́ць** *зак. і незак., каго-што* дыскрыміну́ю, дыскрыміну́еш, дыскрыміну́е, дыскрыміну́ем, дыскрыміну́еце, дыскрыміну́юць; дыскрыміну́й, =це; дыскрымінава́ў, дыскрымінава́ла, дыскрымінава́лі; дыскрымінава́ўшы, дыскрыміну́ючы

**дыскрэдытава́цца** *незак.* дыскрэдыту́ецца, дыскрэдыту́юцца; дыскрэдытава́ўся, дыскрэдытава́лася, дыскрэдытава́ліся

**дыскрэдытава́ць** *зак. і незак., каго-што* дыскрэдыту́ю, дыскрэдыту́еш, дыскрэдыту́е, дыскрэдыту́ем, дыскрэдыту́еце, дыскрэдыту́юць; дыскрэдыту́й, =це; дыскрэдытава́ў, дыскрэдытава́ла, дыскрэдытава́лі; дыскрэдытава́ны; дыскрэдытава́ўшы, дыскрэдыту́ючы

**дыскутава́цца** *незак.* дыскуту́ецца, дыскуту́юцца; дыскутава́ўся, дыскутава́лася, дыскутава́ліся

**дыскутава́ць** *незак., што, аб чым* дыскуту́ю, дыскуту́еш, дыскуту́е, дыскуту́ем, дыскуту́еце, дыскуту́юць; дыскуту́й, =це; дыскутава́ў, дыскутава́ла, дыскутава́лі; дыскуту́ючы

**дыслацы́равацца** *зак. і незак.* дыслацы́руюся, дыслацы́руешся, дыслацы́руецца, дыслацы́руемся, дыслацы́руецеся, дыслацы́руюцца; дыслацы́руйся, =цеся; дыслацы́раваўся, дыслацы́равалася, дыслацы́раваліся; дыслацы́раваўшыся, дыслацы́руючыся

**дыслацы́раваць** *зак. і незак., каго-што* дыслацы́рую, дыслацы́руеш, дыслацы́руе, дыслацы́руем, дыслацы́руеце, дыслацы́руюць; дыслацы́руй, =це; дыслацы́раваў, дыслацы́равала, дыслацы́равалі; дыслацы́раваны; дыслацы́раваўшы, дыслацы́руючы

**дыспансерызава́цца** *зак. і незак.* дыспансерызу́юся, дыспансерызу́ешся, дыспансерызу́ецца, дыспансерызу́емся, дыспансерызу́ецеся, дыспансерызу́юцца; дыспансерызава́ўся, дыспансерызава́лася, дыспансерызава́ліся; дыспансерызава́ўшыся, дыспансерызу́ючыся

**дыспансерызава́ць** *зак. і незак.* дыспансерызу́ю, дыспансерызу́еш, дыспансерызу́е, дыспансерызу́ем, дыспансерызу́еце, дыспансерызу́юць; дыспансерызу́й, =це; дыспансерызава́ў, дыспансерызава́ла, дыспансерызава́лі; дыспансерызава́ўшы, дыспансерызу́ючы

**дыспутава́ць** *незак.* дыспуту́ю, дыспуту́еш, дыспуту́е, дыспуту́ем, дыспуту́еце, дыспуту́юць; дыспуту́й, =це; дыспутава́ў, дыспутава́ла, дыспутава́лі; дыспуту́ючы

**дыстыля́вацца** *незак.* дыстылю́ецца, дыстылю́юцца; дыстыля́ваўся, дыстыля́валася, дыстыля́валіся

**дыстыля́ваць** *зак. і незак., што* дыстылю́ю, дыстылю́еш, дыстылю́е, дыстылю́ем, дыстылю́еце, дыстылю́юць; дыстылю́й, =це; дыстыля́ваў, дыстыля́вала, дыстыля́валі; дыстыля́ваўшы, дыстылю́ючы

**дысцыплінава́цца** *зак. і незак.* дысцыпліну́юся, дысцыпліну́ешся, дысцыпліну́ецца, дысцыпліну́емся, дысцыпліну́ецеся, дысцыпліну́юцца; дысцыпліну́йся, =цеся; дысцыплінава́ўся, дысцыплінава́лася, дысцыплінава́ліся; дысцыплінава́ўшыся, дысцыпліну́ючыся

**дысцыплінава́ць** *зак. і незак., каго-што* дысцыпліну́ю, дысцыпліну́еш, дысцыпліну́е, дысцыпліну́ем, дысцыпліну́еце, дысцыпліну́юць; дысцыпліну́й, =це; дысцыплінава́ў, дысцыплінава́ла, дысцыплінава́лі; дысцыплінава́ўшы, дысцыпліну́ючы

**дыферэнцы́равацца** *зак. і незак.* дыферэнцы́руецца, дыферэнцы́руюцца; дыферэнцы́раваўся, дыферэнцы́равалася, дыферэнцы́раваліся

**дыферэнцы́раваць** *зак. і незак., што* дыферэнцы́рую, дыферэнцы́руеш, дыферэнцы́руе, дыферэнцы́руем, дыферэнцы́руеце, дыферэнцы́руюць; дыферэнцы́руй, =це; дыферэнцы́раваў, дыферэнцы́равала, дыферэнцы́равалі; дыферэнцы́раваны; дыферэнцы́раваўшы, дыферэнцы́руючы

**дыфундзі́раваць** *зак. і незак.* дыфундзі́рую, дыфундзі́руеш, дыфундзі́руе, дыфундзі́руем, дыфундзі́руеце, дыфундзі́руюць; дыфундзі́руй, =це; дыфундзі́раваў, дыфундзі́равала, дыфундзі́равалі; дыфундзі́раваўшы, дыфундзі́руючы

**ды́хацца** *незак., чым і без дап.* ды́хаецца; ды́халася

**ды́хаць** *незак., чым і без дап.* ды́хаю, ды́хаеш, ды́хае, ды́хаем, ды́хаеце, ды́хаюць; ды́хай, =це; ды́хаў, ды́хала, ды́халі; ды́хаючы

**дыхну́ць** *зак., чым і без дап.* дыхну́, дыхне́ш, дыхне́, дыхнём, дыхняце́, дыхну́ць; дыхні́, =це; дыхну́ў, дыхну́ла, дыхну́лі; дыхну́ўшы

**дыхце́ць** *незак.* дыхці́ць, дыхця́ць; дыхце́ў, дыхце́ла, дыхце́лі

**дыягнастава́ць** *зак. і незак., што і без дап.* дыягнасту́ю, дыягнасту́еш, дыягнасту́е, дыягнасту́ем, дыягнасту́еце, дыягнасту́юць; дыягнасту́й, =це; дыягнастава́ў, дыягнастава́ла, дыягнастава́лі; дыягнастава́ўшы, дыягнасту́ючы

**дыя́канстваваць** *незак.* дыя́канствую, дыя́канствуеш, дыя́канствуе, дыя́канствуем, дыя́канствуеце, дыя́канствуюць; дыя́канстваваў, дыя́канствавала, дыя́канствавалі; дыя́канствуючы

**дыяфрагмава́ць** *зак. і незак., што* дыяфрагму́ю, дыяфрагму́еш, дыяфрагму́е, дыяфрагму́ем, дыяфрагму́еце, дыяфрагму́юць; дыяфрагму́й, =це; дыяфрагмава́ў, дыяфрагмава́ла, дыяфрагмава́лі; дыяфрагмава́ны; дыяфрагмава́ўшы, дыяфрагму́ючы

**дэбатава́цца** *незак.* дэбату́ецца, дэбату́юцца; дэбатава́ўся, дэбатава́лася, дэбатава́ліся

**дэбатава́ць** *незак., што і без дап.* дэбату́ю, дэбату́еш, дэбату́е, дэбату́ем, дэбату́еце, дэбату́юць; дэбату́й, =це; дэбатава́ў, дэбатава́ла, дэбатава́лі; дэбату́ючы

**дэбашы́рыць** *незак.* дэбашы́ру, дэбашы́рыш, дэбашы́рыць, дэбашы́рым, дэбашы́рыце, дэбашы́раць; дэбашы́р, =це; дэбашы́рыў, дэбашы́рыла, дэбашы́рылі; дэбашы́рачы

**дэбетава́цца** *незак.* дэбету́ецца, дэбету́юцца; дэбетава́ўся, дэбетава́лася, дэбетава́ліся

**дэбетава́ць** *зак. і незак., што* дэбету́ю, дэбету́еш, дэбету́е, дэбету́ем, дэбету́еце, дэбету́юць; дэбету́й, =це; дэбетава́ў, дэбетава́ла, дэбетава́лі; дэбетава́ны; дэбетава́ўшы, дэбету́ючы

**дэблакі́раваць** *зак. і незак., што* дэблакі́рую, дэблакі́руеш, дэблакі́руе, дэблакі́руем, дэблакі́руеце, дэблакі́руюць; дэблакі́руй, =це; дэблакі-

раваў, дэблакі́равала, дэблакі́равалі; дэблакі́раваны; дэблакі́раваўшы, дэблакі́руючы

**дэбюракратызава́ць** *зак. і незак., што* дэбюракратызу́ю, дэбюракратызу́еш, дэбюракратызу́е, дэбюракратызу́ем, дэбюракратызу́еце, дэбюракратызу́юць; дэбюракратызу́й, =це; дэбюракратызава́ў, дэбюракратызава́ла, дэбюракратызава́лі; дэбюракратызава́ны; дэбюракратызава́ўшы, дэбюракратызу́ючы

**дэбютава́ць** *зак. і незак.* дэбюту́ю, дэбюту́еш, дэбюту́е, дэбюту́ем, дэбюту́еце, дэбюту́юць; дэбюту́й, =це; дэбютава́ў, дэбютава́ла, дэбютава́лі; дэбютава́ўшы, дэбюту́ючы

**дэвальвава́цца** *незак.* дэвальву́ецца, дэвальву́юцца; дэвальвава́ўся, дэвальвава́лася, дэвальвава́ліся

**дэвальвава́ць** *зак. і незак., што* дэвальву́ю, дэвальву́еш, дэвальву́е, дэвальву́ем, дэвальву́еце, дэвальву́юць; дэвальву́й, =це; дэвальвава́ў, дэвальвава́ла, дэвальвава́лі; дэвальвава́ны; дэвальвава́ўшы, дэвальву́ючы

**дэвулканізава́ць** *зак. і незак., што* дэвулканізу́ю, дэвулканізу́еш, дэвулканізу́е, дэвулканізу́ем, дэвулканізу́еце, дэвулканізу́юць; дэвулканізу́й, =це; дэвулканізава́ў, дэвулканізава́ла, дэвулканізава́лі; дэвулканізава́ўшы, дэвулканізу́ючы

**дэгазі́равацца** *незак.* дэгазі́руецца, дэгазі́руюцца; дэгазі́раваўся, дэгазі́равалася, дэгазі́раваліся

**дэгазі́раваць** *зак. і незак., што* дэгазі́рую, дэгазі́руеш, дэгазі́руе, дэгазі́руем, дэгазі́руеце, дэгазі́руюць; дэгазі́раваў, дэгазі́равала, дэгазі́равалі; дэгазі́раваны; дэгазі́раваўшы, дэгазі́руючы

**дэгенеры́раваць** *зак. і незак.* дэгенеры́рую, дэгенеры́руеш, дэгенеры́руе, дэгенеры́руем, дэгенеры́руеце, дэгенеры́руюць; дэгенеры́руй, =це; дэгенеры́раваў, дэгенеры́равала, дэгенеры́равалі; дэгенеры́раваўшы, дэгенеры́руючы

**дэградава́ць** *зак. і незак.* дэграду́ю, дэграду́еш, дэграду́е, дэграду́ем, дэграду́еце, дэграду́юць; дэградава́ў, дэградава́ла, дэградава́лі; дэградава́ны; дэградава́ўшы, дэграду́ючы

**дэгустава́цца** *незак.* дэгусту́ецца, дэгусту́юцца; дэгустава́ўся, дэгустава́лася, дэгустава́ліся

**дэгустава́ць** *зак. і незак., што* дэгусту́ю, дэгусту́еш, дэгусту́е, дэгусту́ем, дэгусту́еце, дэгусту́юць; дэгусту́й, =це; дэгустава́ў, дэгустава́ла, дэгустава́лі; дэгустава́ны; дэгустава́ўшы, дэгусту́ючы

**дэдуцы́равацца** *незак.* дэдуцы́руецца, дэдуцы́руюцца; дэдуцы́раваўся, дэдуцы́равалася, дэдуцы́раваліся

**дэдуцы́раваць** *зак. і незак.* дэдуцы́рую, дэдуцы́руеш, дэдуцы́руе, дэдуцы́руем, дэдуцы́руеце, дэдуцы́рыюць; дэдуцы́руй, =це; дэдуцы́раваў, дэдуцы́равала, дэдуцы́равалі; дэдуцы́раваўшы, дэдуцы́руючы

**дэзавуі́равацца** *незак.* дэзавуі́руецца, дэзавуі́руюцца; дэзавуі́раваўся, дэзавуі́равалася, дэзавуі́раваліся

**дэзавуі́раваць** *зак. і незак., што* дэзавуі́рую, дэзавуі́руеш, дэзавуі́руе, дэзавуі́руем, дэзавуі́руеце, дэзавуі́руюць; дэзавуі́руй, =це; дэзавуі́раваў, дэзавуі́равала, дэзавуі́равалі; дэзавуі́раваны; дэзавуі́раваўшы, дэзавуі́руючы

**дэзадарава́цца** *незак.* дэзадару́ецца, дэзадару́юцца; дэзадарава́ўся, дэзадарава́лася, дэзадарава́ліся

**дэзадарава́ць** *зак. і незак., што* дэзадару́ю, дэзадару́еш, дэзадару́е, дэзадару́ем, дэзадару́еце, дэзадару́юць; дэзадару́й, =це; дэзадарава́ў, дэзадарава́ла, дэзадарава́лі; дэзадарава́ны; дэзадарава́ўшы, дэзадару́ючы

**дэзактывава́цца** *незак.* дэзактыву́ецца, дэзактыву́юцца; дэзактывава́ўся, дэзактывава́лася, дэзактывава́ліся

**дэзактывава́ць** *зак. і незак., што* дэзактыву́ю, дэзактыву́еш, дэзактыву́е, дэзактыву́ем, дэзактыву́еце, дэзактыву́юць; дэзактыву́й, =це; дэзактывава́ў, дэзактывава́ла, дэзактывава́лі; дэзактывава́ны; дэзактывава́ўшы, дэзактыву́ючы

**дэзарганізава́цца** *зак.* дэзарганізу́ецца, дэзарганізу́юцца; дэзарганізава́ўся, дэзарганізава́лася, дэзарганізава́ліся

**дэзарганізава́ць** *зак., каго-што* дэзарганізу́ю, дэзарганізу́еш, дэзарганізу́е, дэзарганізу́ем, дэзарганізу́еце, дэзарганізу́юць; дэзарганізу́й, =це; дэзарганізава́ў, дэзарганізава́ла, дэзарганізава́лі; дэзарганізава́ны; дэзарганізава́ўшы

**дэзарганізо́ўвацца** *незак.* дэзарганізо́ўваецца, дэзарганізо́ўваюцца; дэзарганізо́ўваўся, дэзарганізо́ўвалася, дэзарганізо́ўваліся

**дэзарганізо́ўваць** *незак., каго-што* дэзарганізо́ўваю, дэзарганізо́ўваеш, дэзарганізо́ўвае, дэзарганізо́ўваем, дэзарганізо́ўваеце, дэзарганізо́ўваюць; дэзарганізо́ўвай, =це; дэзарганізо́ўваў, дэзарганізо́ўвала, дэзарганізо́ўвалі; дэзарганізо́ўваючы

**дэзарыентава́цца** *зак. і незак.* дэзарыенту́юся, дэзарыенту́ешся, дэзарыенту́ецца, дэзарыенту́емся, дэзарыенту́ецеся, дэзарыенту́юцца; дэзарыентава́ўся, дэзарыентава́лася, дэзарыентава́ліся; дэзарыентава́ўшыся, дэзарыенту́ючыся

**дэзарыентава́ць** *зак. і незак., каго-што* дэзарыенту́ю, дэзарыенту́еш, дэзарыенту́е, дэзарыенту́ем, дэзарыенту́еце, дэзарыенту́юць; дэзарыенту́й, =це; дэзарыентава́ў, дэзарыентава́ла, дэзарыентава́лі; дэзарыентава́ны; дэзарыентава́ўшы, дэзарыенту́ючы

**дэзерці́раваць** *зак. і незак.* дэзерці́рую, дэзерці́руеш, дэзерці́руе, дэзерці́руем, дэзерці́руеце, дэзерці́руюць; дэзерці́руй, =це; дэзерці́раваў, дэзерці́равала, дэзерці́равалі; дэзерці́раваўшы, дэзерці́руючы

**дэзынфармава́цца** *незак.* дэзынфарму́ецца, дэзынфарму́юцца; дэзынфармава́ўся, дэзынфармава́лася, дэзынфармава́ліся

**дэзынфармава́ць** *зак. і незак., каго-што* дэзынфарму́ю, дэзынфарму́еш, дэзынфарму́е, дэзынфарму́ем, дэзынфарму́еце, дэзынфарму́юць; дэзынфарму́й, =це; дэзынфармава́ў, дэзынфармава́ла, дэзынфармава́лі; дэзынфармава́ўшы, дэзынфарму́ючы

**дэзынфіцы́равацца** *зак. і незак.* дэзынфіцы́руецца, дэзынфіцы́руюцца; дэзынфіцы́раваўся, дэзынфіцы́равалася, дэзынфіцы́раваліся

**дэзынфіцы́раваць** *зак. і незак., што* дэзынфіцы́рую, дэзынфіцы́руеш, дэзынфіцы́руе, дэзынфіцы́руем, дэзынфіцы́руеце, дэзынфіцы́руюць; дэзынфіцы́руй, =це; дэзынфіцы́раваў, дэзынфіцы́равала, дэзынфіцы́равалі; дэзынфіцы́раваны; дэзынфіцы́раваўшы, дэзынфіцы́руючы

**дэінсталі́раваць** *зак. і незак., што* дэінсталі́рую, дэінсталі́руеш, дэінсталі́руе, дэінсталі́руем, дэінсталі́руеце, дэінсталі́руюць; дэінсталі́руй, =це; дэінсталі́раваў, дэінсталі́равала, дэінсталі́равалі; дэінсталі́раваўшы

**дэкадзі́равацца** *незак.* дэкадзі́руецца, дэкадзі́руюцца; дэкадзі́раваўся, дэкадзі́равалася, дэкадзі́раваліся

**дэкадзі́раваць** *зак. і незак., што* дэкадзі́рую, дэкадзі́руеш, дэкадзі́руе, дэкадзі́руем, дэкадзі́руеце, дэкадзі́руюць; дэкадзі́руй, =це; дэкадзі́раваў, дэкадзі́равала, дэкадзі́равалі; дэкадзі́раваны; дэкадзі́раваўшы, дэкадзі́руючы

**дэкалькава́цца** *незак.* дэкальку́ецца, дэкальку́юцца; дэкалькава́ўся, дэкалькава́лася, дэкалькава́ліся

**дэкалькава́ць** *зак. і незак., што* дэкальку́ю, дэкальку́еш, дэкальку́е, дэкальку́ем, дэкальку́еце, дэкальку́юць; дэкальку́й, =це; дэкалькава́ў, дэкалькава́ла, дэкалькава́лі; дэкалькава́ны; дэкалькава́ўшы, дэкальку́ючы

**дэкальтава́цца** *зак. і незак.* дэкальту́юся, дэкальту́ешся, дэкальту́ецца, дэкальту́емся, дэкальту́ецеся, дэкальту́юцца; дэкальту́йся, =цеся; дэкальтава́ўся, дэкальтава́лася, дэкальтава́ліся; дэкальтава́ўшыся, дэкальту́ючыся

**дэкальтава́ць** *зак. і незак., што* дэкальту́ю, дэкальту́еш, дэкальту́е, дэкальту́ем, дэкальту́еце, дэкальту́юць; дэкальту́й, =це; дэкальтава́ў, дэкальтава́ла, дэкальтава́лі; дэкальтава́ны; дэкальтава́ўшы, дэкальту́ючы

**дэкары́равацца** *незак.* дэкары́руецца, дэкары́руюцца; дэкары́раваўся, дэкары́равалася, дэкары́раваліся

**дыкары́раваць** *зак. і незак., што* дэкары́рую, дэкары́руеш, дэкары́руе, дэкары́руем, дэкары́руеце, дэкары́руюць; дэкары́руй, =це; дэкары́раваў, дэкары́равала, дэкары́равалі; дэкары́раваны; дэкары́раваўшы, дэкары́руючы

**дэкаці́равацца** *незак.* дэкаці́руецца, дэкаці́руюцца; дэкаці́раваўся, дэкаці́равалася, дэкаці́раваліся

**дэкаці́раваць** *зак. і незак., што* дэкаці́рую, дэкаці́руеш, дэкаці́руе, дэкаці́руем, дэкаці́руеце, дэкаці́руюць; дэкаці́руй, =це; дэкаці́раваў, дэкаці́равала, дэкаці́равалі; дэкаці́раваны; дэкаці́раваўшы, дэкаці́руючы

**дэкваліфікава́цца** *зак. і незак.* дэкваліфіку́юся, дэкваліфіку́ешся, дэкваліфіку́ецца, дэкваліфіку́емся, дэкваліфіку́ецеся, дэкваліфіку́юцца; дэкваліфікава́ўся, дэкваліфікава́лася, дэкваліфікава́ліся; дэкваліфікава́ўшыся, дэкваліфіку́ючыся

**дэкваліфікава́ць** *зак. і незак., каго-што* дэкваліфіку́ю, дэкваліфіку́еш, дэкваліфіку́е, дэкваліфіку́ем, дэкваліфіку́еце, дэкваліфіку́юць; дэкваліфіку́й, =це; дэкваліфікава́ў, дэкваліфікава́ла, дэкваліфікава́лі; дэкваліфікава́ны; дэкваліфікава́ўшы, дэкваліфіку́ючы

**дэкламава́цца** *незак.* дэкламу́ецца, дэкламу́юцца; дэкламава́ўся, дэкламава́лася, дэкламава́ліся

**дэкламава́ць** *незак., што і без дап.* дэкламу́ю, дэкламу́еш, дэкламу́е, дэкламу́ем, дэкламу́еце, дэкламу́юць; дэкламу́й, =це; дэкламава́ў, дэкламава́ла, дэкламава́лі; дэкламава́ны; дэкламу́ючы

**дэклара́вацца** *незак.* дэклару́ецца, дэклару́юцца; дэклара́ваўся, дэклара́валася, дэклара́валіся

**дэклара́ваць** *зак. і незак., што* дэклару́ю, дэклару́еш, дэклару́е, дэклару́ем, дэклару́еце, дэклару́юць; дэклару́й, =це; дэклара́ваў, дэклара́вала, дэклара́валі; дэклара́ваны; дэклара́ваўшы, дэклару́ючы

**дэкласава́цца** *зак. і незак.* дэкласу́юся, дэкласу́ешся, дэкласу́ецца, дэкласу́емся, дэкласу́ецеся, дэкласу́юцца; дэкласава́ўся, дэкласава́лася, дэкласава́ліся; дэкласава́ўшыся, дэкласу́ючыся

**дэкласава́ць** *зак. і незак.* дэкласу́ю, дэкласу́еш, дэкласу́е, дэкласу́ем, дэкласу́еце, дэкласу́юць; дэкласава́ў, дэкласава́ла, дэкласава́лі; дэкласава́ўшы, дэкласу́ючы

**дэкрыміналізава́цца** *зак.* дэкрыміналізу́ецца, дэкрыміналізу́юцца; дэкрыміналізава́ўся, дэкрыміналізава́лася, дэкрыміналізава́ліся

**дэкрыміналізава́ць** *зак., каго-што* дэкрыміналізу́ю, дэкрыміналізу́еш, дэкрыміналізу́е, дэкрыміналізу́ем, дэкрыміналізу́еце, дэкрыміналізу́юць; дэкрыміналізу́й, =це; дэкрыміналізава́ў, дэкрыміналізава́ла, дэкрыміналізава́лі; дэкрыміналізава́ны; дэкрыміналізава́ўшы

**дэкрэтава́цца** *незак.* дэкрэту́ецца, дэкрэту́юцца; дэкрэтава́ўся, дэкрэтава́лася, дэкрэтава́ліся

**дэкрэтава́ць** *зак. і незак., што* дэкрэту́ю, дэкрэту́еш, дэкрэту́е, дэкрэту́ем, дэкрэту́еце, дэкрэ-

пстры́каеце, пстры́каюць; пстры́кай, =це; пстры́каў, пстры́кала, пстры́калі; пстры́каючы

**пстры́кнуць** *зак., чым, па чым, каго-што і без дап.* пстры́кну, пстры́кнеш, пстры́кне, пстры́кнем, пстры́кнеце, пстры́кнуць; пстры́кні, =це; пстры́кнуў, пстры́кнула, пстры́кнулі; пстры́кнуўшы

**псуць** *незак., каго-што* псую́, псуе́ш, псуе́, псуём, псуяце́, псую́ць; псуй, =це; псуў, псу́ла, псу́лі; псуючы́

**публікава́цца** *незак.* публіку́юся, публіку́ешся, публіку́ецца, публіку́емся, публіку́ецеся, публіку́юцца; публіку́йся, =цеся; публікава́ўся, публікава́лася, публікава́ліся; публіку́ючыся

**публікава́ць** *незак., што* публіку́ю, публіку́еш, публіку́е, публіку́ем, публіку́еце, публіку́юць; публіку́й, =це; публікава́ў, публікава́ла, публікава́лі; публіку́ючы

**пу́дзіцца** *незак.* пу́джуся, пу́дзішся, пу́дзіцца, пу́дзімся, пу́дзіцеся, пу́дзяцца; пу́дзіўся, пу́дзілася, пу́дзіліся; пу́дзячыся

**пу́дзіць** *незак., каго-што* пу́джу, пу́дзіш, пу́дзіць, пу́дзім, пу́дзіце, пу́дзяць; пудзь, =це; пу́дзіў, пу́дзіла, пу́дзілі; пу́дзячы

**пудлава́ць** *незак.* пудлу́ю, пудлу́еш, пудлу́е, пудлу́ем, пудлу́еце, пудлу́юць; пудлу́й, =це; пудлава́ў, пудлава́ла, пудлава́лі; пудлу́ючы

**пудлінгава́цца** *незак.* пудлінгу́ецца, пудлінгу́юцца; пудлінгава́ўся, пудлінгава́лася, пудлінгава́ліся

**пудлінгава́ць** *зак. і незак., што* пудлінгу́ю, пудлінгу́еш, пудлінгу́е, пудлінгу́ем, пудлінгу́еце, пудлінгу́юць; пудлінгу́й, =це; пудлінгава́ў, пудлінгава́ла, пудлінгава́лі; пудлінгава́ны; пудлінгава́ўшы, пудлінгу́ючы

**пу́дрыцца** *незак.* пу́друся, пу́дрышся, пу́дрыцца, пу́дрымся, пу́дрыцеся, пу́драцца; пу́дрыся, =цеся; пу́дрыўся, пу́дрылася, пу́дрыліся; пу́драчыся

**пу́дрыць** *незак., каго-што* пу́дру, пу́дрыш, пу́дрыць, пу́дрым, пу́дрыце, пу́драць; пу́дры, =це; пу́дрыў, пу́дрыла, пу́дрылі; пу́драны; пу́драчы

**пужану́ць** *зак., каго-што, чым* пужану́, пужане́ш, пужане́, пужанём, пужаняце́, пужану́ць; пужані́, =це; пужану́ў, пужану́ла, пужану́лі; пужану́ўшы

**пужа́цца** *незак.* пужа́юся, пужа́ешся, пужа́ецца, пужа́емся, пужа́ецеся, пужа́юцца; пужа́йся, =цеся; пужа́ўся, пужа́лася, пужа́ліся; пужа́ючыся

**пужа́ць** *незак., каго-што, чым* пужа́ю, пужа́еш, пужа́е, пужа́ем, пужа́еце, пужа́юць; пужа́й, =це; пужа́ў, пужа́ла, пужа́лі; пужа́ючы

**пужну́ць** *зак., каго-што, чым* пужну́, пужне́ш, пужне́, пужнём, пужняце́, пужну́ць; пужні́, =це; пужну́ў, пужну́ла, пужну́лі; пужну́ўшы

**пузы́рыцца** *незак.* пузы́рыцца, пузы́рацца; пузы́рыўся, пузы́рылася, пузы́рыліся

**пу́кацца** *незак.* пу́каецца, пу́каюцца; пу́каўся, пу́калася, пу́каліся

**пульверызава́цца** *незак.* пульверызу́ецца, пульверызу́юцца; пульверызава́ўся, пульверызава́лася, пульверызава́ліся

**пульверызава́ць** *зак. і незак., каго-што* пульверызу́ю, пульверызу́еш, пульверызу́е, пульверызу́ем, пульверызу́еце, пульверызу́юць; пульверызу́й, =це; пульверызава́ў, пульверызава́ла, пульверызава́лі; пульверызава́ны; пульверызава́ўшы, пульверызу́ючы

**пульну́ць** *зак.* пульну́, пульне́ш, пульне́, пульнём, пульняце́, пульну́ць; пульні́, =це; пульну́ў, пульну́ла, пульну́лі; пульну́ўшы

**пульсава́ць** *незак.* пульсу́е, пульсу́юць; пульсава́ў, пульсава́ла, пульсава́лі

**пульхне́ць** *незак.* пульхне́ю, пульхне́еш, пульхне́е, пульхне́ем, пульхне́еце, пульхне́юць; пульхне́ў, пульхне́ла, пульхне́лі; пульхне́ючы

**пуля́ць** *незак.* пуля́ю, пуля́еш, пуля́е, пуля́ем, пуля́еце, пуля́юць; пуля́й, =це; пуля́ў, пуля́ла, пуля́лі; пуля́ючы

**пункці́раваць** *зак. і незак., што* пункці́рую, пункці́руеш, пункці́руе, пункці́руем, пункці́руеце, пункці́руюць; пункці́руй, =це; пункці́раваў, пункці́равала, пункці́равалі; пункці́раваны; пункці́раваўшы, пункці́руючы

**пунсаве́ць** *незак.* пунсаве́ю, пунсаве́еш, пунсаве́е, пунсаве́ем, пунсаве́еце, пунсаве́юць; пунсаве́ў, пунсаве́ла, пунсаве́лі; пунсаве́ючы

**пупы́рыцца** *незак.* пупы́рыцца, пупы́рацца; пупы́рыўся, пупы́рылася, пупы́рыліся

**пуска́цца** *незак., у што, на што, з інф. і без дап.* пуска́юся, пуска́ешся, пуска́ецца, пуска́емся, пуска́ецеся; пуска́юцца; пуска́йся, =цеся; пуска́ўся, пуска́лася, пуска́ліся; пуска́ючыся

**пуска́ць** *незак., каго-што* пуска́ю, пуска́еш, пуска́е, пуска́ем, пуска́еце, пуска́юць; пуска́й, =це; пуска́ў, пуска́ла, пуска́лі; пуска́ючы

**пустава́ць** *незак.* пусту́е, пусту́юць; пустава́ў, пустава́ла, пустава́лі

**пустазво́ніць** *незак.* пустазво́ню, пустазво́ніш, пустазво́ніць, пустазво́нім, пустазво́ніце, пустазво́няць; пустазво́нь, =це; пустазво́ніў, пустазво́ніла, пустазво́нілі; пустазво́нячы

**пустасло́віць** *незак.* пустасло́ўлю, пустасло́віш, пустасло́віць, пустасло́вім, пустасло́віце, пустасло́вяць; пустасло́ў, =це; пустасло́віў, пустасло́віла, пустасло́вілі; пустасло́вячы

**пусто́шыць** *незак., каго-што* пусто́шу, пусто́шыш, пусто́шыць, пусто́шым, пусто́шыце, пусто́шаць; пусто́ш, =це; пусто́шыў, пусто́шыла, пусто́шылі; пусто́шачы

**пусце́ць** *незак.* пусце́е, пусце́юць; пусце́ў, пусце́ла, пусце́лі

**пусці́цца** *зак., у што, на што, з інф. і без дап.* пушчу́ся, пу́сцішся, пу́сціцца, пу́сцімся, пу́сціцеся, пу́сцяцца; пусці́ся, =цеся; пусці́ўся, пусці́лася, пусці́ліся; пусці́ўшыся

**пусці́ць** *зак., каго-што* пушчу́, пу́сціш, пу́сціць, пу́сцім, пу́сціце, пу́сцяць; пусці́, =це; пусці́ў, пусці́ла, пусці́лі; пу́шчаны; пусці́ўшы

**пу́тацца** *незак.* пу́таецца, пу́таюцца; пу́таўся, пу́талася, пу́таліся; пу́таючыся

**пу́таць** *незак., каго-што* пу́таю, пу́таеш, пу́тае, пу́таем, пу́таеце, пу́таюць; пу́тай, =це; пу́таў, пу́тала, пу́талі; пу́таючы

**пу́хнуць** *незак.* пу́хну, пу́хнеш, пу́хне, пу́хнем, пу́хнеце, пухнуць; пух, пу́хла, пу́хлі; пу́хнучы

**пу́чыцца** *незак.* пу́чыцца, пу́чацца; пу́чыўся, пу́чылася, пу́чыліся

**пу́чыць** *незак., што* пу́чу, пу́чыш, пу́чыць, пу́чым, пу́чыце, пу́чаць; пуч, =це; пу́чыў, пу́чыла, пу́чылі; пу́чачы

**пушча́ць** *незак., каго-што* пушча́ю, пушча́еш, пушча́е, пушча́ем, пушча́еце, пушча́юць; пушча́й, =це; пушча́ў, пушча́ла, пушча́лі; пушча́ючы

**пушы́цца** *незак.* пушы́цца, пуша́цца; пушы́ўся, пушы́лася, пушы́ліся

**пу́шыць** *незак., безас., каго-што* пу́шыць; пу́шыла

**пушы́ць** *незак., што* пушу́, пушы́ш, пушы́ць, пушы́м, пушыце́, пуша́ць; пушы́, =це; пушы́ў, пушы́ла, пушы́лі; пу́шачы

**пха́цца** *незак.* пха́юся, пха́ешся, пха́ецца, пха́емся, пха́ецеся, пха́юцца; пха́йся, =цеся; пха́ўся, пха́лася, пха́ліся; пха́ючыся

**пхаць** *незак., каго-што* пха́ю, пха́еш, пха́е, пха́ем, пха́еце, пха́юць; пхай, =це; пхаў, пха́ла, пха́лі; пха́ючы

**пхну́цца** *незак.* пхну́ся, пхне́шся, пхне́цца, пхнёмся, пхняце́ся, пхну́цца; пхні́ся, =цеся; пхну́ўся, пхну́лася, пхну́ліся; пхнучы́ся

**пхну́ць** *зак., каго-што* пхну, пхнеш, пхне, пхнём, пхняце́, пхнуць; пхні, =це; пхнуў, пхну́ла, пхну́лі; пхну́ўшы

**пы́каць** *незак.* пы́каю, пы́каеш, пы́кае, пы́каем, пы́каеце, пы́каюць; пы́кай, =це; пы́каў, пы́кала, пы́калі; пы́каючы

**пыласо́сіць** *незак.* пыласо́шу, пыласо́сіш, пыласо́сіць, пыласо́сім, пыласо́сіце, пыласо́сяць; пыласо́сь, =це; пыласо́сіў, пыласо́сіла, пыласо́сілі; пыласо́сячы

**пылі́цца** *незак.* пылю́ся, пы́лішся, пы́ліцца, пы́лімся, пы́ліцеся, пы́ляцца; пылі́ўся, пылі́лася, пылі́ліся; пы́лячыся

**пылі́ць** *незак.* пылю́, пы́ліш, пы́ліць, пы́лім, пы́ліце, пы́ляць; пылі́, =це; пылі́ў, пылі́ла, пылі́лі; пы́лячы

**пыні́цца** *незак.* пыню́ся, пы́нішся, пы́ніцца, пы́німся, пы́ніцеся, пы́няцца; пыні́ся, =цеся; пыні́ўся, пыні́лася, пыні́ліся; пы́нячыся

**пыні́ць** *незак., што* пыню́, пы́ніш, пы́ніць, пы́нім, пы́ніце, пы́няць; пыні́, =це; пыні́ў, пыні́ла, пыні́лі; пы́нячы

**пырну́ць** *зак., каго-што, чым* пырну́, пырне́ш, пырне́, пырнём, пырняце́, пырну́ць; пырні́, =це; пырну́ў, пырну́ла, пырну́лі; пырну́ўшы

**пы́рскацца** *незак., чым і без дап.* пы́рскаюся, пы́рскаешся, пы́рскаецца, пы́рскаемся, пы́рскаецеся, пы́рскаюцца; пы́рскайся, =цеся; пы́рскаўся, пы́рскалася, пы́рскаліся; пы́рскаючыся

**пы́рскаць** *незак., чым і без дап.* пы́рскаю, пы́рскаеш, пы́рскае, пы́рскаем, пы́рскаеце, пы́рскаюць; пы́рскай, =це; пы́рскаў, пы́рскала, пы́рскалі; пы́рскаючы

**пы́рснуць** *зак., чым і без дап.* пы́рсну, пы́рснеш, пы́рсне, пы́рснем, пы́рснеце, пы́рснуць; пы́рсні, =це; пы́рснуў, пы́рснула, пы́рснулі; пы́рснуўшы

**пы́рхаць** *незак.* пы́рхаю, пы́рхаеш, пы́рхае, пы́рхаем, пы́рхаеце, пы́рхаюць; пы́рхай, =це; пы́рхаў, пы́рхала, пы́рхалі; пы́рхаючы

**пы́рхнуць** *зак.* пы́рхну, пы́рхнеш, пы́рхне, пы́рхнем, пы́рхнеце, пы́рхнуць; пы́рхнуў, пы́рхнула, пы́рхнулі; пы́рхнуўшы

**пыта́цца** *незак., каго-што, чаго, аб кім-чым, пра каго-што, з дадан. сказам* пыта́юся, пыта́ешся, пыта́ецца, пыта́емся, пыта́ецеся, пыта́юцца; пыта́йся, =цеся; пыта́ўся, пыта́лася, пыта́ліся; пыта́ючыся

**пыта́ць** *незак., каго-што, чаго, з дадан. сказам і без дап.* пыта́ю, пыта́еш, пыта́е, пыта́ем, пыта́еце, пыта́юць; пыта́й, =це; пыта́ў, пыта́ла, пыта́лі; пыта́ючы

**пытлява́цца** *незак.* пытлю́ецца, пытлю́юцца; пытлява́ўся, пытлява́лася, пытлява́ліся

**пытлява́ць** *незак., што* пытлю́ю, пытлю́еш, пытлю́е, пытлю́ем, пытлю́еце, пытлю́юць; пытлю́й, =це; пытлява́ў, пытлява́ла, пытлява́лі; пытлява́ны *і* пытлёваны; пытлю́ючы

**пы́хаць** *незак., чым* пы́хаю, пы́хаеш, пы́хае, пы́хаем, пы́хаеце, пы́хаюць; пы́хаў, пы́хала, пы́халі; пы́хаючы

**пы́хкаць** *незак.* пы́хкаю, пы́хкаеш, пы́хкае, пы́хкаем, пы́хкаеце, пы́хкаюць; пы́хкай, =це; пы́хкаў, пы́хкала, пы́хкалі; пы́хкаючы

**пы́хнуць** *зак.* пы́хну, пы́хнеш, пы́хне, пы́хнем, пы́хнеце, пы́хнуць; пы́хнуў, пы́хнула, пы́хнулі; пы́хнуўшы

**пыхце́ць** *незак.* пыхчу́, пыхці́ш, пыхці́ць, пыхці́м, пыхціце́, пыхця́ць; пыхці́, =це; пыхце́ў, пыхце́ла, пыхце́лі; пыхчучы́

**пышне́ць** *незак.* пышне́ю, пышне́еш, пышне́е, пышне́ем, пышне́еце, пышне́юць; пышне́ў, пышне́ла, пышне́лі; пышне́ючы

**пы́шыцца** *незак.* пы́шуся, пы́шышся, пы́шыцца, пы́шымся, пы́шыцеся, пы́шацца; пы́шся, =цеся; пы́шыўся, пы́шылася, пы́шыліся; пы́шачыся

**пэ́цкацца** *незак., у што, чым і без дап.* пэ́цкаюся, пэ́цкаешся, пэ́цкаецца, пэ́цкаемся, пэ́цкаецеся, пэ́цкаюцца; пэ́цкайся, =цеся; пэ́цкаўся, пэ́цкалася, пэ́цкаліся; пэ́цкаючыся

**пэ́цкаць** *незак., каго-што, у што, чым і без дап.* пэ́цкаю, пэ́цкаеш, пэ́цкае, пэ́цкаем, пэ́цкаеце, пэ́цкаюць; пэ́цкай, =це; пэ́цкаў, пэ́цкала, пэ́цкалі; пэ́цкаючы

**пэ́цнуць** *зак., каго-што, чым* пэ́цну, пэ́цнеш, пэ́цне, пэ́цнем, пэ́цнеце, пэ́цнуць; пэ́цні, =це; пэ́цнуў, пэ́цнула, пэ́цнулі; пэ́цнуўшы

**пяка́рнічаць** *незак.* пяка́рнічаю, пяка́рнічаеш, пяка́рнічае, пяка́рнічаем, пяка́рнічаеце, пяка́рнічаюць; пяка́рнічай, =це; пяка́рнічаў, пяка́рнічала, пяка́рнічалі; пяка́рнічаючы

**пяле́гавацца** *незак.*, пяле́гуюся, пяле́гуешся, пяле́гуецца, пяле́гуемся, пяле́гуецеся, пяле́гуюцца; пяле́гаваўся, пяле́гавалася, пяле́гаваліся; пяле́гуючыся

**пяле́гаваць** *незак., каго-што* пяле́гую, пяле́гуеш, пяле́гуе, пяле́гуем, пяле́гуеце, пяле́гуюць; пяле́гуй, =це; пяле́гаваў, пяле́гавала, пяле́гавалі; пяле́гуючы

**пялёскацца** *незак.* пялёскаюся, пялёскаешся, пялёскаецца, пялёскаемся, пялёскаецеся, пялёскаюцца; пялёскайся, =цеся; пялёскаўся, пялёскалася, пялёскаліся; пялёскаючыся

**пялёснуцца** *зак.* пялёснуся, пялёснешся, пялёснецца, пялёснемся, пялёснецеся, пялёснуцца; пялёснуўся, пялёснулася, пялёснуліся; пялёснуўшыся

**пялёснуць** *зак., чым* пялёсну, пялёснеш, пялёсне, пялёснем, пялёснеце, пялёснуць; пялёсні, =це; пялёснуў, пялёснула, пялёснулі; пялёснуўшы

**п'яне́ць** *незак.* п'яне́ю, п'яне́еш, п'яне́е, п'яне́ем, п'яне́еце, п'яне́юць; п'яне́ў, п'яне́ла, п'яне́лі; п'яне́ючы

**п'яні́ць** *незак., каго-што* п'яні́ць, п'яня́ць; п'яні́ў, п'яні́ла, п'яні́лі

**п'я́нстваваць** *незак.* п'я́нствую, п'я́нствуеш, п'я́нствуе, п'я́нствуем, п'я́нствуеце, п'я́нствуюць; п'я́нствуй, =це; п'я́нстваваў, п'я́нствавала, п'я́нствавалі; п'я́нствуючы

**пярха́ць** *незак.* пярха́ю, пярха́еш, пярха́е, пярха́ем, пярха́еце, пярха́юць; пярха́ў, пярха́ла, пярха́лі; пярха́ючы

**пяршы́нстваваць** *незак.* пяршы́нствую, пяршы́нствуеш, пяршы́нствуе, пяршы́нствуем, пяршы́нствуеце, пяршы́нствуюць; пяршы́нствуй, =це; пяршы́нстваваў, пяршы́нствавала, пяршы́нствавалі; пяршы́нствуючы

**пяршы́ць** *незак., безас.* пяршы́ць; пяршы́ла

**пярэ́сцiцца** *незак.* пярэ́сціцца, пярэ́сцяцца; пярэ́сціўся, пярэ́сцілася, пярэ́сціліся

**пярэ́сціць** *незак., што, чым або ад чаго* пярэ́шчу, пярэ́сціш, пярэ́сціць, пярэ́сцім, пярэ́сціце, пярэ́сцяць; пярэ́сці, =це; пярэ́сціў, пярэ́сціла, пярэ́сцілі; пярэ́сцячы

**пярэ́чыць** *незак.* пярэ́чу, пярэ́чыш, пярэ́чыць, пярэ́чым, пярэ́чыце, пярэ́чаць; пярэ́ч, =це; пярэ́чыў, пярэ́чыла, пярэ́чылі; пярэ́чачы

**пясо́чыць** *незак., каго-што* пясо́чу, пясо́чыш, пясо́чыць, пясо́чым, пясо́чыце, пясо́чаць; пясо́ч, =це; пясо́чыў, пясо́чыла, пясо́чылі; пясо́чачы

**пятлі́ць** *незак.* пятлю́, пятлі́ш, пятлі́ць, пятлі́м, петліце́, пятля́ць; пятлі́, =це; пятлі́ў, пятлі́ла, пятлі́лі

**пятрэ́ць** *незак.* пятрэ́ю, пятрэ́еш, пятрэ́е, пятрэ́ем, пятрэ́еце, пятрэ́юць; пятрэ́ў, пятрэ́ла, пятрэ́лі; пятрэ́ючы

**пя́цца** *незак.* пну́ся, пне́шся, пне́цца, пнёмся, пняце́ся, пну́цца; пні́ся, =цеся; пя́ўся, пя́лася, пя́ліся; пнучы́ся

**пяць** *незак., што* пну, пнеш, пне, пнём, пняце́, пнуць; пні, =це; пяў, пя́ла, пя́лі; пнучы́

**пяча́тацца** *незак.* пяча́таецца, пяча́таюцца; пяча́таўся, пяча́талася, пяча́таліся

**пяча́таць** *незак., што* пяча́таю, пяча́таеш, пяча́тае, пяча́таем, пяча́таеце, пяча́таюць; пяча́тай, =це; пяча́таў, пяча́тала, пяча́талі; пяча́таны; пяча́таючы

**пячы́** *незак., каго-што і без дап.* пяку́, пячэ́ш, пячэ́, пячо́м, печаце́, пяку́ць; пячы́, =це; пёк, пякла́, пякло́, пяклі́; пекучы́; пе́чаны

**пячы́ся** *незак.* пяку́ся, пячэ́шся, пячэ́цца, пячо́мся, печаце́ся, пяку́цца; пячы́ся, =цеся; пёкся, пякла́ся, пякло́ся, пяклі́ся; пекучы́ся

**пяя́ць** *незак., што і без дап.* пяю́, пяе́ш, пяе́, пяём, пеяце́, пяю́ць, пей, =це; пяя́ў, пяя́ла, пяя́лі; пеючы́

**Рабава́цца** *незак.* рабу́цца, рабу́юцца; рабава́ся, рабава́лася, рабава́ліся

**рабава́ць** *незак., каго-што і без дап.* рабу́ю, рабу́еш, рабу́е, рабу́ем, рабу́еце, рабу́юць; рабу́й, =це; рабава́ў, рабава́ла, рабава́лі; рабава́ны; рабу́ючы

**рабале́пстваваць** *незак.* рабале́пствую, рабале́пствуеш, рабале́пствуе, рабале́пствуем, рабале́пствуеце, рабале́пствуюць; рабале́пствуй, =це; рабале́пстваваў, рабале́пствавала, рабале́пствавалі; рабале́пствуючы

**рабаце́ць** *незак.* рабаці́ць, рабацяць; рабаце́ў, рабаце́ла, рабаце́лі

**рабаці́ніцца** *незак.* рабаці́ніцца, рабаці́няцца; рабаці́ніўся, рабаці́нілася, рабаці́ніліся

**рабаці́ніць** *незак., што* рабаці́ніць, рабаці́няць; рабаці́ніў, рабаці́ніла, рабаці́нілі

**рабаці́ць** *незак., што* рабаці́ць, рабацяць; рабаці́ў, рабаці́ла, рабаці́лі

**рабе́ць** *незак.,* (*станавіцца рабым*) рабе́ю, рабе́еш, рабе́е, рабе́ем, рабе́еце, рабе́юць; рабе́ў, рабе́ла, рабе́лі; рабе́ючы

**рабі́цца** *незак.* раблю́ся, ро́бішся, ро́біцца, ро́бімся, ро́біцеся, ро́бяцца; рабі́ўся, рабі́лася, рабі́ліся; ро́бячыся

**рабі́ць** *незак., каго-што з каго-чаго, кім-чым і без дап.* раблю́, ро́біш, ро́біць, ро́бім, ро́біце, ро́бяць; рабі́, =це; рабі́ў, рабі́ла, рабі́лі; ро́бячы

**рагата́ць** *незак.* рагачу́, рago̒чаш, раго́ча, раго́чам, раго́чаце, раго́чуць; рагачы́, =це; рагата́ў, рагата́ла, рагата́лі; раго́чучы

**рагатну́ць** *зак.* рагатну́, рагатне́ш, рагатне́, рагатнём, рагатняце́, рагатну́ць; рагатні́, =це; рагатну́ў, рагатну́ла, рагатну́лі; рагатну́ўшы

**ра́даваццa** *незак.* ра́дуюся, ра́дуешся, ра́дуецца, ра́дуемся, ра́дуецеся, ра́дуюцца; ра́дуйся, =цеся; ра́даваўся, ра́давалася, ра́даваліся; ра́дуючыся

**ра́даваць** *незак., каго-што і без дап.* ра́дую, ра́дуеш, ра́дуе, ра́дуем, ра́дуеце, ра́дуюць; ра́дуй, =це; ра́даваў, ра́давала, ра́давалі; ра́дуючы

**раджа́цца** *незак.* раджа́юся, раджа́ешся, раджа́ецца, раджа́емся, раджа́ецеся, раджа́юцца; раджа́йся, =цеся; раджа́ўся, раджа́лася, раджа́ліся; раджа́ючыся

**раджа́ць** *незак., каго-што і без дап.* раджа́ю, раджа́еш, раджа́е, раджа́ем, раджа́еце, раджа́юць; раджа́й, =це; раджа́ў, раджа́ла, раджа́лі; раджа́ючы

**радзе́ць** *незак.* радзе́е, радзе́юць; радзе́ў, радзе́ла, радзе́лі; радзе́ючы

**радзі́раваць** *зак. і незак.* радзі́рую, радзі́руеш, радзі́руе, радзі́руем, радзі́руеце, радзі́руюць; радзі́руй, =це; радзі́раваў, радзі́равала, радзі́равалі; радзі́раваўшы, радзі́руючы

**ра́дзіцца** *незак.* ра́джуся, ра́дзішся, ра́дзіцца, ра́дзімся, ра́дзіцеся, ра́дзяцца; ра́дзься, =цеся; ра́дзіўся, ра́дзілася, ра́дзіліся; ра́дзячыся

**радзі́цца** *незак.,* (*даваць ураджай*) ро́дзіцца, ро́дзяцца; радзі́ўся, радзі́лася, радзі́ліся; *зак.,* (*нарадзіцца*) раджу́ся, ро́дзішся, ро́дзіцца, ро́дзімся, ро́дзіцеся, ро́дзяцца; радзі́ся, =цеся; радзі́ўся, радзі́лася, радзі́ліся; радзі́ўшыся

**ра́дзіць** *незак., каго-што, з інф. і без дап.* ра́джу, ра́дзіш, ра́дзіць, ра́дзім, ра́дзіце, ра́дзяць; радзь, =це; ра́дзіў, ра́дзіла, ра́дзілі; ра́дзячы

**радзі́ць** *незак.,* (*даваць ураджай*) ро́дзіць, ро́дзяць; радзі́ў, радзі́ла, радзі́лі

**радзі́ць** *зак., каго-што,* (*нарадзіць*) раджу́, ро́дзіш, ро́дзіць, ро́дзім, ро́дзіце, ро́дзяць; радзі́, =це; радзі́ў, радзі́ла, радзі́лі; радзі́ўшы

**радні́цца** *незак.* радню́ся, ро́днішся, ро́дніцца, ро́днімся, ро́дніцеся, ро́дняцца; радні́ся, =цеся; радні́ўся, радні́лася, радні́ліся; ро́днячыся

**радні́ць** *незак., каго-што* радню́, ро́дніш, ро́дніць, ро́днім, ро́дніце, ро́дняць; радні́, =це; радні́ў, радні́ла, радні́лі; ро́днячы

**радчэ́ць** *незак.* радчэ́е, радчэ́юць; радчэ́ў, радчэ́ла, радчэ́лі

**радыёфікава́цца** *зак. і незак.* радыёфіку́ецца, радыёфіку́юцца; радыёфікава́ўся, радыёфікава́лася, радыёфікава́ліся

**радыёфікава́ць** *зак. і незак., што* радыёфіку́ю, радыёфіку́еш, радыёфіку́е, радыёфіку́ем, радыёфіку́еце, радыёфіку́юць; радыёфіку́й, =це; радыёфікава́ў, радыёфікава́ла, радыёфікава́лі; радыёфікава́ны; радыёфікава́ўшы, радыёфіку́ючы

**разабра́цца** *зак.* разбяру́ся, разбярэ́шся, разбярэ́цца, разбяро́мся, разберацёся, разбяру́цца; разбяры́ся, =цеся; разабра́ўся, разабра́лася, разабра́ліся; разабра́ўшыся

**разабра́ць** *зак., каго-што, з дадан. сказам і без дап.* разбяру́, разбярэ́ш, разбярэ́, разбяро́м, разберацё, разбяру́ць; разбяры́, =це; разабра́ў, разабра́ла, разабра́лі; разабра́ны; разабра́ўшы

**разагітава́ць** *зак., каго* разагіту́ю, разагіту́еш, разагіту́е, разагіту́ем, разагіту́еце, разагіту́юць; разагіту́й, =це; разагітава́ў, разагітава́ла, разагітава́лі; разагітава́ўшы

**разагна́цца** *зак.* разганю́ся, разго́нішся, разго́ніцца, разго́німся, разго́ніцеся, разго́няцца; разгані́ся, =цеся; разагна́ўся, разагна́лася, разагна́ліся; разагна́ўшыся

**разагна́ць** *зак., каго-што і без дап.* разганю́, разго́ніш, разго́ніць, разго́нім, разго́ніце, разго́няць; разгані́, =це; разагна́ў, разагна́ла, разагна́лі; разагна́ны; разагна́ўшы

**разагну́цца** *зак.* разагну́ся, разагне́шся, разагне́цца, разагнёмся, разагняце́ся, разагну́цца; разагні́ся, =цеся; разагну́ўся, разагну́лася, разагну́ліся; разагну́ўшыся

**разагну́ць** *зак., каго-што* разагну́, разагне́ш, разагне́, разагнём, разагняце́, разагну́ць; разагні́, =це; разагну́ў, разагну́ла, разагну́лі; разагну́ты; разагну́ўшы

**разаграва́цца** *незак.* разаграва́юся, разаграва́ешся, разаграва́ецца, разаграва́емся, разаграва́ецеся, разаграва́юцца; *і* разаграю́ся, разаграе́шся, разаграе́цца, разаграёмся, разаграяце́ся, разаграю́цца; разаграва́йся, =цеся; разаграва́ўся, разаграва́лася, разаграва́ліся; разаграва́ючыся

**разаграва́ць** *незак., каго-што* разаграва́ю, разаграва́еш, разаграва́е, разаграва́ем, разаграва́еце, разаграва́юць; *і* разаграю́, разаграе́ш, разаграе́, разаграём, разаграяце́, разаграю́ць; разаграва́й, =це; разаграва́ў, разаграва́ла, разаграва́лі; разаграва́ючы

**разагрэ́цца** *зак.* разагрэ́юся, разагрэ́ешся, разагрэ́ецца, разагрэ́емся, разагрэ́ецеся, разагрэ́юцца; разагрэ́йся, =цеся; разагрэ́ўся, разагрэ́лася, разагрэ́ліся; разагрэ́ўшыся

**разагрэ́ць** *зак., каго-што* разагрэ́ю, разагрэ́еш, разагрэ́е, разагрэ́ем, разагрэ́еце, разагрэ́юць; разагрэ́й, =це; разагрэ́ў, разагрэ́ла, разагрэ́лі; разагрэ́ты; разагрэ́ўшы

**разадзе́цца** *зак.* разадзе́нуся, разадзе́нешся, разадзе́нецца, разадзе́немся, разадзе́нецеся, разадзе́нуцца; разадзе́нься, =цеся; разадзе́ўся, разадзе́лася, разадзе́ліся; разадзе́ўшыся

**разадзе́ць** *зак., каго-што* разадзе́ну, разадзе́неш, разадзе́не, разадзе́нем, разадзе́неце, разадзе́нуць; разадзе́нь, =це; разадзе́ў, разадзе́ла, разадзе́лі; разадзе́ты; разадзе́ўшы

**разадзьму́цца** *зак.* разадзьму́ся, разадзьме́шся, разадзьме́цца, разадзьмёмся, разадзьмяце́ся, разадзьму́цца; разадзьмі́ся, =цеся; разадзьму́ўся, разадзьму́лася, разадзьму́ліся; разадзьму́ўшыся

**разадзьму́ць** *зак., што* разадзьму́, разадзьме́ш, разадзьме́, разадзьмём, разадзьмяце́, разадзьму́ць; разадзьмі́, =це; разадзьму́ў, разадзьму́ла, разадзьму́лі; разадзьму́ты; разадзьму́ўшы

**разадзява́цца** *незак.* разадзява́юся, разадзява́ешся, разадзява́ецца, разадзява́емся, разадзява́ецеся, разадзява́юцца; разадзява́йся, =цеся; разадзява́ўся, разадзява́лася, разадзява́ліся; разадзява́ючыся

**разадзява́ць** *незак., каго-што* разадзява́ю, разадзява́еш, разадзява́е, разадзява́ем, разадзява́еце, разадзява́юць; разадзява́й, =це; разадзява́ў, разадзява́ла, разадзява́лі; разадзява́ючы

**разадне́ць** *зак., безас.* разадне́е; разадне́ла

**разадра́цца** *зак.* раздзяру́ся, раздзярэ́шся, раздзярэ́цца, раздзяро́мся, раздзераце́ся, раздзяру́цца; раздзяры́ся, =цеся; разадра́ўся, разадра́лася, разадра́ліся; разадра́ўшыся

**разадра́ць** *зак., каго-што* раздзяру́, раздзярэ́ш, раздзярэ́, раздзяро́м, раздзераце́, раздзяру́ць; раздзяры́, =це; разадра́ў, разадра́ла, разадра́лі; разадра́ны; разадра́ўшы

**разалга́цца** *зак.* разалгу́ся, разалжэ́шся, разалжэ́цца, разалжо́мся, разалжаце́ся, разалгу́цца; разалга́ўся, разалга́лася, разалга́ліся; разалга́ўшыся

**разамкну́цца** *зак.* разамкне́цца, разамкнёмся, разамкняце́ся, разамкну́цца; разамкні́ся, =цеся; разамкну́ўся, разамкну́лася, разамкну́ліся; разамкну́ўшыся

**разамкну́ць** *зак., што* разамкну́, разамкне́ш, разамкне́, разамкнём, разамкняце́, разамкну́ць; разамкні́, =це; разамкну́ў, разамкну́ла, разамкну́лі; разамкну́ты, разамкнёны; разамкну́ўшы

**разамле́ць** *зак.* разамле́ю, разамле́еш, разамле́е, разамле́ем, разамле́еце, разамле́юць; разамле́й, =це; разамле́ў, разамле́ла, разамле́лі; разамле́ўшы

**разану́цца** *зак.* разану́ся, разане́шся, разане́цца, разанёмся, разаняце́ся, разану́цца; разані́ся, =цеся; разану́ўся, разану́лася, разану́ліся; разану́ўшыся

**разану́ць** *зак., каго-што і без дап.* разану́, разане́ш, разане́, разанём, разаняце́, разану́ць; разані́, =це; разану́ў, разану́ла, разану́лі; разану́ўшы

**разапну́цца** *зак.* разапну́ся, разапне́шся, разапне́цца, разапнёмся, разапняце́ся, разапну́цца; разапні́ся, =цеся; разапну́ўся, разапну́лася, разапну́ліся; разапну́ўшыся

**разапну́ць** *зак., каго-што* разапну́, разапне́ш, разапне́, разапнём, разапняце́, разапну́ць; разапні́, =це; разапну́ў, разапну́ла, разапну́лі; разапну́ты; разапну́ўшы

**разаправа́ць** *незак.* разаправа́ю, разаправа́еш, разаправа́е, разаправа́ем, разаправа́еце, разаправа́юць; разаправа́й, =це; разаправа́ў, разаправа́ла, разаправа́лі; разаправа́ючы

**разапрэ́ць** *зак.,* (*разбухнуць ад цяпла і вільгаці*) разапрэ́е, разапрэ́юць; разапрэ́ў, разапрэ́ла, разапрэ́лі; разапрэ́ўшы; (*моцна спацець*) разапрэ́ю,

разапрэ́еш, разапрэ́е, разапрэ́ем, разапрэ́еце, разапрэ́юць; разапрэ́й, =це; разапрэ́ў, разапрэ́ла, разапрэ́лі; разапрэ́ўшы

**разапха́ць** *зак., каго-што* разапха́ю, разапха́еш, разапха́е, разапха́ем, разапха́еце, разапха́юць; разапха́й, =це; разапха́ў, разапха́ла, разапха́лі; разапха́ны; разапха́ўшы

**разапхну́ць** *зак., каго-што* разапхну́, разапхне́ш, разапхне́, разапхнём, разапхняце́, разапхну́ць; разапхні́, =це; разапхну́ў, разапхну́ла, разапхну́лі; разапхну́ты, разапхнёны; разапхну́ўшы

**разара́цца** *незак.* разара́юся, разара́ешся, разара́ецца, разара́емся, разара́ецеся, разара́юцца; разара́йся, =цеся; разара́ўся, разара́лася, разара́ліся; разара́ючыся

**разара́ць** *зак., што,* (*ад араць*) разару́, разарэ́ш, разарэ́, разаро́м, разараце́, разару́ць; разары́, =це; разара́ў, разара́ла, разара́лі; разара́ны; разара́ўшы

**разара́ць** *незак., каго-што,* (*даводзіць да беднасці*) разара́ю, разара́еш, разара́е, разара́ем, разара́еце, разара́юць; разара́й, =це; разара́ў, разара́ла, разара́лі; разара́ючы

**разарва́цца** *зак.* разарву́ся, разарве́шся, разарве́цца, разарвёмся, разарвяце́ся, разарву́цца; разарві́ся, =цеся; разарва́ўся, разарва́лася, разарва́ліся; разарва́ўшыся

**разарва́ць** *зак., каго-што* разарву́, разарве́ш, разарве́, разарвём, разарвяце́, разарву́ць; разарві́, =це; разарва́ў, разарва́ла, разарва́лі; разарва́ны; разарва́ўшы

**разары́цца** *зак.* разару́ся, разары́шся, разары́цца, разары́мся, разарыце́ся, разара́цца; *і* разару́ся, разо́рышся, разо́рыцца, разо́рымся, разо́рыцеся, разо́рацца; разары́ся, =цеся; разары́ўся, разары́лася, разары́ліся; разары́ўшыся

**разары́ць** *зак., каго-што* разару́, разары́ш, разары́ць, разары́м, разарыце́, разара́ць; *і* разару́, разо́рыш, разо́рыць, разо́рым, разо́рыце, разо́рац積; разары́, =це; разары́ў, разары́ла, разары́лі; разаро́ны; разары́ўшы

**разасла́цца** *зак.* рассце́лецца, рассце́люцца; разасла́ўся, разасла́лася, разасла́ліся

**разасла́ць** *зак., каго-што,* (*пасылаць у розныя месцы*) разашлю́, разашле́ш, разашле́, разашлём, разашляце́, разашлю́ць; разашлі́, =це; разасла́ў, разасла́ла, разасла́лі; разасла́ны; разасла́ўшы; *што,* (*паслаць на якой-н. паверхні*) рассцялю́, рассце́леш, рассце́ле, рассце́лем, рассце́леце, рассце́люць; рассцялі́, =це; разасла́ў, разасла́ла, разасла́лі; разасла́ны; разасла́ўшы

**разаспа́цца** *зак.* разасплю́ся, разаспі́шся, разаспі́цца, разаспі́мся, разаспіце́ся, разаспя́цца; разаспі́ся, =цеся; разаспа́ўся, разаспа́лася, разаспа́ліся; разаспа́ўшыся

**разасса́цца** *зак.* разассе́цца, разассу́цца; разасса́ўся, разасса́лася, разасса́ліся

**разасса́ць** *зак., што* разассу́, разассе́ш, разассе́, разассём, разассяце́, разассу́ць; разассі́, =це; разасса́ў, разасса́ла, разасса́лі; разасса́ны; разасса́ўшы

**разасяро́джвацца** *незак.* разасяро́джваецца, разасяро́джваемся, разасяро́джваецеся, разасяро́джваюцца; разасяро́джвайся, =цеся; разасяро́джваўся, разасяро́джвалася, разасяро́джваліся; разасяро́джваючыся

**разасяро́джваць** *незак., каго-што* разасяро́джваю, разасяро́джваеш, разасяро́джвае, разасяро́джваем, разасяро́джваеце, разасяро́джваюць; разасяро́джвай, =це; разасяро́джваў, разасяро́джвала, разасяро́джвалі; разасяро́джваючы

**разасяро́дзіцца** *зак.* разасяро́дзіцца, разасяро́дзімся, разасяро́дзіцеся, разасяро́дзяцца; разасяро́дзься, =цеся; разасяро́дзіўся, разасяро́дзілася, разасяро́дзіліся; разасяро́дзіўшыся

**разасяро́дзіць** *зак., каго-што* разасяро́джу, разасяро́дзіш, разасяро́дзіць, разасяро́дзім, разасяро́дзіце, разасяро́дзяць; разасяро́дзь, =це; разасяро́дзіў, разасяро́дзіла, разасяро́дзілі; разасяро́джаны; разасяро́дзіўшы

**разатка́ць** *зак., што* разатку́, разатчэ́ш, разатчэ́, разатчо́м, разатчаце́, разатку́ць; разатчы́, =це; разатка́ў, разатка́ла, разатка́лі; разатка́ны; разатка́ўшы

**разахво́ціцца** *зак.* разахво́чуся, разахво́цішся, разахво́ціцца, разахво́цімся, разахво́ціцеся, разахво́цяцца; разахво́цься, =цеся; разахво́ціўся, разахво́цілася, разахво́ціліся; разахво́ціўшыся

**разахво́ціць** *зак., каго-што* разахво́чу, разахво́ціш, разахво́ціць, разахво́цім, разахво́ціце, разахво́цяць; разахво́ць, =це; разахво́ціў, разахво́ціла, разахво́цілі; разахво́чаны; разахво́ціўшы

**разахво́чвацца** *незак.* разахво́чваюся, разахво́чваешся, разахво́чваецца, разахво́чваемся, разахво́чваецеся, разахво́чваюцца; разахво́чвайся, =цеся; разахво́чваўся, разахво́чвалася, разахво́чваліся; разахво́чваючыся

**разахво́чваць** *незак., каго-што* разахво́чваю, разахво́чваеш, разахво́чвае, разахво́чваем, разахво́чваеце, разахво́чваюць; разахво́чвай, =це; разахво́чваў, разахво́чвала, разахво́чвалі; разахво́чваючы

**раза́хкацца** *зак.* раза́хкаюся, раза́хкаешся, раза́хкаецца, раза́хкаемся, раза́хкаецеся, раза́хкаюцца; раза́хкайся, =цеся; раза́хкаўся, раза́хкалася, раза́хкаліся; раза́хкаўшыся

**разачха́цца** *зак.* разачха́юся, разачха́ешся, разачха́ецца, разачха́емся, разачха́ецеся, разачха́юцца; разачха́йся, =цеся; разачха́ўся, разачха́лася, разачха́ліся; разачха́ўшыся

**разба́віцца** *зак.* разба́віцца, разба́вяцца; разба́віўся, разба́вілася, разба́віліся

**разба́віць** *зак., што* разба́ўлю, разба́віш, разба́віць, разба́вім, разба́віце, разба́вяць; разба́ў, =це; разба́віў, разба́віла, разба́вілі; разба́ўлены; разба́віўшы

**разбагаце́ць** *зак., на што і без дап.* разбагаце́ю, разбагаце́еш, разбагаце́е, разбагаце́ем, разбагаце́еце, разбагаце́юць; разбагаце́й, =це; разбагаце́ў, разбагаце́ла, разбагаце́лі; разбагаце́ўшы

**разбаза́рвацца** *незак.* разбаза́рваецца, разбаза́рваюцца; разбаза́рваўся, разбаза́рвалася, разбаза́рваліся

**разбаза́рваць** *незак., каго-што* разбаза́рваю, разбаза́рваеш, разбаза́рвае, разбаза́рваем, разбаза́рваеце, разбаза́рваюць; разбаза́рвай, =це; разбаза́рваў, разбаза́рвала, разбаза́рвалі; разбаза́рваючы

**разбаза́рыць** *зак., каго-што* разбаза́ру, разбаза́рыш, разбаза́рыць, разбаза́рым, разбаза́рыце, разбаза́раць; разбаза́р, =це; разбаза́рыў, разбаза́рыла, разбаза́рылі; разбаза́раны; разбаза́рыўшы

**разбалабо́ніць** *зак., што* разбалабо́ню, разбалабо́ніш, разбалабо́ніць, разбалабо́нім, разбалабо́ніце, разбалабо́няць; разбалабо́нь, =це; разбалабо́ніў, разбалабо́ніла, разбалабо́нілі; разбалабо́нены; разбалабо́ніўшы

**разба́лавацца** *зак.* разба́луюся, разба́луешся, разба́луецца, разба́луемся, разба́луецеся, разба́луюцца; разба́луйся, =цеся; разба́лаваўся, разба́лавалася, разба́лаваліся; разба́лаваўшыся

**разба́лаваць** *зак., каго-што* разба́лую, разба́луеш, разба́луе, разба́луем, разба́луеце, разба́луюць; разба́луй, =це; разба́лаваў, разба́лавала, разба́лавалі; разба́лаваны; разба́лаваўшы

**разбалансава́цца** *зак.* разбалансу́ецца, разбалансу́юцца; разбалансава́ўся, разбалансава́лася, разбалансава́ліся

**разбалансава́ць** *зак., што* разбалансу́ю, разбалансу́еш, разбалансу́е, разбалансу́ем, разбалансу́еце, разбалансу́юць; разбалансу́й, =це; разбалансаваў, разбалансава́ла, разбалансава́лі; разбалансава́ны; разбалансава́ўшы

**разбалбата́цца** *зак.* разбалбачу́ся, разбалбо́чашся, разбалбо́чацца, разбалбо́чамся, разбалбо́чацеся, разбалбо́чуцца; разбалбачы́ся, =цеся; разбалбата́ўся, разбалбата́лася, разбалбата́ліся; разбалбата́ўшыся

**разбалбата́ць** *зак., што і без дап.* разбалбачу́, разбалбо́чаш, разбалбо́ча, разбалбо́чам, разбалбо́чаце, разбалбо́чуць; разбалбачы́, =це; разбалбата́ў, разбалбата́ла, разбалбата́лі; разбалбата́ўшы

**разбале́цца** *зак.* разбалі́цца, разбаля́цца; разбале́ўся, разбале́лася, разбале́ліся

**разбалтава́ць** *зак., што* разбалту́ю, разбалту́еш, разбалту́е, разбалту́ем, разбалту́еце, разбалту́юць; разбалту́й, =це; разбалтава́ў, разбалтава́ла, разбалтава́лі; разбалтава́ны; разбалтава́ўшы

**разбалто́ўвацца** *незак.* разбалто́ўваецца, разбалто́ўваюцца; разбалто́ўваўся, разбалто́ўвалася, разбалто́ўваліся

**разбалто́ўваць** *незак., што* разбалто́ўваю, разбалто́ўваеш, разбалто́ўвае, разбалто́ўваем, разбалто́ўваеце, разбалто́ўваюць; разбалто́ўвай, =це; разбалто́ўваў, разбалто́ўвала, разбалто́ўвалі; разбалто́ўваючы

**разбалява́цца** *зак.* разбалю́юся, разбалю́ешся, разбалю́ецца, разбалю́емся, разбалю́ецеся, разбалю́юцца; разбалю́йся, =цеся; разбалява́ўся, разбалява́лася, разбалява́ліся; разбалява́ўшыся

**разбамбі́ць** *зак., што* разбамблю́, разбамбі́ш, разбамбі́ць, разбамбі́м, разбамбіце́, разбамбя́ць; разбамбі́, =це; разбамбі́ў, разбамбі́ла, разбамбі́лі; разбо́мблены; разбамбі́ўшы

**разбаранава́ць** *зак., што* разбарану́ю, разбарану́еш, разбарану́е, разбарану́ем, разбарану́еце, разбарану́юць; разбарану́й, =це; разбаранава́ў, разбаранава́ла, разбаранава́лі; разбаранава́ны; разбаранава́ўшы

**разбарані́ць** *зак., каго-што* разбараню́, разбаро́ніш, разбаро́ніць, разбаро́нім, разбаро́ніце, разбаро́няць; разбарані́, =це; разбарані́ў, разбарані́ла, разбарані́лі; разбаро́нены; разбарані́ўшы

**разбарано́ўвацца** *незак.* разбарано́ўваецца, разбарано́ўваюцца; разбарано́ўваўся, разбарано́ўвалася, разбарано́ўваліся

**разбарано́ўваць** *незак., што* разбарано́ўваю, разбарано́ўваеш, разбарано́ўвае, разбарано́ўваем, разбарано́ўваеце, разбарано́ўваюць; разбарано́ўвай, =це; разбарано́ўваў, разбарано́ўвала, разбарано́ўвалі; разбарано́ўваючы

**разбараня́ць** *незак., каго-што* разбараня́ю, разбараня́еш, разбараня́е, разбараня́ем, разбараня́еце, разбараня́юць; разбараня́й, =це; разбараня́ў, разбараня́ла, разбараня́лі; разбараня́ючы

**разбарса́цца** *зак.* разбарса́ецца, разбарса́юцца; разбарса́ўся, разбарса́лася, разбарса́ліся

**разбарса́ць** *зак., што* разбарса́ю, разбарса́еш, разбарса́е, разбарса́ем, разбарса́еце, разбарса́юць; разбарса́й, =це; разбарса́ў, разбарса́ла, разбарса́лі; разбарса́ны; разбарса́ўшы

**разбартава́ць** *зак., што* разбарту́ю, разбарту́еш, разбарту́е, разбарту́ем, разбарту́еце, разбарту́юць; разбарту́й, =це; разбартава́ў, разбартава́ла, разбартава́лі; разбартава́ны; разбартава́ўшы

**разбаўля́цца** *незак.* разбаўля́ецца, разбаўля́юцца; разбаўля́ўся, разбаўля́лася, разбаўля́ліся

**разбаўля́ць** *незак., што* разбаўля́ю, разбаўля́еш, разбаўля́е, разбаўля́ем, разбаўля́еце, раз-

баўля́юць; разбаўля́й, =це; разбаўля́ў, разбаўля́ла, разбаўля́лі; разбаўля́ючы

**разбе́гацца** *зак.* разбе́гаюся, разбе́гаешся, разбе́гаецца, разбе́гаемся, разбе́гаецеся, разбе́гаюцца; разбе́гаўся, разбе́галася, разбе́галіся; разбе́гаўшыся

**разбе́гчыся** *зак.* разбягу́ся, разбяжы́шся, разбяжы́цца, разбяжы́мся, разбежыце́ся, разбягу́цца; разбяжы́ся, =цеся; разбе́гся, разбе́глася, разбе́гліся; разбе́гшыся

**разбедава́цца** *зак.* разбяду́юся, разбяду́ешся, разбяду́ецца, разбяду́емся, разбяду́ецеся, разбяду́юцца; разбедава́ўся, разбедава́лася, разбедава́ліся; разбедава́ўшыся

**разбіва́цца** *незак.* разбіва́юся, разбіва́ешся, разбіва́ецца, разбіва́емся, разбіва́ецеся, разбіва́юцца; разбіва́йся, =цеся; разбіва́ўся, разбіва́лася, разбіва́ліся; разбіва́ючыся

**разбіва́ць** *незак., каго-што* разбіва́ю, разбіва́еш, разбіва́е, разбіва́ем, разбіва́еце, разбіва́юць; разбіва́й, =це; разбіва́ў, разбіва́ла, разбіва́лі; разбіва́ючы

**разбінтава́цца** *зак.* разбінту́юся, разбінту́ешся, разбінту́ецца, разбінту́емся, разбінту́ецеся, разбінту́юцца; разбінту́йся, =цеся; разбінтава́ўся, разбінтава́лася, разбінтава́ліся; разбінтава́ўшыся

**разбінтава́ць** *зак., каго-што* разбінту́ю, разбінту́еш, разбінту́е, разбінту́ем, разбінту́еце, разбінту́юць; разбінту́й, =це; разбінтава́ў, разбінтава́ла, разбінтава́лі; разбінтава́ны; разбінтава́ўшы

**разбінто́ўвацца** *незак.* разбінто́ўваюся, разбінто́ўваешся, разбінто́ўваецца, разбінто́ўваемся, разбінто́ўваецеся, разбінто́ўваюцца; разбінто́ўвайся, =цеся; разбінто́ўваўся, разбінто́ўвалася, разбінто́ўваліся; разбінто́ўваючыся

**разбінто́ўваць** *незак., каго-што* разбінто́ўваю, разбінто́ўваеш, разбінто́ўвае, разбінто́ўваем, разбінто́ўваеце, разбінто́ўваюць; разбінто́ўвай, =це; разбінто́ўваў, разбінто́ўвала, разбінто́ўвалі; разбінто́ўваючы

**разбіра́цца** *незак.* разбіра́юся, разбіра́ешся, разбіра́ецца, разбіра́емся, разбіра́ецеся, разбіра́юцца; разбіра́йся, =цеся; разбіра́ўся, разбіра́лася, разбіра́ліся; разбіра́ючыся

**разбіра́ць** *незак., каго-што* разбіра́ю, разбіра́еш, разбіра́е, разбіра́ем, разбіра́еце, разбіра́юць; разбіра́й, =це; разбіра́ў, разбіра́ла, разбіра́лі; разбіра́ючы

**разбі́цца** *зак.* разаб'ю́ся, разаб'е́шся, разаб'е́цца, разаб'ёмся, разаб'яце́ся, разаб'ю́цца; разбі́ся, =цеся; разбі́ўся, разбі́лася, разбі́ліся; разбі́ўшыся

**разбі́ць** *зак., каго-што* разаб'ю́, разаб'е́ш, разаб'е́, разаб'ём, разаб'яце́, разаб'ю́ць; разбі́, =це; разбі́ў, разбі́ла, разбі́лі; разбі́ты; разбі́ўшы

**разблакірава́ць** *зак., што* разблакіру́ю, разблакіру́еш, разблакіру́е, разблакіру́ем, разблакіру́еце, разблакіру́юць; разблакіру́й, =це; разблакірава́ў, разблакірава́ла, разблакірава́лі; разблакірава́ны; разблакірава́ўшы

**разблы́тацца** *зак.* разблы́таюся, разблы́таешся, разблы́таецца, разблы́таемся, разблы́таецеся, разблы́таюцца; разблы́тайся, =цеся; разблы́таўся, разблы́талася, разблы́таліся; разблы́таўшыся

**разблы́таць** *зак., што* разблы́таю, разблы́таеш, разблы́тае, разблы́таем, разблы́таеце, разблы́таюць; разблы́тай, =це; разблы́таў, разблы́тала, разблы́талі; разблы́таны; разблы́таўшы

**разблы́твацца** *незак.* разблы́тваюся, разблы́тваешся, разблы́тваецца, разблы́тваемся, разблы́тваецеся, разблы́тваюцца; разблы́твайся, =цеся; разблы́тваўся, разблы́твалася, разблы́тваліся; разблы́тваючыся

**разблы́тваць** *незак., што* разблы́тваю, разблы́тваеш, разблы́твае, разблы́тваем, разблы́тваеце, разблы́тваюць; разблы́твай, =це; разблы́тваў, разблы́твала, разблы́твалі; разблы́тваючы

**разбо́жкацца** *зак.* разбо́жкаюся, разбо́жкаешся, разбо́жкаецца, разбо́жкаемся, разбо́жкаецеся, разбо́жкаюцца; разбо́жкаўся, разбо́жкалася, разбо́жкаліся; разбо́жкаўшыся

**разбо́йнічаць** *незак.* разбо́йнічаю, разбо́йнічаеш, разбо́йнічае, разбо́йнічаем, разбо́йнічаеце, разбо́йнічаюць; разбо́йнічай, =це; разбо́йнічаў, разбо́йнічала, разбо́йнічалі; разбо́йнічаючы

**разбо́львацца** *незак.* разбо́льваецца, разбо́львающца; разбо́льваўся, разбо́львалася, разбо́льваліся

**разбо́ўтацца** *зак.* разбо́ўтаецца, разбо́ўтаюцца; разбо́ўтаўся, разбо́ўталася, разбо́ўталіся

**разбо́ўтаць** *зак., што* разбо́ўтаю, разбо́ўтаеш, разбо́ўтае, разбо́ўтаем, разбо́ўтаеце, разбо́ўтаюць; разбо́ўтай, =це; разбо́ўтаў, разбо́ўтала, разбо́ўталі; разбо́ўтаны; разбо́ўтаўшы

**разбо́ўтвацца** *незак.* разбо́ўтваецца, разбо́ўтваюцца; разбо́ўтваўся, разбо́ўтвалася, разбо́ўтваліся

**разбо́ўтваць** *незак., што* разбо́ўтваю, разбо́ўтваеш, разбо́ўтвае, разбо́ўтваем, разбо́ўтваеце, разбо́ўтваюць; разбо́ўтвай, =це; разбо́ўтваў, разбо́ўтвала, разбо́ўтвалі; разбо́ўтваючы

**разбракава́ць** *зак., што* разбраку́ю, разбраку́еш, разбраку́е, разбраку́ем, разбраку́еце, разбраку́юць; разбраку́й, =це; разбракава́ў, разбракава́ла, разбракава́лі; разбракава́ны *і* разбрако́ваны; разбракава́ўшы

**разбрака́ць** *незак.* разбрака́е, разбрака́юць; разбрака́ў, разбрака́ла, разбрака́лі

**разбра́кнуць** *зак.* разбра́кне, разбра́кнуць; разбра́к, разбра́кла, разбра́клі

**разбрако́ўвацца** *незак.* разбрако́ўваецца, разбрако́ўваюцца; разбрако́ўваўся, разбрако́ўвалася, разбрако́ўваліся

**разбрако́ўваць** *незак., што* разбрако́ўваю, разбрако́ўваеш, разбрако́ўвае, разбрако́ўваем, разбрако́ўваеце, разбрако́ўваюць; разбрако́ўвай, =це; разбрако́ўваў, разбрако́ўвала, разбрако́ўвалі; разбрако́ўваючы

**разбрані́раваць** *зак., што* разбрані́рую, разбрані́руеш, разбрані́руе, разбрані́руем, разбрані́руеце, разбрані́руюць; разбрані́руй, =це; разбрані́раваў, разбрані́равала, разбрані́равалі; разбрані́раваны; разбрані́раваўшы

**разбраха́цца** *зак.,* (*пра сабаку*) разбрэ́шацца, разбрэ́шуцца; разбраха́ўся, разбраха́лася, разбраха́ліся; (*пра чалавека*) разбрашу́ся, разбрэ́шашся, разбрэ́шацца, разбрэ́шамся, разбрэ́шацеся, разбрэ́шуцца; разбрашы́ся, =цеся; разбраха́ўся, разбраха́лася, разбраха́ліся; разбраха́ўшыся

**разбраха́ць** *зак., што* разбрашу́, разбрэ́шаш, разбрэ́ша, разбрэ́шам, разбрэ́шаце, разбрэ́шуць; разбрашы́, =це; разбраха́ў, разбраха́ла, разбраха́лі; разбраха́ўшы

**разбрыда́цца** *незак.* разбрыда́ецца, разбрыда́емся, разбрыда́ецеся, разбрыда́юцца; разбрыда́йся, =цеся; разбрыда́ўся, разбрыда́лася, разбрыда́ліся; разбрыда́ючыся

**разбрысці́ся** *зак.* разбрыдзе́цца, разбрыдзё́мся, разбрыдзяце́ся, разбрыду́цца; разбры́ўся, разбрыла́ся, разбрыло́ся, разбрылі́ся; разбры́ўшыся

**разбубні́цца** *зак.* разбубню́ся, разбубні́шся, разбубні́цца, разбубні́мся, разбубніце́ся, разбубня́цца; разбубні́ся, =цеся; разбубні́ўся, разбубні́лася, разбубні́ліся; разбубні́ўшыся

**разбудава́цца** *зак.* разбуду́юся, разбуду́ешся, разбуду́ецца, разбуду́емся, разбуду́ецеся, разбуду́юцца; разбуду́йся, =цеся; разбудава́ўся, разбудава́лася, разбудава́ліся; разбудава́ўшыся

**разбудава́ць** *зак., што* разбуду́ю, разбуду́еш, разбуду́е, разбуду́ем, разбуду́еце, разбуду́юць; разбуду́й, =це; разбудава́ў, разбудава́ла, разбудава́лі; разбудава́ны *і* разбудо́ваны; разбудава́ўшы

**разбу́джваць** *незак., каго-што* разбу́джваю, разбу́джваеш, разбу́джвае, разбу́джваем, разбу́джваеце, разбу́джваюць; разбу́джвай, =це; разбу́джваў, разбу́джвала, разбу́джвалі; разбу́джваючы

**разбудзі́ць** *зак., каго-што* разбуджу́, разбу́дзіш, разбу́дзіць, разбу́дзім, разбу́дзіце, разбу́дзяць; разбудзі́, =це; разбудзі́ў, разбудзі́ла, разбудзі́лі; разбу́джаны; разбудзі́ўшы

**разбудо́ўвацца** *незак.* разбудо́ўваюся, разбудо́ўваешся, разбудо́ўваецца, разбудо́ўваемся, разбудо́ўваецеся, разбудо́ўваюцца; разбудо́ўвайся, =цеся; разбудо́ўваўся, разбудо́ўвалася, разбудо́ўваліся; разбудо́ўваючыся

**разбудо́ўваць** *незак., што* разбудо́ўваю, разбудо́ўваеш, разбудо́ўвае, разбудо́ўваем, разбудо́ўваеце, разбудо́ўваюць; разбудо́ўвай, =це; разбудо́ўваў, разбудо́ўвала, разбудо́ўвалі; разбудо́ўваючы

**разбуйні́цца** *зак.* разбуйні́цца, разбуйня́цца; разбуйні́ўся, разбуйні́лася, разбуйні́ліся

**разбуйні́ць** *зак., што* разбуйню́, разбуйні́ш, разбуйні́ць, разбуйні́м, разбуйніце́, разбуйня́ць; разбуйні́, =це; разбуйні́ў, разбуйні́ла, разбуйні́лі; разбу́йнены; разбуйні́ўшы

**разбуйня́цца** *незак.* разбуйня́ецца, разбуйня́юцца; разбуйня́ўся, разбуйня́лася, разбуйня́ліся

**разбуйня́ць** *незак., што* разбуйня́ю, разбуйня́еш, разбуйня́е, разбуйня́ем, разбуйня́еце, разбуйня́юць; разбуйня́й, =це; разбуйня́ў, разбуйня́ла, разбуйня́лі; разбуйня́ючы

**разбура́цца** *незак.* разбура́ецца, разбура́юцца; разбура́ўся, разбура́лася, разбура́ліся

**разбура́ць** *незак., што* разбура́ю, разбура́еш, разбура́е, разбура́ем, разбура́еце, разбура́юць; разбура́й, =це; разбура́ў, разбура́ла, разбура́лі; разбура́ючы

**разбу́рвацца** *незак.* разбу́рваецца, разбу́рваюцца; разбу́рваўся, разбу́рвалася, разбу́рваліся

**разбу́рваць** *незак., што* разбу́рваю, разбу́рваеш, разбу́рвае, разбу́рваем, разбу́рваеце, разбу́рваюць; разбу́рвай, =це; разбу́рваў, разбу́рвала, разбу́рвалі; разбу́рваючы

**разбуркава́цца** *зак.* разбурку́ецца, разбурку́юцца; разбуркава́ўся, разбуркава́лася, разбуркава́ліся

**разбу́ркацца** *зак.* разбу́ркаюся, разбу́ркаешся, разбу́ркаецца, разбу́ркаемся, разбу́ркаецеся, разбу́ркаюцца; разбу́ркайся, =цеся; разбу́ркаўся, разбу́ркалася, разбу́ркаліся; разбу́ркаўшыся

**разбурча́цца** *зак.* разбурчу́ся, разбурчы́шся, разбурчы́цца, разбурчы́мся, разбурчыце́ся, разбурча́цца; разбурчы́ся, =цеся; разбурча́ўся, разбурча́лася, разбурча́ліся; разбурча́ўшыся

**разбуры́цца** *зак.* разбу́рыцца, разбу́рацца; разбуры́ўся, разбуры́лася, разбуры́ліся

**разбуры́ць** *зак., што* разбуру́, разбу́рыш, разбу́рыць, разбу́рым, разбу́рыце, разбу́раць; разбуры́, =це; разбуры́ў, разбуры́ла, разбуры́лі; разбу́раны; разбуры́ўшы

**разбу́хаць** *зак.* разбу́хаю, разбу́хаеш, разбу́хае, разбу́хаем, разбу́хаеце, разбу́хаюць; разбу́хай, =це; разбу́хаў, разбу́хала, разбу́халі; разбу́хаўшы

**разбуха́ць** *незак.* разбуха́ю, разбуха́еш, разбуха́е, разбуха́ем, разбуха́еце, разбуха́юць; разбуха́ў, разбуха́ла, разбуха́лі; разбуха́ючы

**разбу́хнуць** *зак.* разбу́хну, разбу́хнеш, разбу́хне, разбу́хнем, разбу́хнеце; разбу́хнуць; разбу́х, разбу́хла, разбу́хлі; разбу́хшы

**разбушава́цца** *зак.,* (*пра стыхійныя з'явы*) разбушу́ецца, разбушу́юцца; разбушава́ўся, разбушава́лася, разбушава́ліся; (*пра чалавека)* разбушу́ю-

ся, разбушу́ешся, разбушу́ецца, разбушу́емся, разбушу́ецеся, разбушу́юцца; разбушу́йся, =цеся; разбушаваўся, разбушава́лася, разбушава́ліся; разбушава́ўшыся

**разбуя́ніцца** *зак.* разбуя́нюся, разбуя́нішся, разбуя́ніцца, разбуя́німся, разбуя́ніцеся, разбуя́няцца; разбуя́нься, =цеся; разбуя́ніўся, разбуя́нілася, разбуя́ніліся; разбуя́ніўшыся

**разбыва́цца** *незак.* разбыва́юся, разбыва́ешся, разбыва́ецца, разбыва́емся, разбыва́ецеся, разбыва́юцца; разбыва́йся, =цеся; разбыва́ўся, разбыва́лася, разбыва́ліся; разбыва́ючыся

**разбы́цца** *зак.* разбу́дуся, разбу́дзешся, разбу́дзецца, разбу́дземся, разбу́дзецеся, разбу́дуцца; разбу́дзься, =цеся; разбы́ўся, разбыла́ся, разбыло́ся, разбылі́ся; разбы́ўшыся

**разбэ́рсацца** *зак.* разбэ́рсаецца, разбэ́рсаюцца; разбэ́рсаўся, разбэ́рсалася, разбэ́рсаліся

**разбэ́рсаць** *зак., што* разбэ́рсаю, разбэ́рсаеш, разбэ́рсае, разбэ́рсаем, разбэ́рсаеце, разбэ́рсаюць; разбэ́рсай, =це; разбэ́рсаў, разбэ́рсала, разбэ́рсалі; разбэ́рсаны; разбэ́рсаўшы

**разбэ́рсвацца** *незак.* разбэ́рсваецца, разбэ́рсваюцца; разбэ́рсваўся, разбэ́рсвалася, разбэ́рсваліся

**разбэ́рсваць** *незак., што* разбэ́рсваю, разбэ́рсваеш, разбэ́рсвае, разбэ́рсваем, разбэ́рсваеце, разбэ́рсваюць; разбэ́рсвай, =це; разбэ́рсваў, разбэ́рсвала, разбэ́рсвалі; разбэ́рсваючы

**разбэ́сціцца** *зак.* разбэ́шчуся, разбэ́сцішся, разбэ́сціцца, разбэ́сцімся, разбэ́сціцеся, разбэ́сцяцца; разбэ́сціўся, разбэ́сцілася, разбэ́сціліся; разбэ́сціўшыся

**разбэ́сціць** *зак., каго-што* разбэ́шчу, разбэ́сціш, разбэ́сціць, разбэ́сцім, разбэ́сціце, разбэ́сцяць; разбэ́сці, =це; разбэ́сціў, разбэ́сціла, разбэ́сцілі; разбэ́шчаны; разбэ́сціўшы

**разбэ́шчвацца** *незак.* разбэ́шчваюся, разбэ́шчваешся, разбэ́шчваецца, разбэ́шчваемся, разбэ́шчваецеся, разбэ́шчваюцца; разбэ́шчвайся, =цеся; разбэ́шчваўся, разбэ́шчвалася, разбэ́шчваліся

**разбэ́шчваць** *незак., каго-што* разбэ́шчваю, разбэ́шчваеш, разбэ́шчвае, разбэ́шчваем, разбэ́шчваеце, разбэ́шчваюць; разбэ́шчвай, =це; разбэ́шчваў, разбэ́шчвала, разбэ́шчвалі; разбэ́шчваючы

**разбяга́цца** *незак.* разбяга́юся, разбяга́ешся, разбяга́ецца, разбяга́емся, разбяга́ецеся, разбяга́юцца; разбяга́йся, =цеся; разбяга́ўся, разбяга́лася, разбяга́ліся; разбяга́ючыся

**разважа́ць** *незак.* развaжа́ю, развaжа́еш, развaжа́е, развaжа́ем, развaжа́еце, развaжа́юць; развaжа́й, =це; развaжа́ў, развaжа́ла, развaжа́лі; развaжа́ючы

**разва́жвацца** *незак.* разва́жваецца, разва́жваюцца; разва́жваўся, разва́жвалася, разва́жваліся

**разва́жваць** *незак., каго-што і без дап.* разва́жваю, разва́жваеш, разва́жвае, разва́жваем, разва́жваеце, разва́жваюць; разва́жвай, =це; разва́жваў, разва́жвала, разва́жвалі; разва́жваючы

**разва́жнічацца** *зак.* разва́жнічаюся, разва́жнічаешся, разва́жнічаецца, разва́жнічаемся, разва́жнічаецеся, разва́жнічаюцца; разва́жнічаўся, разва́жнічалася, разва́жнічаліся; разва́жнічаўшыся

**разва́жыць** *зак., каго-што, з дадан. сказам і без дап.* разва́жу, разва́жыш, разва́жыць, разва́жым, разва́жыце, разва́жаць; разва́ж, =це; разва́жыў, разва́жыла, разва́жылі; разва́жаны; разва́жыўшы

**развалака́цца** *незак.* развалака́ецца, развалака́юцца; развалака́ўся, развалака́лася, развалака́ліся

**развалака́ць** *незак., каго-што* развалака́ю, развалака́еш, развалака́е, развалака́ем, развалака́еце, развалака́юць; развалака́й, =це; развалака́ў, развалака́ла, развалака́лі; развалака́ючы

**развала́квацца** *незак.* развала́кваецца, развала́кваюцца; развала́кваўся, развала́квалася, развала́кваліся

**развала́кваць** *незак., каго-што* развала́кваю, развала́кваеш, развала́квае, развала́кваем, развала́кваеце, развала́кваюць; развала́квай, =це; развала́кваў, развала́квала, развала́квалі; развала́кваючы

**развалачы́** *зак., каго-што* развалаку́, развалачэ́ш, развалачэ́, развалачо́м, развалачаце́, развалаку́ць; развалачы́, =це; развало́к, развалакла́, развалакло́, развалаклі́; развало́чаны; развало́кшы

**развалачы́цца** *зак.* развалачу́ся, развало́чышся, развало́чыцца, развало́чымся, развало́чыцеся, развало́чацца; развало́кся, развалакла́ся, развалакло́ся, развалаклі́ся; развало́кшыся

**развалі́цца** *зак.,* (*разбурыцца*) разва́ліцца, разва́ляцца; разваліўся, развалі́лася, развалі́ліся; (*сесці або легчы неакуратна*) развалю́ся, разва́лішся, разва́ліцца, разва́лімся, разва́ліцеся, разва́ляцца; развалі́ся, =цеся; развалі́ўся, развалі́лася, развалі́ліся; развалі́ўшыся

**развалі́ць** *зак., што* развалю́, разва́ліш, разва́ліць, разва́лім, разва́ліце, разва́ляць; развалі́, =це; развалі́ў, развалі́ла, развалі́лі; разва́лены; развалі́ўшы

**разва́львацца** *незак.* разва́льваюся, разва́льваешся, разва́льваецца, разва́льваемся, разва́льваецеся, разва́льваюцца; разва́львайся, =цеся; разва́льваўся, разва́львалася, разва́льваліся; разва́льваючыся

**разва́львацць** *незак., што* разва́льваю, разва́льваеш, разва́львае, разва́льваем, разва́льваеце, разва́льваюць; разва́львай, =це; разва́льваў, разва́львала, разва́львалі; разва́льваючы

